28 траўня 2021 | № 20 (728)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

«Літаратурная Беларусь»
Стар. 7–18

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



# Над усёй Беларуссю бясхмарнае неба?

Сяргей ПУЛЬША

**«Захоп пасажырскага самалёта», «акт дзяржаўнага тэрарызму», «авіяцыйнае пірацтва», — так большасць еўрапейскіх палітыкаў ацаніла прымусовую пасадку рэйса Ryanair у Мінску. І выглядае на тое, што такія ацэнкі небеспадстаўныя.**

Наступствы гэтага кроку ўжо пачынаюцца і будуць, вельмі верагодна, балючымі для краіны. Такімі, што ніякімі «выгодамі» ў выглядзе арышту апальнага блогера і паказвання сваёй «крутасці» іх не пераб'еш. Прынамсі, на наступны дзень пасля інцыдэнту краіна пачала губляць грошы. І гэта яшчэ мы пад санкцыі не трапілі!

Але — пра ўсё спачатку.

## Хвіліны з доўгімі наступствамі

Лайнер Boeing 737-8AS авіякампаніі Ryanair вылецеў у нядзелю, 23 траўня, па маршруце «Афіны — Вільня». Ляцеў ён сабе і ляцеў, пакуль не апынуўся ў паветранай прасторы Беларусі. Дый тую ён амаль праляцеў, і быў у некалькіх дзясятках кіламетраў ад мяжы з Беларуссю і кропкі прызначэння — над Лідай. У гэты момант ад беларускіх дыспетчараў на борт паступіла паведамленне пра пагрозу рэйсу — верагодна, пра мініраванне самалёта. Беларускія ж дыспетчары загадалі лайнеру развярнуцца і ляцець у Мінск. Хаця, — зноў падкрэслім, — да Вільні на момант развароту было бліжэй.

Да таго ж у «суправаджэнне» рэйсу Ryanair з Баранавічаў вылецеў знішчальнік МіГ-29 з ракетамі класа «паветра-паветра» на крылах. Паводле звестак афіцыйных крыніц, асабіста Лукашэнка аддаваў загад аб пасадцы самалёта ў Мінску.

Да аэрапорта вокамгненна прыбылі не толькі ратавальнікі з Міністэрства па надзвычайных сітуацыях ды медыкі, але і блізу паўсотні амапаўцаў (паводле звестак пасажыраў самалёта). Бомбы на борце самалёта не знайшлі, затое знайшлі апазіцыйнага блогера і журналіста Рамана Пратасевіча, якога беларускія ўлады абвінавачвалі ў тэрарызме і кіраванні масавымі пратэстамі ў Мінску праз тэлеграм-каналы. Пратасевіч быў затрыманы. З ім, як пасля высветлілася, была затрыманая яго дзяўчына, грамадзянка Расіі Соф'я Сапега. Астатніх пасажыраў па пяць чалавек выводзілі з борту, даглядалі і адводзілі ў бок аўтобуса, а потым адвезлі ў будынак аэрапорту. Там іх трымалі каля 7 гадзін, пасля чаго пагрузілі ў той жа самалёт (за выключэннем Пратасевіча, Сапегі, і чатырох невядомых чалавек з, як кажуць, расійскімі пашпартамі) і выправілі на месца прызначэння — у Вільню.

Зразумела, калі міжнародны рэйс дэ-факта перахопліваюць у паветры з дапамогай знішчальніка і прымусова саджаюць у чужым аэрапорце — гэта беспрэцэдэнтная з'ява. І сапраўды мяжуе з паветраным пірацтвам. Тым больш, што самалёт, пакуль ён знаходзіцца ў паветры, карыстаецца правам экстэрытарыяльнасці, — тобок, на ім дзейнічаюць законы «порту прыпіскі». Адзінае, што пілоты павінны выконваць загады наземных дыспетчараў.

Пакуль што не высветлены шэраг момантаў. Напрыклад, як пілоты рэйса Ryanair прынялі рашэнне пра пасадку ў Мінску. Ці было гэта пасля паведамлення беларускіх дыспетчараў пра бомбу на борце самалёта, або яны падпарадкаваліся загаду «ідзі за мной» паднятага ў паветра для «суправаджэння» знішчальніка МіГ-29 ВПС Беларусі?

Расійскі авіяэксперт Вадзім Лукашэвіч адзначыў шэраг цікавых момантаў. Найперш, канешне, блізкасць борта Ryanair да літоўскай сталіцы і мяжы з Беларуссю. Па яго словах, дзве хвіліны — і меркаваная бомба ў самалёце Ryanair была б галаўным болем для літоўскіх дыспетчараў. Да таго ж самалёт не пачаў «скідваць эшалон», зніжацца пры падлёце да Вільні — меркавана, ён імкнуўся як найхутчэй пакінуць беларускую паветраную прастору. Гэтак можа адбывацца ў выпадку пагрозы з боку знішчальніка. У любым выпадку, загад прызямліцца ў Мінску, да якога ляцець удвая даўжэй, чым да Вільні, — нелагічны. «Мабыць, беларускія ўлады не хацелі, каб "бомба" паляцела да суседзяў», — адзначае ён.

У любым выпадку, сітуацыя была настолькі экстраардынарнай, што камандзір самалёта — цар і бог у небе, — вырашыў не рызыкаваць, і ўсё ж паляцець у Мінск.

Гэта цікавыя дэталі, але дэталі істотныя. Таму і пачалі казаць пра «захоп судна, якое выконвала міжнародны рэйс у небе над Беларуссю». І гэта можа выклікаць цунамі непрыемных наступстваў. А можа і не выклікаць — калі Еўропа ў чарговы раз выкажа «глыбокую заклапочанасць».

## Ці сапраўды гэта тэрарызм?

Шмат палітыкаў, асабліва на Захадзе, пачалі кваліфікаваць прымусовую пасадку борта Ryanair у Мінску як акт дзяржаўнага тэрарызму з боку беларускіх уладаў. Але ж ці апраўданыя такія гучныя словы? Падаецца, што так. Таму што сітуацыя з пасадкай рэйса Ryanair у Мінску з пункту гледжання дзеянняў афіцыйнай прапаганды да болю нагадвае іншую сітуацыю — трагедыю рэйса МН-17 у небе над Украінай. Вядома, у нас самалёт не збілі. Але вось рэакцыя ўладаў на гэта — адзін у адзін.

Ва Украіне сепаратысты і прарасійскія баевікі таксама напачатку хваліліся, што «збілі птушку». А потым, усвядоміўшы, што ж яны нарабілі, пачалі спрабаваць хаваць канцы ў ваду і спіхнуць адказнасць на каго-небудзь іншага.

Вось толькі адзін прыклад: тэлеграм-канал «Пул першага» спачатку ўзахлёб паведамляў, што «беларусы абаранілі Еўропу». Нібыта, «паступіла інфармацыя аб мініраванні самалёта», «борт быў амаль над мяжой (Беларусі і Літвы. — Рэд.)», і тым не менш, Лукашэнка «даў безумоўную каманду: самалёт разварочваць і прымаць».

Працяг на стар. 4 »

# «Лечым душы і вучымся»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**«Мы, бацькі, плачам па дзецях, але ў многім самі вінаваты», — разважае Алена, маці палітзняволенага Дзмітрыя Тура. Яе сын абвінавачваецца ва ўдзеле ў масавых беспарадках і з лютага знаходзіцца ў Брэсцкім СІЗА.**

Упершыню Дзмітрыя выклікалі на допыт 9 верасня: на яго завялі крымінальную справу, пасля змясцілі пад хатні арышт. «Я да апошняга моманту спадзявалася, што ён з'ездзе, — кажа Алена. — Але ён верыў, што ўсё будзе добра».

Дзмітрый жыве ў Брэсце, а яго маці, педагог, апошнім часам жыве і працуе ў Смаленскай вобласці. «Мы ніколі не краналі палітычных тэмаў у сям'і, — узгадвае Алена. — Я пражыла ўсё жыццё і не цікавілася палітыкай, бо была ўпэўнена, што ў нашай краіне ўсё добра. Цяпер я разумею дакладна: у той трагедыі, якая цяпер адбываецца, ёсць віна і нашага пакалення. Наша віна ў тым, што мы не цікавіліся, не задумваліся наконт таго, што адбываецца вакол».

Калі Дзіма знаходзіўся пад хатнім арыштам, Алена па віду на жыхарства мела магчымасць адзін раз перасекчы беларускую мяжу. Яна вырашыла прыехаць у Брэст. Аднак за тры дні да яе прыезду Дзмітрыю раптоўна змянілі меру стрымання: з хатняга арышту на прабыванне ў СІЗА.

— Чаму змянілі меру стрымання — я не ведаю, — распавядае Алена. — Сын напярэдадні мне патэлефанаваў і сказаў, што яго выклікаюць падпісаць дакументы. Я адразу сказала: «Цябе адтуль не выпусцяць».

Калі сын трапіў за краты, больш за ўсё я перажывала за асяроддзе, якое будзе яго атачаць. Дзіму ж забралі без нічога, але сукамернікі яго падтрымалі, хоць сядзяць там людзі не толькі па палітычных артыкулах. І гэты факт на многае мне расплюшчыў вочы. Раней той, хто сядзеў за кратамі, быў для мяне злачынцам. Але ж чалавек можа памыліцца — і пасля гэтага больш не рабіць зло. А памылка можа здарыцца з любым!

Калі стаіш у чарзе каля СІЗА, каб перадаць перадачу, то там няма розніцы, па якім артыкуле і хто там сядзіць. Сваякі і адных, і другіх у першы раз не ведаюць пра тое, што ў перадачы трэба перасыпаць гарбату з пакетаў і разгортваць цыгарэты. Калі я ўпершыню стаяла ў такой чарзе, то пабачыла мужчыну, які прынёс перадачу сваёй жонцы. Наверсе ляжала бялізна, а побач — сукенка. Ён збянтэжыўся, сказаў, што жонка папрасіла прывезці адзенне, вось ён і прывёз сукенку... Таксама ён хацеў перадаць пакеты з цукеркамі. Але ж ён не ведаў, што кожную цукерку трэба разгортваць, а пасля расфасоўваць па пакетах. Людзі ў чарзе сталі яму дапамагаць, не пытаўшы нават, па якім артыкуле сядзіць яго жонка. А ён у гэты час стаяў разгублены на марозе.

У лістах Дзіма супакойвае сваякоў. Піша, што з сукамернікамі яму пашанцавала і што папраўіўся, бо мала рухаецца. Стаў маляваць і чытаць беларускіх аўтараў. Алена піша яму лісты, але, каб яны хутчэй даходзілі да сына, іх фатаграфуе і дасылае дачцэ ў Брэст. Дачка адпраўляе іх першым класам. Так, цягам месяца Алена атрымлівае адказ.

— Аказваецца, пісаць лісты вельмі цяжка, — разважае Алена. — Людзі развучыліся пісаць. Напэўна гэта дадзена нам для таго, каб мы навучыліся камунікаваць адно з адным, пісаць адно аднаму, не смс і не паштоўкі дасылаць, а ад рукі, ад душы пісаць, каб вярнуць нас адно да аднаго.

Па словах Алены, за час, які Дзмітрый правёў у СІЗА, ён паглядзеў па-іншаму на адносіны ў сям'і. У лістах ён разважае пра тыя каштоўнасці, пра якія ніколі не разважаў з ёй раней.

— Тое, што адбываецца цяпер, патрэбна ўсім нам, — упэўнена Алена. — З аднаго боку, сітуацыя, якая здарылася ў Беларусі, — нешта нечаканае. Але нічога не бярэцца з ніадкуль. Нас вучаць зверху, вяртаюць да ісцін. Мы, бацькі, плачам па дзецях, але ў многім самі вінаваты. Тое, што адбываецца цяпер, мы зрабілі сваімі рукамі.

Мы адышлі адно ад аднаго у нашых сем'ях — гэта няправільна. А цяпер, канечне, на ўсё паглядзелі па-іншаму. Я ніколі не чытала з такім пераасэнсаваннем Евангелле, як цяпер. І была здзіўлена: да такой ступені там усё проста! Дык дзе ж нашы вочы? У малітве за зняволеных згадваюцца несправядліва асуджаныя. Аказваецца, такая несправядлівасць была і раней. Усё паўтараецца, ідзе па коле... Калі б мы маглі ўсё скласці ў нашых галовах і пачаць жыць правільна, то не было б таго, што адбываецца цяпер. Але нам трэба гэтаму навучыцца, таму зараз — час нашай вучобы. Лечым душы і вучымся. Калі б не гэтая сітуацыя, я б, можа, ніколі і не пачула ад свайго сына такіх слоў пераасэнсавання, хаця і гучыць гэта вельмі страшна. Цяпер адбываецца вайна. Вайна за душы і справядлівасць. А так хочацца паспець пажыць па-чалавечы.

Дзмітрый Тур знаходзіцца ў Брэсцкім СІЗА з лютага. Яго абвінавачваюць ва ўдзеле ў масавых беспарадках у Брэсце (ч. 2 арт. 293 КК). Хлопцу пагражае ад трох да васьмі гадоў зняволення.

Судовы працэс над Дзмітрыем распачнецца 28 траўня. Алена шчыра прызнаецца, што аплачваць паслугі адваката ёй цяжка: сума для сям'і непад'ёмная. Да таго ж, трэба пастаянна класці грошы сыну на рахунак, збіраць перадачы.

А ўсе тыя грошы, якія Дзіма зарабляў і адкладаў на жыццё, заблакаваны на яго рахунках.

Калі ў вас ёсць магчымасць дапамагчы маці Дзмітрыя Тура, падаем рэквізіты яе банкаўскай карткі:
5470 8700 4568 3287
08/21, Беларусбанк

# «Прыклад бадзёрага духу ўсім нам»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**5 супрацьгазаў, балончыкі з фарбай, майкі, бейсболкі, сцягі, пасведчанне Партыі БНФ і прафсаюзны білет — спіс «рэчавых доказаў» у справе, па якой 25 траўня ў Магілёве палітвязням прысудзілі ад 7 да 4 гадоў калоніі. «Новы Час» пагутарыў са сваякамі некаторых асуджаных, якія сёння ўпершыню за доўгія месяцы змаглі ўбачыць сваіх родных скрозь закратаваны акварыум у зале суда.**

## «Яны будуць распаўсюджваць святло»

Нагадаем, сустрашыня БХД Павел Севярынец, актывісты «Еўрапейскай Беларусі» Яўген Афнагель і Андрэй Войніч атрымалі па 7 гадоў узмоцненага рэжыму, іх паплечнікі Павел Юхневіч, Максім Вінярскі, а таксама блогер Дзмітрый Казлоў — па 5 гадоў калоніі агульнага рэжыму, адміністратарка тэлеграм-каналаў Ірына Шчасная — 4 гады калоніі. Іх усіх прызналі вінаватымі ў парушэнні артыкула 293 Крымінальнага кодэкса — удзел у масавых беспарадках.

Суд быў закрытым, але на абвяшчэнне прысуду, якое павінна было быць адкрытым, прапусцілі толькі па двое сваякоў на палітвязня. Пасля працэсу яны распавялі НЧ некаторыя яго акалічнасці. Так, падсудныя сядзелі ў шкляным закратаваным «акварыуме», аточаныя 10 міліцыянтамі-ахоўнікамі. На бліжэйшыя да клеткі лавы нікому сядаць не дазвалялі — нягледзячы на каронавірус усіх зацiснулі на заднія шэрагі. Падчас «суда» зачыталі і спіс «рэчавых доказаў» злачынства, сярод якіх — 5 супрацьгазаў, балончыкі з фарбай, майкі, бейсболкі, сцягі, пасведчанне Партыі БНФ на імя Максіма Вінярскага, прафсаюзны білет...

Родныя зняволеных не чакалі мяккіх прысудаў, таму слёз роспачы пасля агалошвання даўно напісаных «наверсе» тэрмінаў каля Магілёўскага абласнога суда не было. А была цвёрдая ўпэўненасць: іх блізкія не будуць сядзець усе свае тэрміны, мур рухне значна раней. Дый самі падсудныя ў гэтым не сумняваюцца: Павел Севярынец заявіў, што ніякага суда не было, і пачаў скандаваць «Верым, можам, пераможам!», «Жыве Беларусь!» Гэтыя воклічы падхапілі ўсе прысутныя ў зале, апроч хіба супрацоўнікаў суда.

— Калі пералічвалі артыкулы, у якіх сказана пра падпалы, узброены супраціў, гвалт над асобай, якія нібыта здзейснены гэтымі людзьмі (палітвязнямі. — НЧ) — нягледзячы на ўсю трагічнасць моманту, гэта было смешна. Гэта з той жа оперы, што і нібыта ХАМАС самалёт спыніў, — дадае маці палітыка Тацццяна Севярынец. — Гэты суд увойдзе ў гісторыю крыміналістыкі як прыклад таго, як фальсіфікаваліся дакументы і як нельга гуляць чалавечымі лёсамі.

Тацццяна Севярынец абураная прысудам сыну, але ў той жа час яна перакананая: «Камусьці гэта будзе дабраславеннем, таму што гэтыя людзі будуць распаўсюджваць святло там, куды яны трапяць». Жанчына прызнаецца, што раней увесь час, гаворачы пра сына, яна не магла стрымаць слёз. Сёння першы раз, калі яна не заплакала, гаворачы пра Паўла.

— Я не збіраюся плакаць, каб гэтыя пачвары бачылі мае слёзы. Не дачакаюцца — мы будзем жыць!

## Лісты маці ў турму

На абвяшчэнне прысуду да Ірыны Шчаснай прыехалі маці Валянціна і сястра Наталля. Ірыну этапавалі ў Магілёў 11 красавіка, і з таго дня яна перастала атрымліваць «Новы Час» — адміністрацыя заявіла, што газету прызналі «экстрэмісцкай» (хаця гэта няпраўда, газета працягвае выходзіць у рамках заканадаўства). З тых часоў яна фактычна засталася без навінаў — у камеры не было нават тэлевізара.

— Я вельмі баялася, што будзе больш жорсткі прысуд, узмоцнены рэжым, — прызнаецца спадарыня Валянціна. Яна была сведкай затрымання дачкі, калі сілавікі зайшлі за ёй у пад'езд у форме супрацоўнікаў ЖЭСа.

Маці і сястра сёння ўбачылі Ірыну ўпершыню за шэсць месяцаў. Калі спадарыня Валянціна сустрэлася з дачкой позіркамі, у абедзвюх пацяклі слёзы. Але зняволеная выглядае добра, трымаецца бадзёра. Яе родныя таксама імкнуцца захоўваць спакой, хаця гэта даецца няпроста.

— Сказаць, што гэта быў цяжкі час (з моманту затрымання Ірыны. — НЧ) — гэта не сказаць нічога, — уздыхае Наталля. — Наш з Ірынай тата захварэў на анкалогію, у яго 3-я стадыя раку, ён перанёс некалькі аперацый, зараз праходзіць курс хіміятэрапіі. Мы ўсе перахварэлі на каронавірус, і мая свякроў, на жаль, яго не перажыла.

І маці, і бацька Ірыны ад перажыванняў за дачку зноў пачалі паліць, хаця не бралі ў рукі цыгарэты больш як 10 гадоў. Спадарыня Валянціна распавядае, што ад умоваў у СІЗА на Валадарскага ў Ірыны пагоршылася здароўе, вакол вачэй з'явіліся сінякі. Але найбольш цяжка ёй даўся этап на суд у Магілёў.

— У яе ацяклі рукі ад кайданак, што канваір дапамагаў несці сумку — сама яна не магла падняць. У 11 яны выехалі з Валадарскага, у 8 былі ў Магілёве, і потым з 8 раніцы да 11 вечара яшчэ стаялі ў «адстойніку» без вады і ежы. У цягніку не было куды выцягнуць ногі, і ўсё паапухала, — распавядае спадарыня Валянціна.

Сама Ірына, па словах спадарыні Валянціны, найбольш перажывае за свайго сына Германа, якому ў чэрвені споўніцца 11. Ён з бацькам Аляксандрам пасля затрымання Ірыны з'ехаў з краіны, і цяпер піша маме лісты ў турму і вельмі яе чакае.

## «Людзей садзяць у клеткі, а звяры ходзяць вакол»

Сястра Максіма Вінярскага Алена Церашкова зазначае, што ў яе засталіся супярэчлівыя ўражанні ад працэсу.

— З аднаго боку, сёння ахоўнікі паводзілі сябе адэкватна, не хапалі за адзенне — можна сказаць, па-еўрапейску. З іншага — мы бачылі гэты судовы фарс, калі людзей судзяць за іх шчырую грамадзянскую пазіцыю, не падмацаваную ніякімі дэструктыўнымі дзеяннямі.

Мяне вельмі ўразіла, што пералічылі ўсе 12 тысяч і некалькі соцень канфіскаваных налепак, а таксама прынялі рашэнне іх спаліць — цэлы абзац пастановы суда быў прысвечаны пералічэнню гэтых дробязяў, якія пастанавілі знішчыць як тыя, што не маюць матэрыяльнай каштоўнасці. Уразіла і тое, што канфіскавалі тэхніку. Няўжо нашая «IT-краіна» настолькі не можа сабе дазволіць сучасную тэхніку, што тэлефоны і планшэты, якія цягам двух гадоў робяцца састарэлымі, трэба канфіскоўваць? У гэтым праяўляецца дробязнасць нашай дзяржаўнай палітыкі, якая гаворыць сама за сябе.

Максім, і ўсе яны, выглядаюць выдатна, наколькі выдатна можа выглядаць чалавек, які некалькі месяцаў знаходзіцца ў клетцы. Яны не тое што не зломленыя духам — яны могуць даць прыклад бадзёрага духу ўсім нам, — зазначае Алена.

Пра тых, хто стварае бачнасць «правасуддзя», і пра ўлады ўвогуле яна гаворыць: «Яны нас баяцца, прычым настолькі, што людзей садзяць у клеткі, а звяры ходзяць вакол».

*Калі вы можаце падтрымаць палітвязняў і іх сем'і, іх кантакты ёсць у рэдакцыі.*

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Чакаем працяг?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Канешне, цэнтральнай тэмай застаецца (і яшчэ будзе заставацца) «прымусовая пасадка» самалёта Ryanair у Мінску і санкцыі, што напаткаюць за гэта. Шмат пра тое ўжо сказана і напісана. Таму пра наступствы — каротка.**



Фота www.reform.by

Рашэнні Саміту ЕС не набудуць моц да зацвярджэння іх Радай міністраў краін ЕС. Калі адбудзецца пасяджэнне Рады, пакуль невядома. Але самае істотнае ў рэакцыі Саміту ЕС — гэта пункт, які заклікае «прыняць неабходныя меры для забароны беларускім авіякампаніям пералётаў у прасторы Еўрасаюза і доступу ў аэрапорты Еўрасаюза». Тут — наступствы грунтоўныя, і не толькі ў рэчышчы авіяцыі. Вось толькі два прыклады, як гэта тычыцца ўсіх.

Калі ў Беларусі здарыўся валютны крызіс (не адзін раз), і ў банках узнікаў недахоп валюты, Нацбанк тлумачыў гэта тым, што «долары проста не паспелі завезці». То-бок, паперы з партрэтамі мёртвых прэзідэнтаў Сінявокая атрымлівае недзе ў Еўропе ці ЗША. Забарона беларускім авіякампаніям лётаць у Еўропу можа прывесці да таго самага «дэфіцыту долараў», бо хутка даставіць іх у краіну не атрымаецца. Ці я нешта не разумею?

Для грамадзян таксама істотнае тое, што ўсе пасылкі з кітайскага AliExpress у асноўным ідуць да хабаў у Літве ці Латвіі, а адтуль — на растаможку ў Нацыянальны аэрапорт «Мінск». Літва і Латвія больш беларускія борты не адпраўляюць і не прымаюць. Таму чакаць замоўленых рэчаў, на вялікі жаль, давядзецца даволі доўга. Калі мы ўвогуле іх дачакаемся.

Гэта — яскравыя прыклады, як дыктатура ў краіне закранае ўсіх, асабліва тых, хто думае адседзецца за словамі «палітыка мяне не тычыцца». Ёсць выраз: «Калі ты не займаешся палітыкай — палітыка зоймецца табой». Гэта якраз той выпадак, калі палітыка пагрукаецца ў дзверы да кожнага.

Што было б, калі б не было інцыдэнту з Ryanair? Безумоўна, цэнтральнай тэмай тыдня сталі б падпісаныя пакуль што кіраўніком краіны новыя законы аб СМІ, электрасувязі і масавых мерапрыемствах. Закон аб электрасувязі ўступае ў дзеянне адразу пасля апублікавання, два астатнія — праз месяц.

Закон аб СМІ ўзмацняе жорсткасць нормаў, якія тычацца публікацыі забароненай інфармацыі. Пашыраецца ye пералік, уводзіцца забарона на гіперспасылкі на «забароненыя» тэлеграм-каналы, напрыклад. Дадатковыя паўнамоцтвы па блакаванні інтэрнэт-рэсурсаў і сеткавых выданняў атрымліваюць пракуроры, а закрыць СМІ можна нават па атрыманні ліста з «Камісіі па экстрэмізму». Абмяжоўваецца ўдзел замежных асоб у складзе заснавальнікаў СМІ і ўдакладняюцца падставы для пазбаўлення акрэдытацыі журналістаў.

Закон аб масавых мерапрыемствах уводзіць выключна дазвольны парадак іх правядзення. Забараняецца анансаваць мерапрыемствы да атрымання дазволу. Уводзіцца забарона на асвятленне несанкцыянаваных мерапрыемстваў у рэжыме рэальнага часу. Накладаюцца дадатковыя абавязацельствы на журналістаў, якія асвятляюць масавыя мерапрыемствы.

Закон аб электрасувязі прадугледжвае пашырэнне паўнамоцтваў дзяржавы ў частцы абмежавання працы або абмежавання функцыянальнасці сетак электрасувязі.

Як бачым, усе гэтыя законы — выключна абмежавальныя. Аднак тут ёсць адно «але».

У сітуацыі прававвога дэфолту і «іншым разам не да законаў» атрымліваецца, што «не да законаў» — усім, а не толькі сілавікам. Забаронена журналістам працаваць на недазволеных масавых мерапрыемствах? Добра, цяпер яны проста не будуць пазначаць сябе як журналісты. І гэта нават лепш, таму што бэджыкі і камізэлькі з надпісам «Прэса» дзейнічалі на сілавікоў, як чырвоная ануча на быка. Забаронена асвятленне несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў у рэжыме рэальнага часу? Выбачайце, але, згодна з вышэйсказаным, журналістаў там «няма». Яны ператвараюцца ў гэткія «іхтамнеты». А калі «іхтамнет» — то і «асвятлення ў рэальным часе» няма. Але стрымы ад гэтага нікуды не падзенуцца.

Забаронена ставіць гіперспасылкі на забароненыя рэсурсы? Будзем ставіць гіперспасылкі на дазволеныя рэсурсы, у якіх ёсць гіперспасылка на дазволены рэсурс, на якім спасылка на забаронены рэсурс. Так можна.

Закрываюць рэдакцыю як СМІ? TUT.BY гэта дзясяткі гадоў не перашкаджала рабіць якасны кантэнт. Толькі вось пытанне: СМІ ў сваёй працы абмежаваныя — патрабаваннямі заканадаўства, рэдакцыйнай палітыкай, карпаратыўнымі, урэшце, унутранымі этычнымі прынцыпамі. Як толькі СМІ знікае — знікаюць і «кантрольныя інструменты».

Канешне, этычныя нормы нікуды не падзенуцца — іх з журналіста выбіць вельмі цяжка, амаль немагчыма. Аднак закрыццё зарэгістраванага СМІ падштурхоўваюць «былыя СМІ» не ў рэчышча журналістыкі, а ў рэчышча «інфармацыйнай вайны».

Незалежныя журналісты, на хвіліначку, змагаліся і паспяхова перамагалі экспансію ў Беларусь «русского мира». А цяпер уявіце, што гэтыя профі будуць дзейнічаць у рэчышчы «інфармацыйнай вайны» без заканадаўчых і іншых абмежаванняў. «Чатыры варожа настроеныя газеты больш небяспечныя за сто тысяч штыкоў», — сцвярджаў Напалеон, і ён меў рацыю.

Ну і, урэшце, закон аб электрасувязі. «Абмежаванне працы або абмежаванне функцыянальнасці сетак электрасувязі» варта чытаць як адключэнне ці зніжэнне прапускной здольнасці інтэрнэту. У сувязі з гэтым — цікавая статыстыка ад Белстата.

За студзень-сакавік IT-кампаніі разам з сувяззю атрымалі амаль 412 мільёнаў рублёў чыстага прыбытку. У параўнанні са студзенем-сакавіком мінулага года прыбытак зваліўся на 30% (было 587,4 мільёна рублёў). Даныя афіцыйнай статыстыкі не адлюстроўваюць цалкам фінансавае становішча ў сектары «інфармацыя і сувязь», у тым ліку ў IT-кампаніях. У разліках Белстата ўлічаныя паказчыкі толькі часткі буйных кампаній ПВТ, тлумачыць dev.by.

Нягледзячы на такое падзенне, сектар «Інфармацыя і сувязь» сярод усіх відаў дзейнасці застаецца на другім месцы па ўзроўні чыстага прыбытку па выніках першага квартала.

Мажлівасць для ўладаў адключэння інтэрнэту ў любы момант толькі падштурхне да зніжэння гэтых паказчыкаў. А пра інвестыцыі і адкрыццё новых бізнесаў у такой сітуацыі нават размовы не ідзе.

І калі абвал прыбытку на 30% дазволіў флагманам IT-сектару застацца на другім месцы па прыбытках, то якая ж сітуацыя ў іншых галінах эканомікі?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Мікалай Дзядок



**Матэрыялы справы Міколы Дзядка перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд. Яго вінавацяць паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса.**

Следчы камітэт Мінска паведаміў, што завяршыў расследаванне «шматэпізоднай» крымінальнай справы Мікалая Дзядка. Там адзначылі, што ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі ГУБАЗіК МУС «атрымалі доказы аб датычнасці ўдзельніка анархісцкага руху Дзядка да здзяйснення шэрагу злачынстваў».

Паводле следства, 23 жніўня 2020 года абвінавачаны ўзяў актыўны ўдзел у пратэстах, разам з нявызначанымі асобамі «парушаў грамадскі спакой і блакаваў рух транспарту». Таксама, згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, Мікалай Дзядок цягам некалькіх гадоў адміністраваў «радыкальны тэлеграм-канал».

«Для рэалізацыі названай мэты абвінавачаны неаднаразова распаўсюджваў розныя матэрыялы на кіраваным ім тэлеграм-канале, выкарыстоўваючы метады, накіраваныя на дэстабілізацыю становішча ў краіне, штучнае нагнятанне напружанасці і процістаяння ў грамадстве, пашырэнне ідэалогіі экстрэмізму».

У лістападзе 2020 года Дзядка жорстка затрымалі на здымнай кватэры ў пасёлку Сасновы Асіповіцкага раёна. СК заявіў, што ў ходзе ператрусу канфіскавалі «шкляныя бутэлькі з гаруча-змазачнымі матэрыяламі, якія, згодна з заключэннем эксперта Дзяржаўнага камітэту судовых экспертыз, з'яўляюцца прадметамі, дзеянне якіх заснавана на выкарыстанні гаручых рэчываў».

На месцы затрымання сілавікі знялі відэа, на якім на твары Дзядка відавочныя сляды збіцця і ўжывання газу.

### Сафія Сапега



**Дзяўчына, грамадзянка Расіі, якую затрымалі разам з Раманам Пратасевічам, апынулася ў мінскім ізалятары. Ад пачатку да яе не змог трапіць адвакат.**

Ганна Дудзіч, маці Сафіі, з Instagram даведалася, што ў Мінску прызямліўся рэйс, які ляцеў з Афін у Вільню, на борце якога была яе дачка. «Яна была на адпачынку. Звычайная паездка з маладым чалавекам. Мы жывём у Лідзе, мы даведаліся, што самалёт над Лідай развярнулі, да Вільні заставаліся лічаныя хвіліны ляцець», — сказала Ганна Дудзіч.

Дудзіч дадала, што дачка паспела напісаць у WhatsApp толькі слова «мама». «Яна не паспела працягнуць. Больш я з ёй не звязвалася. У цяперашні момант яна знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання на Акрэсціна, мы яе сёння знайшлі, нанялі адваката», — паведаміла жанчына.

У чым абвінавачваюць 23-гадовую Сафію Сапега, дагэтуль невядома. МЗС Расіі запытаў консульскі доступ да затрыманай.

Сапега — грамадзянка Расіі і вучыцца ў ЕГУ на праграме «Міжнародные права і права Еўрапейскага Саюза». Па вяртанні з адпачынку ў Вільні яе чакала абарона магістэрскай працы.

### Сяргей Ціханоўскі



**Блогера і прэтэндэнта ў прэзідэнты разам з паплечнікамі этапавалі ў Гомель. Дата суда пакуль невядомая.**

Разам з Ціханоўскім у Гомель этапаваныя Мікалай Статкевіч, Ігар Лосік, Уладзімір Цыгановіч, Арцём Сакаў і Дзмітрый Папоў.

4 траўня стала вядома, што справу палітвязняў будзе разглядаць Гомельскі абласны суд.

Ціханоўскаму, Сакаву і Папову інкрымінуюць чатыры артыкулы Крымінальнага кодэкса, Мікалаю Статкевічу прад'яўлены толькі адзін артыкул, Лосіку і Цыгановічу — два артыкулы. Блогерам Лосіку і Цыгановічу пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі. Астатнім фігурантам справы — да 15 гадоў зняволення.

Варта адзначыць, што ўсе фігуранты справы былі затрыманыя яшчэ да падзей 9–12 жніўня ў Беларусі. Тым не менш, усім ім прад'яўленае абвінавачанне ў «арганізацыі масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і ўзброеным супрацівам прадстаўнікам улады».

# Над усёй Беларуссю бясхмарнае неба?

« Працяг. Пачатак на стар. 1



Фота www.dw.com

Потым сталі высвятляцца падрабязнасці: інфармацыя аб мініраванні самалёта паступіла ад беларускіх дыспетчараў. І раптам той жа «Пул» тлумачыць, што на момант паступлення інфармацыі аб мініраванні самалёт ужо не быў «амаль над мяжой» (хоць палётныя карты сцвярджаюць адваротнае. — Рэд.), і што і Афіны, і Вільня прасілі прызямліць борт у Мінску (ніводнага пацвярджэння гэтаму не паступіла). А адказнасць за разварот фактычна звальваецца на камандзіра экіпажа, які «прыняў рашэнне разварочвацца ў Мінск».

Калі на хвасце маячыць знішчальнік з ракетамі класа «паветра-паветра», якое рашэнне павінен быў прыняць камандзір самалёта?

Прапагандысты, убачыўшы, у што яны ўляпаліся, пачалі тэрмінова падчышчаць паведамленні ў тэлеграмах, твітарах і гэтак далей. Праўда, кэш Гугла памятае, вядома, не ўсё, але многае, пра што хацелася б забыць.

Мяркуючы проста па рэакцыі беларускіх афіцыйных органаў (асабліва парадавала прэс-служба нашага аэрапорта, якая, не чакаючы заканчэння праверкі самалёта, заявіла, што паведамленне аб мініраванні самалёта было лжывым), гэта сапраўды такі ж акт тэрарызму, як і збіццё МН-17. Толькі, дзякуй Богу, з меншымі наступствамі ў выглядзе чалавечых ахвяр.

### Прычына — Пратасевіч

Інфармацыя пра тое, што на борце быў былы рэдактар забароненага ў Беларусі тэлеграм-канала Раман Пратасевіч, паступіла ў СМІ не адразу. Але як пра тое даведаліся беларускія сілавікі?

Афіцыйны Мінск сцвярджае, што дзяўчына Пратасевіча зрабіла яго фота ў аэрапорце і адправіла іншаму блогеру. Маўляў, так яны і вылічылі. Ва ўмовах беларускага татальнага сачэння гэта магло б спрацаваць, калі не падумаць, колькі ў свеце аэрапортаў, і колькі з гэтых аэрапортаў вылятае рэйсаў кожную гадзіну. Адказ адзін: шмат. Ну і, вядома, трэба ўлічыць, што беларускія сілавікі маюць тэхнічную магчымасць перасоўвацца ў часе. У нас, канешне, ужо неаднаразова судзілі людзей, якія ў адзін і той жа час былі ў розных кропках прасторы. Але загадзя атрымаць фота, зробленае праз паўтары гадзіны пасля прызямлення рэйса Ryanair у Мінску, — гэта нешта новенькае.

Улады Беларусі ведалі, што Пратасевіч ляціць менавіта з Афінаў, і менавіта гэтым рэйсам. Як? Больш падобная на праўду версія самога Пратасевіча: ён заўважыў да сябе назойлівую ўвагу яшчэ падчас рэгістрацыі на рэйс у Афінах. Тады, улічваючы сучасныя сродкі мабільнай сувязі, зразумела, што ў беларускіх уладаў быў час выдумаць версію пра бомбу, давесці яе да выканаўцаў, падрыхтаваць і падняць у паветра знішчальнік...

Але па факце гэта павінна азначаць: агучаная яшчэ ў мінулым годзе інфармацыя, што беларускі КДБ мае сваю каманду па сачэнні і, магчыма, ліквідацыі беларускіх грамадзян за мяжой — цалкам рэальная. А гэта ўжо скандал, магчыма, нават больш, чым прымусовая пасадка самалёта ў Мінску. І заходнія контрвыведкі (як і палітыкі) павінны зрабіць выснову: нельга недаацэньваць «маленькую і сціплую» Беларусь.

Зрэшты, не выключана, што затрыманне Пратасевіча — гэта «сумесная праца» спецслужбаў Беларусі і Расіі. Проста таму, што ў Мінску засталіся не толькі Пратасевіч і яго дзяўчына, але яшчэ і некалькі неназваных пакуль чалавек з расійскімі пашпартамі. Наўрад ці гэтых людзей маглі пакінуць у Беларусі проста таму, што з Мінска ім зручней дабірацца да Масквы...

### Імпэт беларусаў альбо розыгрыш Расіі?

З факту сыходу з рэйсу неназваных асобаў з расійскімі пашпартамі, а таксама з плануемай сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна, тэлеграм-канал «Лялькавод і авечка» робіць выснову, што Расія разумна разыграла паранойю пакуль яшчэ кіраўніка Беларусі, своечасова падкінуўшы яму інфармацыю пра «мінаванне» самалёта і знаходжанне ў ім Пратасевіча. Маўляў, чым не зручны шанец затрымаць апальнага блогера? Лукашэнка імпульсіўна аддаў загад затрымаць борт Ryanair — і трапіў у пастку да Пуціна. Лукашэнка больш не зможа пагражаць сыходам на Захад, таму што для Захаду ён цяпер — накшталт капітана пірацкага судна ля ўзбярэжжа Самалі.

І не толькі пра Захад гаворка. Калі цытаваць канспіралагічную версію каналу, «яшчэ ўчора немагчыма было б уявіць сцэнар, дзе Пуцін проста адпраўляе незгаворлівага Лукашэнку ў СІЗА ФСБ. Захоп хай і нелегітымнага, але ўсё ж кантралюючага цэлую дзяржаву палітыка — велізарны скандал. Але гэта было ўчора. Сёння ж гіпатэтычны арышт Лукашэнкі ў Маскве многія ў свеце ўспрымуць як цалкам легальнае затрыманне міжнароднага злачынцы. А значыць, цяпер Пуцін можа з поўнай падставай пагражаць беларускаму дыктатару не толькі нявыдачай крэдыту, але і прымяненнем метадаў фізічнага ўздзеяння».

Рэакцыя на інцыдэнт Масквы сведчыць якраз на карысць гэтай версіі. Прэс-сакратар Пуціна Пяскоў увогуле адмовіўся каментаваць сітуацыю, а прэс-сакратарка МЗС Расіі Захарава ды персанальна кіраўнік ведамства Лаўроў адказалі Захаду ў стылі «сам дурань», прыгадаўшы інцыдэнты з самалётамі прэзідэнта Балівіі ды разваротам рэйса «Белавія» ва Украіне.

Прыклады, канешне, так сабе. Борт балівійскага кіраўніка, з-за падазрэння, што ён вывозіць Эдварда Сноўдэна, проста не прапусцілі ў паветраную прастору Францыі ды Партугаліі. Самалёт «Белавія» з «антымайданаўцам» Марцірасянам на борце сапраўды завярнулі ў Кіеў. Але пры гэтым ніхто не паведамляў пра бомбы на борце самалёта і не ўздымаў у паветра знішчальнікі.

Больш за тое, Марцірасян вылецеў у Мінск наступным рэйсам. «Белавія» атрымала ад Украіны кампенсацыю, а на той момант прэзідэнт Украіны Парашэнка нават папрасіў прабачэння ў Лукашэнкі.

Пратасевіч нікуды не паляцеў. І прабачэнняў за «прымусовую пасадку» Ryanair ніхто нікому не перадаваў.

### Больш не «выспа стабільнасці»

Цяпер беларускія аналітыкі на ўсю моц гавораць аб наступствах прымусовай пасадкі рэйса Ryanair. Большасць з іх сходзіцца ў адным: Беларусь, якая заўсёды пазіцыянавала сябе «донарам еўрапейскай стабільнасці», ператварылася не проста ў «донара нестабільнасці», а нават і ў пагрозу для Захаду. Палітычны аналітык Пётр Кузняцоў адзначае, што яшчэ з лета разумныя людзі пісалі: пры існуючых характары і дынаміцы развіцця падзей Беларусь немінуча стане для Захаду праблемай і агменем нестабільнасці ля самых межаў. Цяпер адбылося тое, пра што прарочылі: «Цяпер праблемы ў Беларусі — гэта праблемы і Еўропы таксама. Што так будзе, шмат каму было зразумела даўно. Цяпер гэта зразумела ўсім».

**Гэта — логіка дыктатарскіх рэжымаў. Калі іх своечасова не спыніць — жорстка і радыкальна — яны будуць упэўненыя ў сваёй беспакаранасці. А значыць, будуць «закручваць гайкі» далей**

Палітолаг Валерый Карбалевіч таксама адзначае: «Дасюль Захад разглядаў сітуацыю ў Беларусі як унутраную гуманітарную працу: парушэнне ўладамі правоў сваіх грамадзян. Цяпер жа, пасля гэтага інцыдэнту, ЕС і ЗША будуць успрымаць існае беларускае кіраўніцтва як праблему для міжнароднай бяспекі. А гэта зусім іншы статус. З усімі магчымымі наступствамі».

Наступствы нават не дачакаліся рашэння бюракратаў ЕС адносна санкцыйнага адказу на інцыдэнт з самалётам. Авіякампаніі па ўласным рашэнні пачалі аблятаць Беларусь — нікому не хочацца, каб іх борт быў наступным. А ЕС прыняло прынцыповае рашэнне не толькі пра спыненне палётаў еўрапейскіх авіякампаній праз паветра Сінявокай, але і пра забарону самалётам «Белавія» прызямляцца ў аэрапортах краін ЕС.

Гэтае рашэнне яшчэ павінна быць ухвалене Радай міністраў ЕС. Тым не менш, «Белавія» адмяняе свае рэйсы ўжо цяпер. А да ЕС з забаронай палётаў далучылася Украіна.

### Торкнулі носам

Еўрапейскім структурам, калі яны сапраўды турбуюцца пра бяспеку сваіх грамадзян, усё ж давядзецца заклапаціцца сітуацыяй у Беларусі. Раней яны, будзем шчырыя, не асабліва звярталі ўвагу на нашу сітуацыю, у асноўным выказваючы «занепакоенасць» дзеяннямі ўлады ў Мінску, і пры гэтым не разважаючы пра наступствы. Можа быць, цяпер яны ўцямяць, што з дыктатурамі так не працуюць?

Калі падчас акцый пратэсту ў 2020-м затрымалі палякаў і жорстка з імі абыходзіліся проста таму, што яны палякі, гэта мала ўсхвалявала Еўропу. Вынік еўрапейскага маўчання — практычна «этнічныя чысткі» ў дачыненні да польскай дыяспары.

Калі грамадзянку Швейцарыі Наталлю Хершэ асудзілі да значнага турэмнага тэрміну за сарваную з сілавіка маску, Еўропа таксама дэ-факта прамаўчала. Ізраіль бы, напэўна, адправіў групу Масада ратаваць сваю суайчынніцу. Еўропа выказала «глыбокую занепакоенасць».

Цяпер дзеля затрымання Пратасевіча беларускія ўлады «прызямлілі» ў Мінску міжнародны рэйс, паставіўшы пад пагрозу жыцці больш за 170 чалавек. І яшчэ невядома, якім чынам яны прымусілі гэта зрабіць пілотаў Ryanair: ці не пад пагрозай збіць самалёт? Добра, што амаль усіх пасажыраў пасля дагляду адправілі назад у Вільню. Але калі міністры ЕС не ўхваляць рашэнні Рады ЕС, а чарговым разам закліча «расследаваць інцыдэнт» і выкажуць «глыбокую занепакоенасць», можна наўпрост прагназаваць, якім будзе наступны крок беларускіх уладаў. У наступны раз яны гэтак жа захопяць самалёт, але ўжо не адпусцяць ні судна, ні пасажыраў. Яны будуць патрабаваць за іх выкуп — як піраты ў Самалі.

Проста таму, што гэта — логіка дыктатарскіх рэжымаў. Калі іх своечасова не спыніць — жорстка і радыкальна — яны будуць упэўненыя ў сваёй беспакаранасці. А значыць, будуць «закручваць гайкі» далей, выпрабоўваючы рашучасць тых, каго даўно абвясцілі «ворагамі».

Святлана Ціханоўская і яе каманда яшчэ паўгода таму заклікала Еўропу прызнаць АМАП і ГУБАЗіК тэрарыстычнымі арганізацыямі, на што ў Еўропе ёй адказалі: «Мы не можам». У выніку Еўропа атрымала цалкам рэальны акт тэрарызму: захоп паветранага судна. Зменшага, паліцыя Літвы расследуе пасадку ў Мінску рэйса Ryanair менавіта гэтых пазіцый.

Дый пра тое, якім чынам высачылі Пратасевіча ў Афінах, таксама забывацца не варта.

# «Меў гонар падняць паходню паўстання супраць дыктатуры»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Кажуць, Вітольда больш няма. Але я ніколі не паверу ў гэта. Ён жыве ў лістах з-за кратаў, прасякнутых аптымізмам, непарушнай упэўненасцю ў перамозе, і такой шляхетнай годнасцю, якой у наш час, бадай, больш не сустрэнеш. І, канечне, у сваіх справах у імя Бацькаўшчыны.**




З Вітольдам мы перыядычна бачыліся то на сяброўскіх бясэдах у Песках на яго роднай Лідчыне, то на мітынгах у Мінску, то ў Курапатах. Ён быў амаль неразлучны са сваім блізкім сябрам Сяргеем Пантусам — прынамсі мне рэдка ўдавалася бачыць іх паасобку. У адрозненне ад адкрытага Сержука, Вітольд заўжды заставаўся крыху стрыманым, але яго мяккая прыязная ўсмешка сведчыла: гэта — не ганарлівасць, а, хутчэй, сарамлівасць.

Напісаўшы першы ліст Вітольду ў лідскую вязніцу, я, канечне, дала маху, адразу пачаўшы зварот на «ты», — і збянтэжылася, атрымаўшы адказ з выкшталцоным «шаноўная пані Дзіяна» і «вы». У наступным лісце Вітольд патлумачыў: «Я прашу звяртацца да мяне як людзям зручней, але сам звяртаюся да людзей толькі на "вы", пачынаючы ад крымінальнай шпаны і канчаючы аховай. Выключэнні вельмі рэдкія. Гэта дазваляе мне заставацца чалавекам і не дэградаваць».

Што-што, а дэградацыя Вітольду не пагражала. Вось што напісаў пра яго ўжо згаданы сябра Сяргей Пантус: «Калі Вітольда адпусцілі пасля першых пяці содняў у жніўні, летась, я заўважыў у яго пад вокам невялічкі, жаўтаваценькі сіняк. Спытаў, ці не білі яго. «Ды не, — адказаў Вітольд, — пэўна, трошкі прыляцела, калі круцілі на прыступках райвыканкаму, не памятаю, не звяртай увагі, сябра».

Праз пару тыдняў пасля ягонага другога затрымання, з якога ён ужо не вернецца, праз трэцяя-пятыя вусны даведаўся, што Вітольда моцна збілі ў будынку лідскага райвыканкаму ў той вечар.

Ведайце, каты, Вітольд не здаў вас і не скардзіўся, нават у прыватнай гутарцы са мною, са сваім блізкім сябрам.

Ён быў і застаўся назаўжды мацнейшым за вас і вышэйшым на тры галавы!»

Чалавеку, чым прыкладам жыцця і змагання былі паўстанцы Каліноўскага, памяць якіх ён ушаноўваў, усталёўваючы крыжы па ўсёй Гродзеншчыне, немагчыма дэградаваць нават у вязніцы. Ён здолеў захаваць там сваю годнасць, а сістэма не здолела яго пажэрці. Я перакананая, што сэрца Вітольда перастала біцца ў змаганні — і ён у ім перамог, не паддаўшыся гэтай гнілой цемры, аддаўшы жыццё, але захаваўшы гонар. І яшчэ я перакананая, што калі-небудзь мы абавязкова даведаемся праўду. Як быў перакананы ў нашай перамозе Вітольд.



Хтосьці можа запярэчыць, што, маўляў, яго перакананні не спраўдзіліся, і ён загінуў ні за што, так і не дачакаўшыся той самай перамогі. Але не. Сваё зняволенне ён не лічыў дарэмным, хоць, вядома, не прызнаваў ніякай віны: «...Тэрмін у 5 год я ўспрымаю як адзнаку "выдатна" за тое, што меў гонар падняць паходню паўстання супраць дыктатуры сярод самых лепшых людзей Ліды! Сапраўды, для мяне гэта гонар!» — пісаў ён.

Вітольд аддаў жыццё за волю Айчыны, і яго ахвяра — як і ахвяры іншых — не была марнай. Яна насамрэч зрабіла нас бліжэйшымі да нашай перамогі. Толькі цяпер яго словы ўспрымаюцца як прароцтва: з-за турэмных кратаў ён паабяцаў рабіць для гэтага ўсё, што можа, «і нават болей». Ён сапраўды зрабіў «болей». І гэта варта таго, каб у Вольнай Беларусі з'явілася вуліца імя Вітольда Ашурка.

І яшчэ Вітольд напрарочыў, што ў 2021 годзе — «годзе Беларускай Перамогі» — ён выйдзе на волю. Вольным ён сапраўды стаў. Хіба што не паспеў напісаць кнігу і схадзіць з жонкай у тэатр, як планаваў...

**«...Тэрмін у 5 год я ўспрымаю як адзнаку "выдатна" за тое, што меў гонар падняць паходню паўстання супраць дыктатуры сярод самых лепшых людзей Ліды! Сапраўды, для мяне гэта гонар!»**

...Свой апошні ліст Вітольду я даслала пасля 12 траўня, распавяла ў ім пра суд над Паўлам Севярынцам і актывістамі «Еўрапейскай Беларусі», пажар у Будславе. Даслала паштоўку з выявай Нацыянальнага санктуарыя і вобразам Ісуса Міласэрнага. І вельмі прасіла напісаць адказ.

Я ўсё яшчэ чакаю яго, зазіраючы ў паштовую скрыню, каб убачыць там капэрту, падпісаную такім знаёмым, зразумелым почыркам, дзе ляжыць чарговы натхняльны ліст, які нязменна заканчваецца словамі «Жыве Беларусь!».

***

*Нагадаем, што 21 траўня прыйшла жахлівая навіна: у Шклоўскай калоніі памёр Вітольд Ашурак, каардынатар Руху «За Свабоду», сябра Партыі БНФ. Яго цела родныя атрымалі 25 траўня з забінтаванай галавой і тварам. У пасведчанні аб смерці сказана, што прычына не вызначана. У гэты ж дзень Следчы камітэт апублікаваў змантаванае (без даты і часу) відэа са Шклоўскай калоніі, на якім бачна, як нейкі чалавек двойчы губляе прытомнасць і падае. Гэта відэа пакінула шмат пытанняў да абставінаў смерці палітвязня. Аднак ад дадатковай экспертызы родныя адмовіліся.*

*Нагадаем, што 18 студзеня ў Лідзе суддзя Максім Філатаў на закрытым працэсе прысудзіў Вітольду 5 гадоў калоніі агульнага рэжыму. Апошнія два тыдні ад Вітольда не было лістоў. А перад гэтым ён напісаў пра тое, што ў калоніі ў Шклове «палітычным» нашываюць жоўтыя біркі.*

*«Палітычных тут не бракуе. Так што сумаваць нагоды няма. Тым больш, што адміністрацыя выдала загад мець жоўты колер бірак на адзенні, і таму палітычных можна адрозніць здалёк», — пісаў палітвязень.*

*Вітольд Ашурак нарадзіўся ў 1970 годзе ў вёсцы Агароднікі ля Бярозаўкі. Як і многія іншыя мясцовыя хлопцы, пасля школы ўладкаваўся на шклозавод «Нёман», дзе працаваў выдзьмувальнікам. Працаваў аж да той пары, пакуль завод трохі трымаўся і там плацілі нейкія заробкі. Калі ж у эканамічным плане прадпрыемству стала зусім кепска, то Вітольд адтуль звольніўся.*

*Пасля гэтага пачаў зарабляць на жыццё будаўнічымі працамі, у яго была брыгада, разам з якой і ездзіў на розныя аб'екты, даязджалі так нават да Століна.*

*На працягу 2017–2018 гадоў Вітольд Ашурак разам са сваімі паплечнікамі аднавіў між вёскамі Малое Олажава і Мохавічы мемарыял памяці паўстанцам Каліноўскага.*

*Ашурка затрымалі 9 жніўня, у дзень выбараў. Суд пакараў актывіста 20 суткамі: 15 — за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве і пяць — за непавагу да суда, адмовіўся ўстаць, калі з'явіўся суддзя. Аднак праз пяць дзён яго адпусцілі, як і амаль усіх тагачасных палітвязняў, што адбывалі адміністрацыйныя пакаранне. Тым не менш, крымінальную справу завялі ўжо тады.*

*16 верасня Ашурка забралі паўторна, мала таго, што яму заставалася адбыць 15 сутак з мінулага, дык дадалі яшчэ 15 — за ўдзел у мерапрыемствах у Лідзе ў жніўні-верасні. Калі Вітольду заставалася адбыць 2–3 сутак, яго перавялі ў гродзенскае СІЗА па крымінальным артыкуле.*

*«Самая вялікая праблема чалавека як індывідуума — застацца ў самоце і адчуць сваю нязначнасць, нікчэмнасць, — пісаў Вітольд у лісце напачатку красавіка. — Такая самота даводзіць чалавека да вар'яцтва. Але ці самотныя мы з вамі? Нават каб нас змясцілі ў замак Іф, то і там мы не адчувалі б маральнай самоты! Бо мы добра ўсведамляем сабе, што мы — частка беларускай нацыі, супольнасці людзей, аб'яднаных ідэяй пабудовы беларускай дэмакратычнай дзяржавы. Гэтую непарушную сувязь паміж намі нельга забараніць ці знішчыць. Яна належыць толькі нам. Адна з адметнасцей нашага часу — салідарнасць, а гэта і ёсць тая непарушная сувязь!*

*А ці маюць салідарнасць нашы ворагі?*

*Рэсурсы захопленай краіны яны маюць. А вось салідарнасці паміж сабою яны якраз-такі і не маюць! Гэта як пабудаваць дом на пяску. Няхай ён і будзе мець моцныя мураваныя сцены, але ён рухне, бо не мае належнага падмурку.*

*Наша сіла нашмат мацнейшая, чым мы сабе ўяўляем. Падсвядома вораг гэта разумее, таму мы і бачым шалёную мітусню з запалохваннямі і шаманскімі скокамі з шаластунамі вакол вогнішча — маўляў, мы таксама маем "ідэю саўдэпіі". Смеху варта! А па факце — яны б'юць нас за грошы, а мы смяёмся ім у твар бясплатна. Наш рэсурс — неабмежаваны! Яны садзяць нас у турмы, а мы дапамагаем адно аднаму. Мы пашыраем сваю прастору і на турмы! Не мы ў аблозе — нашы ворагі адчуваюць сябе прыхаднямі ў акупаванай імі краіне!*

*Нам застаецца толькі адно — прыняць капітуляцыю знясіленага супастата. І мы гэта зробім! Таму што галоўную перамогу мы ўжо атрымалі — мы адчулі сваю сілу і маральную перавагу.*

*Памятайце, што 2021 год — год Беларускай Перамогі!»*

***26 траўня ў Бярозаўцы Беларусь развіталася са сваім патрыётам. Выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім Вітольда. Немагчыма выказаць наш смутак...***

# «Я ведаю, што хутка ўсе зняволеныя будуць дома»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**«Мне няма чаго баяцца, бо я ўвесь час жыла сумленна», — кажа Вольга Акостка. Глядзіш на гэтую невысокую і хударлявую жанчыну і здзіўляешся: адкуль у яе столькі мужнасці? Адкуль столькі моцы, каб вытрымаць усё, што выпала на яе долю?**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## Кожную секунду чакала мужа

Вольга — маці Руслана Акосткі, які ў лютым атрымаў тры гады зняволення за супраціў і нанясенне цялесных пашкоджанняў супрацоўніку РАУСу. Перад гэтым Руслан абышоў амаль увесь Салігорск з бел-чырвона-белым сцягам. Але Вольга ні на каго за сына не крыўдзіцца і не злуецца. Жанчына перакананая: тым, хто цяпер катуе людзей, усё абавязкова вернецца.

У Вялікіх Заўшыцах, што ў Салігорскім раёне, Вольга з сям'ёй жыве з 2005 года. Паходзіць яна са Століншчыны, але пасля замужжа стала жыць у Гомельскай вобласці. Вольга кажа, што ўмовы на малой радзіме былі кепскія: працу ў калгасе не знайсці, дый дзеці не маглі атрымаць добрую адукацыю, бо вёска знаходзілася далёка ад горада. У Салігорску ў Вольгі жывуць сваякі, якія і параілі перабрацца сюды.

Не паспела жанчына парадавацца жыццю ў Заўшыцах, як яе муж знік без звестак. Магчыма, жыццё ўжо тады гартавала Вольгу, у якой не засталося іншага выйсця, як узяць на сябе сямейныя і гаспадарчыя клопаты. Ёй прыйшлося даведацца, што такое цяжкая праца, якую яна цяпер мусіла рабіць, і … адзінота.

— Я чакала яго кожны дзень, кожную хвіліну, кожную секунду, — узгадвае Вольга. — Шукала яго праз розныя інстанцыі, пісала ў газеты, калі з'явіўся камп'ютар, то шукала і праз сацыяльныя сеткі… Я да апошняга думала, што ён проста паехаў на заробкі і хутка вернецца.

Часоў ішоў, а ад мужа ніякіх звестак не было. Вользе трэба было жыць і гадаваць дзяцей. Іх у Вольгі трое — Руслан, Мікіта і Марыйка. Яна не магла прысвячаць шмат часу дзецям, таму прыдумляла ім розныя забавы. Напрыклад, жанчына на двары зрабіла тэнісны стол. Так, у Акостак, каб пагуляць у тэніс, збіралася ўся вёска. А яшчэ Вольга заўсёды прасіла дзяцей: «Толькі не рабіце нічога, за што б я магла за вас чырванець».

## Замест заробку — мех цукру

Адзінае, чым Вольга магла зарабіць грошы для сям'і, — фізічная праца. Вольга ўладкавалася даяркай у мясцовы калгас. Грошай сям'і не хапала. Першыя месяцы Вольгу разлічвалі цукрам. Дом сям'і далі адразу, але ў ім не было аніякіх выгодаў.

— Гэта былі голыя сцены, без прыбіральні, вады. А яшчэ не было ні плоту ні дарогі. Але я не спужалася. Падумала тады: добра, што калонка на вуліцы — буду больш гуляць на свежым паветры! Часам азіраюся назад і думаю: а як я спраўлялася? На працы здзекаваліся з мяне як маглі. Увесь час дакаралі гэтым жыллём, бо мне ж яго дала дзяржава. Прымушалі рабіць за траіх. Маглі выклікаць і ўдзень, і ўначы…

Праз восем гадоў такога жыцця Вользе паведамілі, што недалёка ад вёскі, дзе яна жыла з мужам, знайшлі яго парэшткі. Экспертыза пацвердзіла, што знойдзеныя косткі — мужа. Вольга з'ездзіла на пахаванне і вярнулася ў Заўшыцы: яе жыццё цяпер было тут.

Час ішоў. Дзеці, якія былі яшчэ малымі, калі знік іх бацька, выраслі. Руслан пасля школы хацеў паступаць у ваенную акадэмію, але не дабраў аднаго балу. У выніку, пайшоў вучыцца на электрагазазваршчыка, пасля адслужыў у дэсантных войсках. Малодшая дачка Марыйка скончыла медычны каледж, цяпер працуе і жыве ў Салігорску. Вольга кажа, што дзяўчына магла б паступіць і ва ўніверсітэт, але пашкадавала маці, якая не магла аплачваць здымнае жыллё. У Мікіты цяпер свая сям'я.

## Жаданне перамен

Вольга ніколі не глядзела на жыццё праз ружовыя акуляры. Яна разумела, што адбываецца ў краіне, бо гэта заўжды адбівалася на яе сям'і.

— Да мяне працаўнікі з сацыяльнай службы прыйшлі толькі аднойчы, — узгадвае Вольга. — Маёй сям'і прапанавалі матэрыяльную дапамогу, але для таго, каб яе атрымаць, трэба было сабраць купу даведак… Для гэтага я мусіла прапускаць працу і аддаваць апошнія грошы на дарогу… Тады я зразумела, што рэальна дзяржава мне не дапаможа.

Вольга не маўчала ніколі, бо на той жа працы заўсёды было тое, за што трэба змагацца. Напрыклад, яна дабівалася, каб адрамантавалі паламаную лядоўню, бо праз гэта скісала малако. Яе тройчы звальнялі, а пасля вярталі, бо ахвочых ісці працаваць даяркай у вёсцы не было.

Жанчына заўсёды любіла чытаць, глядзела Белсат: «Хоць я і працую ў калгасе, але ж я не калгасніца… Я люблю аналізаваць тое, што адбываецца вакол. Калі б кожны з нас умеў разважаць, то мы б даўно зразумелі, што ідзём не ў той бок. Чалавек нараджаецца для жыцця і радасці… А гэтай радасці ў людзей няма».

Мінулай вясной Руслан упершыню стаў размаўляць з маці пра магчымыя змены ў краіне.

— Памятаю, Руслан спытаў у мяне: «Мама, табе не надакучыла так жыць?» — узгадвае Вольга. — Я тады абурылася: хіба мы кепска жывём? У нас свой дом, дагледжаны. У сям'і ніхто не п'е… А ён сказаў, што я б магла жыць лепей і за сваю працу атрымліваць у разы больш. Я магла б улетку некуды паехаць адпачыць, прывесці сябе ў парадак. Я магла б не перажываць з таго, што ў мяне няма чым крэдыт пагасіць… Але на ўсё гэта я сказала, што ў Беларусі, мабыць, ніколі такога не будзе. Я ўсё жыццё працавала, сумленна працавала. А выпаў зуб — і я не магу сабе каронку ўставіць.

Руслан да пачатку пандэміі некаторы час працаваў у Мінску, здымаў жыллё. Але пасля вярнуўся ў вёску і ўладкаваўся ахоўнікам у гіпермаркет у Салігорску.

— Руслан казаў, што ў Мінску людзі нейкія іншыя. Ён абураўся: «Няўжо тут людзі настолькі забітыя, што ўсё гэта трываюць? З гэтым трэба неяк змагацца». Я яму пярэчыла, маўляў, колькі тут жыву, столькі і змагаюся.

Але хутка Вольга сама стала прасіць сына, каб ён тлумачыў ёй падзеі, якія адбываліся ў краіне. За Святлану Ціханоўскую галасавала ўся сям'я. Вольга ў той дзень працавала, таму падчас перапынку пад'ехала на выбарчы ўчастак на роварах. А калі вярталася ўвечары дадому, то пачула страшны гул і пабачыла вайсковую машыну. Жанчына спужалася і схавалася ў кусты: «Тады я падумала, што пачалася вайна. А ў гэты час у Мінску збівалі людзей».

## «Я выходжу!»

Пасля выбараў Руслан далучыўся да стачкама «Беларуськалій», пастаянна ездзіў на акцыі пратэсту ў Мінск і Салігорск. Нават калі Руслана звольнілі з працы за бел-чырвона-белую маску, ён усё адно працягваў выходзіць на мітынгі. Вольга кожны раз чакала сына з нецярплівасцю: хацела хутчэй пачуць яго ўражанні.

— Я добра памятаю той дзень, калі забілі Рамана Бандарэнку, — кажа Вольга. — Руслан падзяліўся навінамі, калі я пасля змены прыйшла з працы. У мяне слёзы пацяклі ручаём…

Тады маці ўпершыню пабачыла слёзы і на вачах сына. Кажа, мужчыны плачуць незаўважна, па-асабліваму. У той вечар Руслан з горыччу казаў пра тых, хто перастаў выходзіць на вуліцы Салігорска, перажываў за стрыечнага брата, фігуранта «Пінскай справы»… А пасля сказаў: «А мне па барабане! Я выходжу!». Тады ён і вырашыў пагуляць па Салігорску з вялікім бел-чырвона-белым сцягам. Адзін.

— Я прасіла, каб ён бярог сябе, бо, калі ён сядзеў 15 сутак у Любані, яму зламалі рэбры, — кажа Вольга.

Але ён яшчэ з дзяцінства абяцаў маці, што яна ніколі не будзе за яго чырванець.

## «Мяне проста паднялі на рукі…»

Калі за шпацыр са сцягам на Руслана завялі крымінальную справу, Вольга была ў разгубленасці: у судовыя ўстановы яна ніколі не звярталася, грошай на адваката не было.

— Тады Бог паслаў мне анёла: мне патэлефанавала валанцёрка з Салігорска, — узгадвае Вольга. — Яна прапанавала наняць адваката. Я патлумачыла, што грошай у мяне няма, і папрасіла пазычыць іх да заробку.

Сям'я валанцёркі адразу прыехала да Вольгі, дала грошай на адваката і дапамагла заключыць з ім дамову. Пасля з'явіліся людзі з Салігорскага стачкама і тыя, з кім Руслан сядзеў у ІЧУ ў Любані… Усе яны сталі апекавацца Русланам і яго сям'ёй: ахвяравалі грошы, збіраць і адвозіць у СІЗА перадачы. Гэта дзейсная дапамога сваякам палітзняволеных, якія жывуць у вёсках.

— Калі нам сталі дапамагаць абсалютна незнаёмыя людзі, я зразумела, што я не адна, і мяне не пакінуць. Салідарнасць дае сілы жыць. Такое адчуванне, што мяне проста паднялі на рукі… Можа быць, упершыню за жыццё да мяне пачалі ставіцца па-чалавечы, а не як да раба.

Праўда, аднавяскоўцы Вольгу не падтрымліваюць.

— Крыўдна? — пытаю Вольгу.

— Не, бо я ведаю тут кожнага. Канечне, чуллівы чалавек заўжды адчуе ад іншых скосы позірк ці кепскую думку… Але я не прымаю гэта блізка да сэрца. У іх такая пазіцыя: маўляў, мая хата з краю, таму, калі будуць збіваць суседа, я нават не выйду на вуліцу і не пацікаўлюся, што адбываецца, а проста буду выдумляць байкі пра злачынцу.

Памаўчаўшы, Вольга дадала: «Нічога страшнага, што глядзяць на мяне скоса… Памяняецца жыццё, паглядзім тады, што яны будуць казаць».

## «Дух выбіць немагчыма»

Сцяг, які Руслан узняў над мясцінамі, дзе ён вырас, яму пасля засунулі рот. Хлопца збілі так, што маці на спатканні з ім пасля суда глядзела на яго яшчэ незагойныя раны на твары. Аднак пры сыне Вольга намагалася не плакаць, хоць слёзы і стаялі камяком у горле.

— Як мацярынскае сэрца можа вытрымаць, пабачыўшы гэта? — пытаю ў Вольгі.

— Тады я проста разважала: няўжо я, маці, і не змагла абараніць сваё дзіця? Я столькі гадоў пражыла ў гэтай дзяржаве! Але я супакойваю сябе тым, што за кратамі знаходзяцца самыя моцныя. Руслан піша, што дух выбіць немагчыма. Ды я і сама ведаю пра гэта. А за пралітыя мацярынскія слёзы будуць караць не толькі зямныя сілы, але і нябесныя. Канечне, я шмат плакала ўжо пасля. Слёзы цяклі і ад пачуцця віны перад моладдзю. Як мы, бацькі, дапусцілі гэта? Чаму не знайшлі ў сабе сілы прыпыніць гэта раней? Але праўду кажуць: пакуль на сваёй скуры не адчуеш боль, не зразумееш.

## Цукеркі для сына

Сёння Вольга кожны дзень чакае звальнення з працы, але разумее, чаму яе дагэтуль там трымаюць: «Яны не звальняюць мяне, бо няма каму працаваць. Кароў даіць жа ніхто не хоча, тым больш за такі заробак». На працу яна ходзіць цяпер зусім не хоча. Пытае сама сябе: якая з яе работніца, калі пастаянна адчувае і крыўду, і боль, і горыч? Тым больш, за мінулы месяц заробак Вользе выдалі са спазненнем: чатырыста рублёў…

З 29 красавіка Руслан знаходзіцца калоніі №3 у пасёлку Віцьба. Кожны раз Вольга спяшаецца з працы дамоў, каб хутчэй зазірнуць у паштовую скрыню. Але лісты з калоніі ад Руслана яна пакуль не атрымала.

Жанчыне сняцца прарочыя сны. Так, ёй і раней снілася, што на сына завядуць крымінальную справу і што яго асудзяць. Прыснілася і тое, што ён, як і ўсе палітвязні, хутка вернецца дадому.

— Я не веру — я ведаю, што хутка ўсе зняволеныя будуць дома, — кажа Вольга. — Трэба проста пачакаць, прытым няма значэння, колькі менавіта — тыдзень ці месяцы. Мы ўсе ўжо жывём у новым вымярэнні. Наша сіла і дух сфарміравалі новую фізічную аснову, а старая ўжо зруйнавалася.

— Сынок, я вельмі цябе люблю, сумую і чакаю дадому, — перадае Вольга Руслану.

А пасля кідае погляд на цукеркі, што ляжаць у вазе. Руслан вельмі любіць салодкае, таму Вольга іх пастаянна набывае. Проста для таго, каб усё было гатова да вяртання Руслана дамоў.

***

Руслан Уладзіміравіч Акостка стаў вядомым пасля таго, як 15 лістапада здолеў прайсці амаль праз увесь горад з бел-чырвона-белым сцягам. Пакараны трыма гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму і матэрыяльнай кампенсацыяй у памеры 2 000 рублёў.

Адрас для лістоў: ПК №3. 211322, Віцебская вобласць, г.п. Віцьба. Калі вы хочаце дапамагчы сям'і Руслана, кантакты ёсць у рэдакцыі.

Літаратурная Беларусь

Выпуск №5 (177)
(травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

Змест



# Васіль Быкаў: «Трэба жыць і змагацца»

**Прапануем «новачасным» чытачам фрагменты гутарак з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым, занатаваныя Юрасём Залоскам у траўні–чэрвені 1995 года. Яны, несумненна, былі найперш абумоўленыя часам, які перажывала Беларусь: рэферэндум аб мове, інтэграцыі з Расіяй і змене нацыянальнай сімволікі. Але гэтыя гутаркі, прысвечаныя лёсу Беларусі ды верагоднасці выжывання беларускай нацыі і культуры, і сёння найактуальныя, — і яскрава сведчаць аб тым, што думкі і словы вялікіх людзей не спазняюцца і не знікаюць, бо існуюць і ў сваім часе, і па-над ім...**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## «Нацыяналізм як неабходная перадумова дэмакратыі»

***— Падзеі, што адбываюцца цяпер у Беларусі, прадказваліся даўно. Гучала нямала папярэджанняў у бок дэмакратычных сілаў аб рэальнай магчымасці наступу сіл камуністычнага рэваншу. Ды, аднак жа, сцвердзіўся самы кепскі з усіх магчымых варыянтаў — горшага і нельга было чакаць. Сёння шмат закідаў на адрас «цынічнага прэзідэнта», «расейскіх спецслужбаў» і да т.п... Вашыя прэтэнзіі да дэмакратычнага руху ў сувязі з паразай нацыянальных сілаў?***

— Прэтэнзіі, так бы мовіць, класічныя, — тыя, што, бадай, спрадвеку прынята адрасаваць дэмакратам: чаму не аб'ядналіся? Але, мабыць, таксама спрадвеку дэмакратыя слухае такія папрокі, але не толькі не аб'ядноўваецца, а няспынна раз'ядноўваецца. Заўджы і ўсюды. Мабыць, такая ўжо прырода, метафізіка гэтае плыні. У процівагу яе антыподам, якія таксама заўсёды і ўсюды, — але аб'ядноўваюцца, зрастаюцца, ператвараюцца ў адно. Як цяпер чырвоныя з карычневымі. Пяцьдзясят гадоў таму яны з крывёю біліся на палёх Еўропы, а цяпер скрозь хаўрусуюцца, утвараючы новы, дзівосны палітычны арганізм, яшчэ больш цынічны, чым камуністы і фашысты пасобку.

Нашыя палітыканы ад тутэйшай палітыкі нікога не абдурылі, як Вы кажаце. Іхнія «дурыкі» былі відаць з самага пачатку. Яны проста вырвалі ўладу... Але новыя — больш цынічныя, нахрапістыя, яны рашуча выкарысталі сілу, у тым ліку і тую, што ходзіць у бронекамізэльках і чорных масках. Яны і не думалі нічога рабіць, апроч бязмежнага ўмацавання бязмежнай улады. І тое зразумела: хто мае ўладу, той мае сілу, а хто мае сілу, таму непатрэбна ніякая праўда.

***— Даруйце, але ж ці не ведае гэты народ, што такое камунізм і якія выгады «найлепшага ў свеце грамадства»? Ведае цудоўна. Ды, аднак жа, выбірае «ранейшых». У чым сакрэт такога парадоксу?***

— Што да выбараў, дык я лічу, што выбары ў нас несвабодныя. Выбары сфальсіфікаваныя ад пачатку да канца... Рэч у фальсіфікацыі. Выбарчыя камісіі зрабілі пэўныя намаганні, самыя розныя — якія, мы ніколі не даведаемся, таму што гэта абсалютна закрытая для публікі і журналістаў справа. Яны робяць гэтую «хімію» ў падполлі.... Таму што яны ведаюць, на чыім баку сіла і каму трэба служыць. Ніхто не будзе выкрыты. Ніхто не будзе абвінавачаны ў фальсіфікацыі... Мясцовыя «вертыкальныя дыктатары» дзеля гэтага стварылі з дапамогай спецслужбаў выбарчыя камісіі са сваіх людзей. І таму адтуль нічога не выйдзе. А назіральнікі, на якіх былі спадзяванні, назіралі проста выбары, сам працэс галасавання. А вось што адбывалася пасля выбараў — гэтага не ведае ніхто. І ніколі гэта не будзе вядома. Ніякіх дакументаў нікому не дадуць, а калі дадуць, дык яны будуць сфальсіфікаваныя, таму што дзе гарантыя таго, што выбарчыя камісіі не мелі запасу свабодных бюлетэняў, якімі яны маглі распарадзіцца як заўгодна: замяніць, падмяніць, выкрэсліць пэўныя прозвішчы? Таму я лічу, што дэмакратычных і свабодных выбараў у нас не было, — як у мінулым, так і цяпер. І калі б уладамі была пастаўлена задача дасягнуць 99,99% «за» па тым ці іншым пытанні ці кандыдатуры, — гэта было б зроблена. Рабіць гэта выдатна навучыліся за гады савецкай улады. Тут цэлая навука...

***— ...Быццам і не было гадоў галоснасці, выкрыцця ГУЛАГу, антычалавечых «сакрэтаў» сацыялістычнай гаспадаркі. А народ, бы тыя рабы, што палюбілі свайго гаспадара, зноў выбірае «баронаў» і «старшыняў». Гэта што — псіхічная паталогія, калапс палітычнай волі? Калі не, то што гэта за народ такі — з такім стаўленнем да палітыкі і палітыкаў, а галоўнае — да самога сябе?***

— ...Некалі я ўсё не мог зразумець, па якіх антрапалагічных прыкметах людзі вылучаюцца ў наменклатуру. Відаць, з вялікім сэнсам гэта робіцца. Яны, як правіла, людзі мажныя, як у арміі — што ні генерал, дык метр у плячах і фізіяномія ні ў які аб'ектыў не лезе. Так і тут. Усе яны абавязкова маюць вельмі зваблівы начальніцкі антураж — якога-небудзь худзенькага, мізэрненькага там не бывае, ён туды не можа прайсці. І займаюць пэўныя пасады. Паглядзіце, хто ў нас цяпер гаспадар на вёсцы? Ды гэтыя, чырвоныя князі і бароны. І як іх не будуць выбіраць? Іх заўсёды будуць выбіраць, бо яны сіла, яны ўлада...

Вядома, чалавеку ўласціва рабіцца разумным пасля паразы, бо «каждый мнит себя героем, видя бой издалека». Рэч не ў памылках БНФ. Фронт зрабіў болей, чым можна было наогул зрабіць у гэтых умовах. Прынамсі, ніводная палітычная партыя не зрабіла болей. І калі на выбарах перавага аказалася на баку камуністаў, дык, мабыць, таму, што кампартыя карыстаецца ўласным, раней напрацаваным капіталам, у той час як Фронт пачынаў барацьбу без аніякага капіталу — ні маральнага, ні матэрыяльнага, ствараючы ўсё ў працэсе замаруджанага, супярэчлівага, труднага Адраджэння. У нас нямала партый, якіх ніяк не абвінаваціш у тых праліках, што цяпер прыпісваюцца БНФ. Яны ні на чым не зацыкліваліся, не радыкалізавалі сваю палітыку, ужо ніяк не цьвялілі рускамоўнае грамадства. Але хіба тыя партыі перамаглі? Яны таксама пацярпелі паразу...

Мабыць, сучасная дэмакратыя (у тым ліку і нацыянальная) не надзелена адэкватнымі сродкамі барацьбы з таталітарнымі, камунафашыстоўскімі сіламі. Мабыць, гэтыя дзве рознаскіраваныя плыні існуюць у розных палітыка-маральных сферах, і калі дэмакратыя змушана карыстацца толькі дэмакратычнымі метадамі (карыстацца іншымі яна не можа, каб не страціць сваёй дэмакратычнасці), дык іхнія супернікі заўсёды вольныя ў выбары сродкаў — ад раз'юшанай хлуслівай прапаганды да тайных хітрасцяў спецслужбаў, АМОНаў і спецназаў у чорных намордніках. Яны не зважаюць на судовую ўладу, якую самі прызначаюць, на СМІ, якімі аператыўна камандуюць. Іх не рэгламентуе ніякая мараль — ні хрысціянская, якая ніколі іх не абыходзіла, ні нават скасабочаная камуністычная этыка, ад якой яны адракліся ў жніўні 1991 года.

Калі мець на ўвазе выбары і рэферэндум, дык на іх вынік наўрад ці паўплывалі якія-небудзь памылкі ці недахопы. Не варта таксама наракаць на несвядомасць «дурнога народа», які гэтак неразумна прагаласаваў.

Працяг на стар. 12–13 (6–7) »

# Зялёныя вуліцы

Алег ЛОЙКА

**1 траўня споўнілася б 90 гадоў вядомаму паэту, празаіку, перакладчыку, педагогу, доктару філалагічных навук, прафесару, член-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алегу ЛОЙКУ.**

**Да свайго адыходу ў іншы свет у лістападзе 2008-га ён актыўна друкаваўся і ў нашым выданні. Згадваючы светлае імя Алега Антонавіча, «новачасная» «Літаратурная Беларусь» друкуе ягоныя згадкі-ўспаміны — пра сваіх родных і блізкіх, пра свае вытокі і першашляхі.**

Перш чым расказаць пра свайго бацьку Антона Цімафеевіча Лойку, я пачну пра маму. Гэта яна яго заўсёды ўшчувала: «Дзяцей не бачыш!.. У хаце не стыкаешся!.. Ніколі цябе дома няма: усё бяжыш і бяжыш кудысьці...».

Кудысьці бацька сапраўды заўсёды бег. І не толькі бег, бо і ехаў. Людзі клікалі бацьку да хворых. І бацька ехаў лячыць, ратаваць хворых, летам ці зімой, у спёку ці ў мароз.

Слонімцам мой бацька стаў 10 лістапада 1929 года, калі яго пад сваё крыло ў Чырвоны Крыж узяў доктар Уладыслаў Маліноўскі. Пры Слонімскім магістраце ён узначаліў Чырвоны Крыж — нешта накшталт палiклінікі, дзе кожны мясцовы чалавек бясплатна мог атрымаць медыцынскую дапамогу. Пры ўрачу павінен быў быць другі чалавек — фельчар. Вось такім другім чалавекам і стаў мой бацька.

Гэта была яшчэ, пэўна, і родавая праднаканаванасць: мой дзед Цімох умеў пакладаць парасят, загаворваў ад рожы, ад пярэпалахаў. А прадзед мой Лявон — бацька дзеда Цімоха, — той увогуле меў славу знахара ледзь не на ўсё Палессе: да яго ў вёску Крывічы, што ля Дзярэчына, прыязджалі ажно з-пад Пінска.

На службу ў польскае войска тату прызвалі з Крывічоў 15 сакавіка 1926 года. Тэрміновую службу адбываў у 3-м санітарным батальёне ў Горадні і 5-м ваенным шпіталі ў Слоніме.

Бацька мне даволі рана прызнаўся: шпіёнская клічка яго была «Госпітальны». Ды дзе бацьку і калі завербавалі — я не ведаю, не спытаў. Не ўдакладняў, не здавалася тады мне такое чымсьці важным. Гурток грамадаўскі, відаць, бацька арганізоўваў ля Баранавіч, відаць, і свой беларускі верш на грамадаўскай хвалі пісаў у Баранавічах. Верш друкаваў пад псеўданімам. Ды дзе, калі?

Тое агенцтва, вядома, фінансавалася: маладому капралу, канешне, лішнія грошы былі не лішнія, але, напэўна, не так з-за іх, а з-за ідэі, з-за сваёй прыхільнасці да Расіі, да Саветаў тата стаў Госпітальным. Які быў з яго агент, мне, вядома, не сказаць. Не думаю, што бацька мог ім стаць у Крывічах — да чыннай службы у польскай арміі. Хоць...

У 1931 годзе доктар Маліноўскі паслаў майго бацьку ў Варшаву на санітарныя курсы. Пасля курсаў бацька стаў санітарным кантралёрам усяго даваеннага Слоніма.

Ад вуліцы да вуліцы, ад падворка да падворка ён аглядаў Слонім. У твар яго ведаў кожны гаспадар хаты, кожны крамнік, кожны цырульнік.

Бацька быў удзельнікам польска-нямецкай вайны. Трапіў у палон да савецкіх войскаў. Яго адпусцілі на радзіму, і недзе познім кастрычнікам ён, прыехаўшы цягніком, ішоў цераз масты над Шчарай, дзе патруль яго арыштаваў. Арышт быў нядоўгі: слонімская міліцыя з даваенных слонімскіх падпольшчыкаў тут жа бацьку вызваліла. І яшчэ не паспела вызваліць, а ганец ад іх стукаўся ўжо ў нашу кватэру на Падгорнай вуліцы 31, паведамляючы маме і нам, дзецям: «Лойка вярнуўся!..».

Я лічу лёс бацькі незвычайным, нават надзвычайным. Многім вядомы налёт, які ўчынілі на Слонім у другую нядзелю пасля пачатку вайны савецкія танкі, танкеткі. Немцы былі ашарашаныя. Штаб самога Гудэрыяна быў у Слоніме спалены. Пасля налёту пачалася расправа: усіх мужчынаў сагналі на стадыён, які тады знаходзіўся між вуліцамі Шасейнай і Жыровіцкай. Трапіў на стадыён і мой бацька. Халоднае дула пісталета ад яго чала адвёў немец, які заўважыў на рукаве бацькі павязку з чырвоным крыжам. Бацьку тут жа адправілі ў шпіталь, і больш як месяц ён не начаваў дома: апераваў раненых. Гэта была народная бяда, але і школа для майго бацькі-медыка.

І зноў прыйшла новая хваля прызнання цудадзейнасці яго рук, новая хваля розгаласу, бо бацька не толькі лячыў, але пасля папраўкі раненых рассылаў іх па вёсках пастухамі, прымакамі. Цераз гэтых раненых бацька пасля займеў сувязь з партызанамі, цераз іх перадаваў партызанам лякарствы, пісаў рэцэпты, па якіх яны маглі набыць лекі ў слонімскай аптэцы. Справа ў тым, што падчас акупацыі мой бацька стаў намеснікам галоўнага раённага ўрача, якім быў Іван Пятровіч Генюш — муж Ларысы Генюш. У аптэцы лякарствы давалі толькі па рэцэптах, завераных галоўным урачом ці маім бацькам. Сувязь з партызанамі — гэта было небяспечна. І каб гэбіткамісар Слоніма Эран, якому бацька мой рабіў масаж, пра тое ведаў, быць бы нам «на Пятралевіцкай гары». Зрэшты, Эран пра тое даведаўся, калі яго ў пасляваенны час у Гамбургу судзілі, а бацька мой на тым судзе быў сведкам ад Слоніма, ад слонімцаў.

З гебіткамісарам Эранам гісторыя склалася трагічнай для майго бацькі. У Гітлера гебіткамісары былі маладыя: Эрану ў Слоніме было не больш, як 35 гадоў. Бацьку майму было тады сорак. Энергічны, не скажу, каб не прыгожы партыец Эран ужо са сваіх трыццаці пяці гадоў бярог сваё здароўе і, ведаючы, які розгалас у майго бацькі-медыка, запрасіў яго да сябе масажыстам. Бацькавыя рукі чараўніка-масажыста хадзілі па спіне фашысцкага гаўляйтэра Эрана. Не ведаў таго, вядома, Эран, што ба́цькі майго рука адначасова падпісвала рэцэпты на лякарствы, што ішлі да партызан. Менавіта лякарствы лучылі майго бацьку з лесам, што паўплывала на лёс майго бацькі пасляваенны, на тое, што яго не рэпрэсіравалі: медаля партызанскага не далі, і на здзек КДБ бацьку цягала да немажлівага. Патрабавалі ад яго розная, але з дакладна ведаю, што патрабавалі сведчання пра Ніну Карач, пра бацьку яе Емяльяна, з якім мой бацька шчыра сябраваў у даваенны час, у якога не раз мы гасцілі ў хаце на першых Рэзках у часы акупацыі. КДБ аднойчы даявяло бацьку да таго, што ён пайшоў на канал тапіцца. Адвяло бяду тое, што ён успомніў не так сваю Марусю-жонку, як нас, дзяцей, мяне і Люсю, — гэта адвяло бяду. А ў выпадку з Нінай Карач былі пагрозы: «Не падпішаш, сын не атрымае залатога медаля». Ні залатога, ні сярэбранага медаля я, выдатнік БСШ №1 горада Слоніма, не атрымаў.

І яшчэ аб адным я не магу не сказаць, гаворачы пра свайго бацьку: аб тым, як яго Слонім праводзіў у апошні шлях. Не толькі Зялёная вуліца развітвалася з ім, труна з яго целам стаяла ў спартзале медвучылішча — будынку, што амаль візаві Ніжняга Замка, у якім быў раддом, у якім былі пакоі і таго Слонімскага Чырвонага Крыжа, у якім бацька пачаў працу з доктарам Маліноўскім. Гарадскія ўлады дазвол далі, і жалобны картэж прайшоў вуліцай Пушкіна да могілак на Ружанскай вуліцы. Шэсцьдзесят пяць вянкоў неслі слонімцы ўслед за бацькавай труной. Гэта я ніколі не забуду!..



Сям'я Лойкаў. Слонім,1934 г. На пярэднім плане ў цэнтры – Алег Лойка

Маці мая перажыла бацьку на чатыры гады. Жыў бы даўжэй бацька мой, жыла б даўжэй на свеце гэтым і мама мая. Выратавальных бацькавых рук маці маёй забракла...

Маму я называў мамай, цешчу — маці. Любіў абаіх, хоць гэта былі розныя любові: па крыві і па заканапасці ў Лілю — спачатку ўхажорку, потым — у жонку, у маці маіх дзяцей. Пры маці быў змалку, малым, дык быў маміным сынком, цешчу-маці пазнаў з сямнаццаці гадоў, і яна — адчуваў — ухвальвала выбар маладой сваёй дачкі Лілі.

Лёсы маіх мамы і маці былі розныя і блізкія, са сваімі радасцямі, са сваім горам. Радасцяў было менш, а гора хлябнулі абедзве, відаць, пораўну. Мая мама нарадзілася каля Ферганы — на станцыі Скобелева 9 жніўня 1906 года. Маці — таксама Марыя, дачка Іосіфа Грыпіча, нарадзілася 22 лютага 1903 года на станцыі Лясной каля Баранавіч, хоць яе маленства да бежанства прайшло ў Шылавічах ля Слоніма. Маленства маёй мамы — Канібадам, Ташкент. Перад першай сусветнай вайной бацька мамы Іван Антонавіч прывёз дачушак Тасю і Марусю на радзіму — у Загалічы і Далкі каля Ружанаў. Дзед Іван быў родам з Загаліч, баба мая — Ксенія Данілаўна Густыр — з Далкоў. Шаснаццацігадовай, з беднай сялянскай сям'і забраў яе купец Янка Зубеня спачатку ў Баку, пасля ў Канібадам. Усяго адзінаццаць дзяцей нарадзіла Ксеня з Далкоў Янку з Загаліч. Але выжылі толькі тры сястрыцы — Тася, Маруся, Валя.

Мама мая з Ташкента вярнулася не ў Загалічы, а ў Альбяртын каля Слоніма. Вярнулася без бацькі... Мой дзед Іван Антонавіч быў за меншавікоў, таму бальшавікі яго ў 1918 годзе расстралялі. Пра гэта мне ўпершыню сказала мама ў 1946 годзе, калі ішлі мы з Ружаной у Загалічы. Быць унукам меншавіка — гэта было тады не надта весела, і аб гэтым я кажу ўпершыню...

Мая мама пабраліся з маім татам 13 чэрвеня 1930 года. Увогуле пабраліся яны — як матросы з разбітых караблёў: першыя каханні і мамы маёй і таты былі нешчаслівымі. Маміна альбяртынскае каханне — Пётр Карэвік, рускі белаэмігрант, былы кадэт — выбраў у жонкі не яе, а другую, пра якую мне мама гаварыла жудасныя рэчы, што, маўляў, яе суперніца прываражыла Карэвіка сліною нябожчыка і што тое прываражэнне каштавала Карэвіку смяротэльнай хваробы — сухотаў, якіх тады не вылечвалі. Паміраў Карэвік, калі мама ўжо выйшла замуж за майго тату, калі на свеце быў ужо я. Не зусім выразна помню тое, але што бацька пайшоў з мамай у прадсмяротны час да Карэвіка — гэта факт. Перад тым былі, праўда, доўгія размовы, ды высакародства бацькавае ўзяло верх. Памяць Карэвіка ў сэрцы мамы была заўсёды — пра Карэвіка нам з Люсяй яна гаварыла часта, часта...

На Татарскай вуліцы ў слонімскім доме Арэдні Шэгігдэвіч, у якім бацькі жылі з 1 кастрычніка 1930 года, 1 мая 1931 года нарадзіўся я...

Пра тое, што я буду пісаць пра сваю маму цяпер, мне нават пісаць страх, успамінаць балюча, мне шкада і сёння тую яе, даведзеную да адчаю, да спробы самагубства. А хто даваў? Не сама ж сябе давяла — яна, руплівіца, уся радасная ў працы, самаадданая як тату, так і гаспадарцы, завесці якую ў Загалічах на радзіме бацькі маёй мамы — тата даў згоду.

Перадгісторыя гаспадарства пачалася, па-сутнасці, яшчэ на Татарскай вуліцы, калі маладая пара Лойкаў завяла свінчо. Дастатку ў сям'і не хапала: нас, дзяцей, ужо двое, малодшая маміна сястра Валя вучылася ў гімназіі (за яе — заплаці, уніформу — купі). Жылі пераважна ў крэдыт, маці толькі і запісвала, куды колькі тых злотых аддаць, каб канцы з канцамі скараціць. Пагэтаму і кідалася мама туды, сюды, і, відаць, самай першай спробай выйсці на дастатак было рашэнне ўзяць кіёск. Рынак, за «спіной» у кіёска была гасцініца «Ерусалімская», амаль візаві — мадэрная аптэка, поблізу — справа — пякарня Зэліка. Месца было бойкае, раніцай мама ці адна з цётак спяшаліся на Парадную — да Рыпа, у якога набіралі «свежыя» газеты, часопісы. Былі ў кіёску і цыгарэты. Не вельмі ведаю, як гандаль газетамі ішоў, але што задума з кіёскам скончылася ледзь не трагічна, памятаю выразна. Узімку сядзець у кіёску было холадна, вось і брала маці дзеля абагрэву гаршчок з жарам:

вугаль памалу тлеў, мама-кіяскёрша аднойчы аднак так і не заўважыла, як учадзела, ледзьве адкачалі…

А спачатку… Спачатку было шчасце Загаліч. Вёска, збітная хатамі пад высокімі цяністымі дрэвамі, цераз дарогу Мізгіры–Ражаная –невялікі выган, за якім стаяў ужо ладны маладняк, які пераходзіў у Запашкі, леваруч якога была пясчаністая дарога да самых Кутоў, дзе проста перад вачыма стаяла Ружанская пушча. Бацька выбраў загуменне насупраць разложыстай ліпы Майсея Харытоніка. Агарадзіў дваццаць сотак, сто дрэў, прывёзшы з лесу, пасадзіў ля плота, а потым — перад вокнамі хаты — пасадзіў і сад: яблынькі, грушкі. Ля аднаго дрэўца позняй восенню сфатаграфаваў і мяне з Люсяй. Перад трыма вокнамі хаткі пад саламянай страхой мама разбіла клумбы: кветак было мора — вяргіні, касачы, павой, ільвіны зеў (іх будзе больш на Зялёнай вуліцы ў Слоніме ў пасляваенны час, але каралевай кветак мама пачалася ўжо там, у Загалічах).

Тата прыязджаў кожную суботу — на ровары, са Слоніма, 34 кіламетры. Гэта было свята, гэта было незабыўнае, непаўторнае. Мама харашэла, мама дабрэла, новы наплыў энергіі, дзейснасці быў у яе на цэлы новы тыдзень!..

Здавалася, раю таму не будзе канца, здавалася, будуць і будуць дажынкі, бо ў Загалічах жыта радзіла, пад паветкай ледзь умяшчаліся снапы, дзве каровы ўжо было, і індыкоў — не злічыць, курак — не злічыць, конь — грывасты, гнеды, пры ім — парабак Антось, пры Антосю — я. На дажынках — бацька, маці, баба Ксеня, цётка Маруся, цётка Валя, з гітарай — з Беразніцы — дзядзька Шут…

І вось гімназістка цётка Валя, поўная маладоснага франдзёрства, замешанага на сацыялізме, заявіла, што Маруся бабу Ксеню ў Загалічах эксплуатуе. Так, эксплуатуе. У абарону ўсіх, каго эксплуатуюць, стала і цётка Тася. Баба Ксеня не толькі нас, Марусіных дзяцей, але і кураў не даглядала. Быў на гаспадарцы парабак Антон. Усё ж пры хаце рабіла маці: паліла, хлеб пякла, даіла, сеяла, жала, падмятала надворак, жоўтым пясочкам пасыпала. Мама мая, тады такая маладая, працу любіла, рук не пакладаючы, ды з якой вэрвай, з якім натхненнем! А тут — эксплуататарка! Ну а што ж Антон? Мой бацька столькі сродкаў улажыў у Загалічы — сваіх, кроўных, ні цешча не ўлажыла, ні цёткі Валя і Тася. Усёроўна ўсё абярталася супраць мае мамы, ды яшчэ з якой здзеклівасцю, з якой яхіднасцю! Мая мама аднойчы таго не вытрымала, і я дасюль удзячны суседзям-гаспадарам ліпы, што была супраць нашага хутара на загуменні — Жэні і Майсею Харытонікам. То ж цётка Жэня, па-сутнасці, выняла маю маму з пятлі.

Бацька быў ашаломлены. Гаспадарку ў Загалічах прадалі. Спадчынных маміных гектараў было ў Загалічах дзесяць, але ўсё нажытае дзялілі на чатырох. Бацькава доля была ў 800 злотых. За тыя грошы бацька купіў у Слоніме надзел зямлі, на якой у 1958 годзе пабудаваў хату.

Мама не была істэрычкай. Ды калі майго бацьку мабілізавалі на польска-нямецкую вайну, што з ёй сталася, я не разумеў. Яна пачала курыць. Мой бацька ў перадваенны час крыху пакурваў. Папяросы, якія ён курыў, называліся «Дамскія». Якія там дамскія?! Мама курыла чорт ведае што — заўзята, зацята…

Ба́цькі не было жнівень, верасень, кастрычнік. Верасень — то ж быў верасень 1939 года. Памідоры тым летам у мамы вельмі ўрадзілі. Два памідоры вагой больш па паўкілаграма, лежачы на крэдэнсе-буфеце, усё ж дачакаліся майго бацьку з вайны…

1939–1941 гады, — верасень, адпаведна — май, — для ўсіх слонімцаў былі цяжкімі — перадусім для гаспадынь. Мама мая трымала парасят, трымала гусей: парасятам жмых і конскія «яблыкі» (іх збіраў я), для гусей — галушкі з таго ж жмыху і абойнай мукі (іх круцілі мы з Люсяй). Горад перанаселены — у нас у двары сем новых яўрэйскіх сем'яў, — бежанцаў з Польшчы. Каб купіць булку хлеба, трэба дзве, тры гадзіны адстаяць у чарзе. Купіць кавалак мыла — займай чаргу са світання, а гібу сітца — з самай апоўначы. У чэргах па хлеб і мыла прастойвалі тыя два гады і мая мама, і мая будучая маці-цешча…

І — цяпер не верыцца! — гады нямецка-фашысцкай акупацыі ў матэрыяльных адносінах аказаліся ледзь не райскімі.

Толькі лета 1941-га было паўгалодным, калі на картачкі давалі 200–300 грам хлеба аўсянага, з асцюкамі, а ў хаце было толькі проса, пару мяшкоў якога цёткі Валя і Маруся прынеслі, зрабаваныя з магазіна. Зрабавалі яны і пару мяшкоў махоркі. Пачку махоркі, калі пачалі капаць бульбу, выменьвалі на мяшок бульбы. Мама стала шыць, паехала па вёсках, і завялася да бульбы і скварка.

«Што з тае чэсці, калі няма чаго есці!» — пры Польшчы, калі жылі пастаянна ў крэдыт, часта любіла паўтараць мама. Бацька быў санітарным кантралёрам горада і мог упаўне злоўжыць сваім становішчам: крамнікам, парыкмахерам ці пекарам лягчэй жа было адкупіцца, чым плаціць штрафы за антыгігіену. Мама нават у раздражненні тыцкала пальцам у бок дома паліцыянта: «То ж з "лапувак" будуецца, усе ведаюць…». Якія «лапуўкі»?!. Ніякіх «лапувак»!» Ды і мінімальнымі штрафамі бацька абыходзіўся. Чэсць для яго была вышэй усяго — чэсць ужэндніка магістрата, чэсць па службе!

У акупацыі пачалося нешта іншае. Пачалася татава слава медыка, у хаце на Зялёнай, чакаючы яго на абед, сядзелі заўсёды хворыя. Маме гэта не вельмі падабалася, але яна заўсёды была абыходлівая з людзьмі. Бацька ніколі цаны за візіт клііентам сваім не назначаў: «Ат! Колькі можаце, калі можаце — можаце аддаць жонцы…». Хворыя пакідалі то дзясятак яечак, то акрайчык сала, то паўлітэрку самагона…

Словам, тут хапала ўжо і чэсці, і чаго есці, але з самога пачатку акупацыі больш, чым чэсці і есці, было страху.

Першы месяц вайны я з Люсяй быў у Крывічах у дзеда. Ужо ў сенях, на Падгурнай, калі вярнуўся з Крывічоў, — навіна: на нашых дзвярах іконка. Уваходжу з кухні ў вялікі пакой, прыцемак, вокны занавешаны, на ложку ляжыць бледная мама. Роды былі няшчасныя. Меўся ў мяне быць брацік Пётр, ды пупавіна яго задушыла. Нікога з акушэрак не было поруч, бо ў горадзе быў бой, просьбы бацькі дагледзець роджаніцу не падзейнічалі. Аб тым я даведаюся пасля, але яшчэ не абняўшы мамы, чую на вуліцы строкат матацыкла і кідаюся да акна адзанавесіць, пагляддзець (адзіны ж у даваенным Слоніме быў матацыкл — у дзядзькі Хамені): што тут было! Мама яшчэ больш пабляднела, крычыць: «Не руш, не чапай, страляць будуць!». Бо калі што немцы заўважалі зварушаным у акне, адразу секлі кулямі.

Горад не адышоў яшчэ ад франтавога. Фашысты былі ў Слоніме ўжо ў аўторак. Бяспечна атабарыліся, а тут — праз тыдзень ад пачатку вайны — праз Слонім, яго мастамі цераз Шчару пайшлі на прарыў танкі, танкеткі, пяхота. Спалілі штаб Гудэрыяна. Цяжкіх танкаў — савецкіх, падбітых — на вуліцах засталося тры, чацвёрты праваліўся ў Шчару на мосце праз канал Агінскага, дзве спаленыя танкеткі засталіся ля касцёла Святога Андрэя, адна — супраць брамы перад Касцёлам Святой Марыі. Колькі байцоў загінула, ніхто не лічыў. Крыжоў на брацкіх магілках, што ўзніклі на старых яўрэйскіх могілках між вуліцамі Падгорнай і Андрыеўскага, было не палічыць.

Пасля таго штурму — прарыву савецкіх падраздзяленняў цераз Слонім — акцыі акупантаў былі надзвычайныя. Гэта, відаць, было ў другі аўторак пасля пачатку вайны. Усіх слонімскіх мужчын зганялі на стадыён. Трапіў туды і мой бацька…

Акупацыя для маёй мамы — час суцэльнай боязі ўдзень і ўначы, за нас, дзяцей, боязі за бацьку, боязі кожнай павесткі, боязі кожнага немца. Асобная боязь — прышэльцы з гета, перахаванне іх рэчаў, дапамога з прадуктамі. Усе суседзі пры Польшчы ў нас былі сябрамі, усе ішлі, з даверлівасцю несучы на перахоў свае рэчы — перадусім адзежу. Але ляжала ў нас у шуфлядцы малога століка памерам як вялікая шакаладка плітка плацін. Прынеслі ўрачы Коганы — бежанцы з Варшавы. Я трымаў тую плітку ў руках, не ведаючы, што трымаю. Коганы як прынеслі яе, так і забралі. Перад халадамі пабралі ўсе нашыя сябры-суседзі і сваю зімнюю адзежу, — толькі зялёную бравэрку сусед Іцак падарыў бацьку, і бацька яе доўга насіў і вельмі любіў. З таго, што нам далі на перахоў, застаўся не забраным ровар-дамка і скураная куртка, у якой, хоць яна была мне не па плячы, я пазней паехаў у студэнты.

Мама ў даваенны час не вельмі была набожная, каб стукаць паклоны ў царкве перад абразамі, каб спяшацца да споведзі. Ды ўсё перайначыла вайна. Мама мяне з Люсяй цяпер у царкву проста гнала, — на абедню — штонядзелю, да споведзі — штогод. Я яшчэ ў 8-ым класе, у 1946 годзе, хадзіў да прычасця! Той жа ваеннага часу прымус хадзіць у царкву — ён быў менш за ўсё ад Страху Божага, ад Страху Кары Боскай. Проста светам уладарылі карнікі, над кожным навісалі расстрэл, пятля, канцлагер, вываз у Нямеччыну. «Засцеражы, Божа, дзяцей маіх ад усяго гэтага!» — прасіла мая мама ў Бога і лічыла нялішнім, каб і самыя яе дзеці вымольвалі ў Бога літасці…

Маміна акупацыйная боязь — боязь трагедыі — ставіла часам нас і ў трагікамічныя сітуацыі… Прыходзіць недзе на прадвесні 43-га года павестка на імя бацькі з'явіцца ў гарадскую ўправу. Чаму? Чаго? Маці дрыжыць, ноч не спіць. На назначаны тэрмін бацька ідзе па вызначаным адрасе і прыносіць дадому пяць кілаграмаў цукру. Для падкормкі пчолаў. Быў у нас запісаны адзін вулей пчол, на адзін вулей па норме цукру бацька і атрымаў.

Вайна для слонімскіх мужчынаў была страхам, але была і самагонкай. Самагонкі ў нас, на Зялёным завулку, было мора. Яшчэ большае мора яе было ў млыне, дырэктарам якога стаў падчас акупацыі мой будучы цесць Іван Крыўда.

Іван Крыўда яшчэ гатровым пры польскім часе стаў не мінаць кавярні на Віленскай супраць пякарні Чорных жыдоў, куды, калі ён заходзіў, сцякалася хеўра выпівохаў, бо ўсе ведалі: калі Крыўда зайшоў у кавярню, заходзь, і ён усю палучку вылажыць, каб фундаваць першаму стрэчнаму. Такога характару ўжо быў Іван Крыўда! Прыйшоўшы дадому, ён жонцы не вельмі пярэчыў, але любімая ягоная малодшая дачушка павінна была яму да ягонага схочу іграць на гітары. Маёй будучай маці было ўсё гэта не ў радасць, але аб тым ад самое яе я ніколі не чуў.

Не магу яшчэ раз не сказаць, што меншую сваю дачку Лілю, якая нарадзілася непажаданаю, Іван Крыўда вельмі любіў. Ён быў рыбаком, ды заўзятым, ды ўдачлівым, калі да ўсходу сонца выязджаў на Шчару, беручы ў лодку Лілю. Сонная, дрыготкая, яна нібы зманьвала бацьку не толькі плотку, але найперш вялізных зеленаватых шчупакоў.

І было, што шляхі Івана Крыўды і майго бацькі ў акупацыйны час перасякаліся. Тое было ў час, калі немцы арганізоўвалі беларускае войска. Камісія, у якой быў і мой бацька, або набірала вайскоўцаў-рэкрутаў, або камісавала іх. Мой бацька Івана Крыўду не камісаваў, хоць нібыта і кумпяк мая будучая цешча майму бацьку прапаноўвала. Бацька мой лічыўся ў тым войску — цывільным — за капітана, які чын атрымаў у ім былы плютуновы Крыўда Іван, я не ведаю. Ведаю адно, што беларускае войска нямецкім акупантам стварыць у Слоніме не ўдалося — яго наваббранцы разбегліся ўміг, як падшыванцы. Ведаю, што ў слонімскую Лабазоўку, у крайнія хаты яе дапалі ў той час і партызаны. Максім — адзін з самых зацятых партызанаў-мсціўцаў — ставіў мужа маёй цешчы да сценкі, а дакладна — да кафлянай сценкі печкі: «Чаму не ў партызанах, чаму, курва, бляддзь, адседжваешся за печкай?!.». На панадворку быў сябра майго цесця Пракоп (Герасімчык), у хату ён не зайшоў, але што мужа маёй цешчы Максім не застрэліў, прычыніўся ён. Праўда, Пракоп не мог запабегчы таму, каб два стусы толькі што адпрасаванай мамай Лілі бялізны так званыя партызаны не зграблі з-пад стала ахапкамі. Забралі заадно ўсе коўдры, што былі ў спальні («Вам тут цёпла, а мы замярзаем!»). У дзевачак-крыўдзянак месяц не было ў чым выйсці ў горад, у школу, пакуль маці новага не пашыла. Крыўдна ёй было, што неўзабаве дзеўкі з лясных Азарыч пачалі наведваць Слонім у блюзачках і спаднічках юных Крыўдзянак. Усё, аднак, пакрывалася заспакаяльнымі словамі: «Хоць Яся не чапілі, хоць хаты не спалілі!..».

Першыя пасляваенныя гады не былі вялікімі радасцямі маім абеім мамам, асабліва маёй маці-цешчы. Івана Крыўду пасадзілі ў Баранавічы, выпусцілі, зноў пайшоў у млын, зноў навісла расстрата, і сёстры бацькі маёй Лілі пачалі ўгаворваць яго: «Уцякай у Польшчу! Маню, дзяўчат потым туды забярэш!..». У Польшчу Іван Крыўда ўцёк, і да 1948 года мая будучая цешча не ведала, што з ім…

…Памерла мая мама не ад таго, ад чаго яе лячылі. Пасля інсульта мама ўжо адышла і вельмі прасілася дамоў. Я перачытаў даволі доўгі спіс маміных хвароб і лёгкай рукой падпісаўся, што бяру ўсю адказнасць на сябе. Ішло маміна 70-годдзе, і якое гэта было радаснае 70-годдзе! Мама ўсміхалася, ледзь не танцавала. Гэта было 9 жніўня 1976 года (9 жніўня быў дзень і майго з Ліляй вяселля, бо мы пад маму выбіралі колісь яго).

Лета ішло-канчалася, адпачынак мой дабягаў канца і, звычайна, прыканцы лета маці мая Марыя Іосіфаўна прасіла мяне звазіць яе да сястры Антолі Байбак у Чапялёва. Я і завёз яе ў Чапялёва з Ліляй, з дзецьмі. Ды як ні прасілі мяне застаецца на бліны, пераначаваць, я чамусьці не застаўся, вярнуўся адзін начаваць на сене ў Лабазоўцы.

Вечар развітання са Шчарай — да наступнага лета, з вярбой і бярозамі па-над Шчараю, з хвалямі Шчары, з па-надшчарынскай цішай. Заснуў я на вышках хутка, як і хутка прахапіўся. Каля лесвіцы, што стаяла пры вышках, каб залазіць на сена, стаяў пляменнік Міша, маёй сястры Люсі малодшы сын. Задыханы, знепакоены:

— Дзядзька Алег, бабе Зялёнай кепска!..

Умомант заводжу «Жыгулі», умомант я з Мішам на Зялёнай вуліцы. Маю маму «хуткая дапамога» забрала ўжо ў шпіталь. З Люсяй еду ў шпіталь, што пры касцёле Найсвентшай Пані Боскай Марыі. Мама яшчэ ў пачакальні, нясцерпна, невыносна ёй баліць жывот. Перытаніт. Кінжальны боль. Гадзіна першая пасля поўначы. Другая. Трэцяя. Урачоў няма. Прапаную ехаць да кожнага. Мітусімся з Люсяй. Недзе каля чацвёртай урачы сабраліся, але маму пад аперацыйны пакой нёс на насілках і я сам. Калі падымаў, падводзіў да насілак — пад руку, — рука мамы была поўная сілы, моцная. Думаў: «Адужае…», прасіў: «Пацярпіце, сцярпіце…».

Мяне з Люсяй з бальніцы адправілі, калі развіднела, — адправілі, нічога не сказаўшы. Я завёз на Зялёную Люсю, калі ж з плошчы Сапегі падымаўся на чыгуначны пераезд, над возерам, якое цяпер называюць Лабазоўскім, уставала чырвоным-чырвоным, вялікім-вялікім, круглым-круглым сонца. Сонца гэтае было ўжо не маміным…

Маці мая — цешча — памерла 7 красавіка 1983 года. І яе я ўспамінаю заўжды як маці-ахоўніцу сваю, аберагальніцу.

Два матчыных гнязды я меў, пад вешчымі, мудрымі, запаветнымі, незязюльчынымі крыламі іх рос, жыў, любіў, кахаў.

# Рэйсавы аўтобус



Мікола СЯНКЕВІЧ



Фота www.titanium-valley.com

### Куды?

Мужчына гадоў пад 40 наперадзе мяне. Не ў лахманы, але абы-як апрануты, з непрычасанымі валасамі. Найгорш з абуткам. Падэшва правага чаравіка адарвалася і цялёпалася, як ласты, калі падымалася нага. Адкуль і куды трымаў шлях чалавек, якая пільная патрэба вяла яго?.. Кожны, хто ў дарозе, аднекуль выйшаў і, урэшце, ведае пра канечны пункт свайго шляху. А тут?.. Стаптаная падэшва ўсё пляскала і пляскала, біла па твары вымытыя пасля дажджу свежапакладзеныя пліткі і замінала ісці. А ён ішоў, можа, нават і спяшаўся, намагаючыся не спатыкнуцца. Чалавек імкнуўся ў нікуды, нават калі канчатковым яго прыпынкам была вінная крама.

### «Павышаны»

Набыў новую адзежыну, а некалі модны пінжак са шкадаваннем павесіў у пярэдні пакой, тым самым перавёў, – з улікам зацяжак і карабатых, што тыя сухія лісты, лацканаў – у разрад «павышаных». Так некалі ў войску мы называлі машыну, прабег якой перасягнуў «баявы» нарматыў. У буйных манёўрах яна не магла ўдзельнічаць, хіба што ў батальённых ці ротных стрэльбах. А пасля ўсяго яшчэ доўга служыла «на падхваце», пакуль не пераўтваралася ў груду іржавага металу.

…Кожны з нас таксама рана ці позна пераходзіць у катэгорыю «павышаных».

### Рэйсавы Аўтобус...

Па дарозе на «градкі» само сабою прыйшло…

Сталае чалавечае жыццё – як рэйсавы аўтобус. Спачатку ўціскаешся ў перапоўнены. Пасля, калі пачынаюць выходзіць, з кожным разам адчуваеш сябе ўсё вальней. Ёсць магчымасць сесці, няхай і спінай наперад. Яшчэ пазней, за два прыпынкі да канца, уладкоўваешся даволі зручна, выцягваеш натруджаныя ногі. Але… ужо прыехалі.

### «Выпі, Ванька...»

У пару малалецтва мне вельмі падабалася, калі ў госці да бацькоў прыходзіў з суседняй вёскі наш сваяк дзед Мэхта (мянушка да гэтага часу не «расшыфравана»). Яго тут жа з парога запрашалі да стала. Недзе пасля другой чаркі, калі былі абмеркаваны надвор'е і апошнія навіны, – з нейкай нагоды ці без яе – падвесялелы дзед пачынаў згадкі пра службу ў польскім войску. Гэта было кожны раз нова і цікава, як і тое, што ішло пасля. Не абыходзілася, каб у дзеда Мэхты мае бацька ці маці не запыталі пра асабістае жыццё. І на гэта меліся свае прычыны. Аптыміст і жыццялюб па натуры, праз год-другі пасля таго, як пайшла ў лепшы свет жонка, удавец пачаў прыводзіць у хату новых гаспадынь. А што было рабіць?.. Дзеці раз'ехаліся, а ён сам не мог заставацца ў апусцелых пакоях адзін. Гумар у тым, што шматлікія «нявесты» доўга не затрымліваліся. Пра адну з іх дзед Мэхта нават верш склаў. Немудрагелісты «твор» пра Ваньку і Маню, памятаецца, заканчваўся папрокам на адрас бяглянкі. «Ён яе не біў, ён яе шкадаваў, адно толькі гора, што мала ..аў». – «Каб у нашы гады ды такі ў жанчыны інтарэс!..» – дзівіўся чалавек. – Хто б мог падумаць?!.» Гаварылася ўсё гэта лёгка, а тым, хто падслухоўваў праз няшчыльна зачыненыя дзверы, прыадчыняла краёк патаемнай завесы ў дарослае жыццё.

Наступныя некалькі чарак пасля «трэцяй» наш родзіч палавініў. А неўзабаве надыходзіла пара, калі ён прыкрываў стограмоўку далоняю і, вялікі ахвотнік выпіць, прамаўляў нязменнае і катэгарычнае – чамусьці, заўсёды па-расейску: «Выпей, Ванька, так, чтобы не был дурак!». І болей ані кроплі.

### Ні сэрца, ні розуму

Свякруха да маладжавай, здаровай і пышнацелай нявесткі, якая лянуецца прапалоць на лецішчы градку-другую:

— Прывыкай, дзіця, да зямелькі.

Тая, пакрыўджаная, адрэзала з налёту:

— Мне, маці, не столькі год, як вам. Яшчэ рана да зямлі прывыкаць.

### Гарлачыкі ў гняздзе

На другі ці трэці год пасля таго, як былі пасаджаны, прынесеныя з лесу кусты маліны разрасліся па-сапраўднаму. Я няспешна ішоў уздоўж загона, абіраў буйныя ягады, цешыўся ўраджаем. Як раптам… Расхінуў чарговы малінавы куст – і ажно адскочыў. Прама перад вачыма палыхнула яркае суквецце: галасістыя гарлачыкі на тонкіх і доўгіх сцяблінах. Не адразу і зразумеў, што гэта перапуджаныя жаўтадзюбыя, з доўгімі і тонкімі шыямі птушаняты…

Той «птушыны» куст так і застаўся неабабраным. У наступныя дні аніякага жадання падглядаць не было: там свой дом, свая сям'я. Якое маю права!?.

### Пра Сашу і Наташу

Саша не п'яніца, не лічыць сябе такім. Магчыма, так яно і ёсць. Піў, пасля надоўга завязаў. І зноў такі добра назбіраўся – цешча прывяціла любімага зяця. Яшчэ пагасцяваў бы, але да горада дабірацца складана, а тут спадарожная машына надарылася. Сашу хочацца выказацца, падзяліцца са мною, жончыным земляком, набалелым. Наташа, расказвае, палюбіла яго за паэтычны дар. Надрукаваў у шматтыражцы тры вершы: адзін – да 40-годдзя Перамогі, другі – аб прыродзе. А трэці, пра каханне, асабіста ёй прысвяціў. Згулялі вяселле. Жылі, як усе. Ды падвяла Наташка. Прапіла-прагуляла ўсё сямейнае золата, нават той пярсцёнак, што падарыў ёй на 45 гадоў…

Саша выйшаў каля свайго дома, я – на аўтобусным прыпынку каля свайго. Павярнуўся, гляджу: Наташка, модна прычасаная, з яркім макіяжам, у модным палітончыку крыху наводдаль стаіць, каб святло не падала. Вядома ж, не мужа чакае. Павітаўся, сказаў, што Саша ўжо дома. Затрывожылася, занервавалася. А то ж… Няхай цяпер купляе чалавеку піва, расказвае, што ўсяго на хвілінку ў магазін адбегла, а ў цырульню спецыяльна хадзіла, каб яму падабацца. Гэта ж трэба!. Хлопец дзеля яе вершы складаў, пярсцёнкі дарыў…

Думаю, усё ж паразумеюцца без крыку. Інтэлігентныя людзі. Будзе ў нашым ціхім раёне на адзін сямейны скандал менш.

### Бацькаў гнеў

Дагестанцаў на філалагічным факультэце вучылася двое. Менавіта гэта і стала прычынай таго, што да нашай студэнцкай кампаніі аднойчы далучыўся сталага веку, але ўсё яшчэ каржакаваты, у добрай сіле мужчына «каўказскай нацыянальнасці». Да таго ж з маладжавай сяброўкай. Крыху здзівіла, што Асман, якому было пад восемдзясят, прасіў называць яго на «ты». Чалавек частаваў добрым віном і сакаўнымі кавунамі, вучыў правільна іх выбіраць. Расказаў яшчэ, што ў няпоўных дваццаць шэсць стаў намеснікам міністра. Ініцыятыўнасць Асмана, яго дзелавая дасведчанасць і ўменне кантактаваць цалкам пацвярджалі гэта…

Мо і не запомнілася б тая даўняя сустрэча, каб не адна акалічнасць. Калі размова зайшла пра сем'і, наш дагестанскі госць прызнаўся, што адчувае за сабою вялікую правіннасць: даўно не быў на радзіме, не праведваў бацьку. А цяпер вельмі баіцца ягонага справядлівага гневу і суровай кары. «А колькі яму гадоў?», – не вытрымаў нехта. І Асман спакойна, з нейкай асаблівай пашанай вымавіў: «Тры месяцы таму споўнілася 107».

### Сорам

Двое прышчастых падлеткаў у прыгарадным аўтобусе. Калі ў яго салон, і без таго перапоўнены, на чарговым дачным прыпынку сталі ўціскацца стомленыя спёкай і працай пасажыры, адзін з маладзёнаў, на паўтары галавы вышэйшы за свайго сябрука, вузкаплечы, з сутулымі, выстаўленымі наперад плячыма, не вытрымаў:

— Ненавіджу старых, пруцца са сваімі кошыкамі.

— Праз іх ніколі няма спакою, – адазваўся ягоны таварыш усё яшчэ па-дзіцячы пісклявым голасам.

Паступова ўсе збольшага ўладкаваліся. Расставілі свае кошыкі, клункі. хлапчаняты, ад няма што рабіць, пачалі шукаць, з чаго пагігікаць.

— Глядзі, глядзі, удаў! – той, хто галавой ледзь не падпіраў верх, паказаў у бок жанчыны гадоў васьмідзесяці, худой, з доўгай і тонкай старэчай шыяй, у цяжкіх акулярах на дробным твары.

І ўжо разам:

— А гэтая, глядзі…

Да гонару людзей, гумарыстам хутка ўставілі мазгі, але ж на душы было пагана. Кожнага з тых, каго сагнула, скруціла, скасабочыла ці нават абязножыла ваеннае і пасляваеннае ліхалецце, гумовыя боты, плантацыі бульбы і буракоў, цяпер можна з кім-небудзь ці з чым-небудзь параўнаць. І каму павінна быць у першую чаргу сорамна? Пытанне, як кажуць, рытарычнае.

### Мужчынскі пах

Дыялог у настаўніцкай.

Жанчына-завуч да маці васьмікласніка – заклапочана, нібыта раскрываючы той страшную тайну:

— Ваш сын курыць і яго бачылі нецвярозым.

Маці – гадоў за сорак, паўнацелая, на хуткую руку апранутая – пераканальна:

— Ну, што п'е, то дрэнна. Рана яму яшчэ. А што курыць… Без гэтага ад яго будзе бабай пахнуць…

Наведвальніца хутка павярнулася і пайшла да дзвярэй, пакінуўшы з адкрытымі ратамі і завуча, і ўсіх трох прысутных тут «з жаночым пахам» мужчын, кожны з якіх гатовы быў рынуцца ў бой. І толькі маладая настаўніца замежнай мовы, крыху сумеўшыся, непрыкметна павярнулася да акна і да канца зашпіліла маланку моднай сумкі.

### Папраўка

Чэрвень, раніца… З нейкім нават хваляваннем падыходжу да сваіх шасці сотак: два дні не быў, як яно тут?..

Дружна цвіце бульба: узыходзіла дзе раней, дзе пазней, а цяпер выраўнялася, стала кусцістай. Капуста расклала па градках свае зялёныя вушы. Наліваюцца сокамі зямлі яблыкі на маладых дрэўцах. Вершалінак малін не дастаць рукою. Пругкія, калючыя вудзільны шыпшыны, што каля вагончыка, заглядваюць у акенца пад самым яго верхам.

Іду па сцежцы паміж радоў пахкіх парэчак і агрэсту з неперадавальным адчуваннем далучанасці да свята квецені і зеляніны, бо ўсё гэта садзіў, паліваў, даглядаў… І ў гэты самы момант з лёгкасцю, ускрыленай радасцю пазбаўляюся ад даўняй памылкі: «душа радуецца» – не метафара, як настойліва пераконваюць нас філалагічныя даведнікі.

### Дзюбку не адчысціш...

Свякроў паехала адпачываць у санаторый, пакінуўшы сына з нявесткай адных. Маладая гаспадыня прыбрала ў хаце і двары, навяла парадак на кухні. Праўда, без непрыемнасцяў не абышлося. Муж наліў у чайнік замнога вады. Калі кіпела, яна вылівалася праз дзюбку, якая ад гэтага падгарэла, запяклася. А тут яшчэ, як на грэх, перад самым прыездам свекрыві суседскія гусі шчаўе на градцы пашчыпалі…

Да правіннасцяў (незласліва, па-хатняму) жанчына вяртаецца і адзін, і другі раз. Не спецыяльна, як між іншым. За трэцім разам нявестка не вытрымала, узарвалася:

— А што я духоўку адчысціла, каструлі аддзерла, агарод перакапала, вы, мама, так і не ўважылі?!

— Заўважыла, чаму ж… – згаджаецца свякроў і, памаўчаўшы, спакойна, нібыта між іншым: – Шчаўе адрасце, ліха яго не возьме, няхай і не такое густое. А дзюбку не адчысціш…

### …Бо цікава?

«Разумны піша што папала, дурань чытае, бо цікава». Не ўпэўнены, мо і прыказка… Некалі такую ацэнку аднаму з першых маіх апавяданняў даў зямляк-кнігалюб, немалады гадоў мужчына. І так я паварочваў пачутае, і гэтак… Паглядзіш з аднаго боку: малайчына аўтар, што б ні напісаў, цікава ўсім без выключэння. Прыкінеш з другога: нагарадзіў ты, братка, абы-чаго, хоць маеш галаву на плячах. І пісаніна твая ў радасць толькі дурню.

Паспрабуй тут разбярыся!



Алесь РАЗАНАЎ

# Васількі выходзяць да сцежкі



Фота www.photocentra.ru

*
Пакліканыя —
васількі
выходзяць да сцежкі
з жыта.

*
Не, не чапацьму!.. —
Зросся
з чаборам чмель.

*
Лішнія?!.
Ледзяшы
адлічваюць лужы кроплі.

*
Пагасла акно:
ў цемрыню
ўзіраецца цемра.

*
Вынырнулі:
плывуць
Нараччу хвалі да берага —
нарачанкі.

*
Ухутаны ў дождж,
іду
ад хаты да хаты —
н е х т а.

*
Шарая:
да віднаты
дымы адшароўваюць раніцу.
Дома.

*
Брук мокры:
ў адбітках
маркоцяцца ліхтары.

*
Нейчыя?!. Нічые?!. —
Ў маляўнічых
лістах Смалявічы.

*
Парэпаная —
рупатліва
гладзіць вярбіну дождж.

*
Качкі — жабрачкі:
сабою
заняў азярыну лёд.

*
На дні, на пару —
альшына
зраднілася з яблыняю:
падпора.

*
Крочыць па сцежцы са мною
важкай хадой сіваграк —
сваяк?!.

*
У звілінах:
ад залевы
ўцякаюць увішныя ручаі.

*
Дзе мушу цябе сцерушыць?!. —
Мітусіцца
на рукаве мураш.

*
Хопіць на ўсіх:
атуляе хата —
багатая!.. — цеплынёй.

*
Світы нясе?!.
Вітаю
завею з ялінаю
і сасной.

*
Слухаю дах:
дыктуе
шматкроп'е дождж.

*
З рубінамі —
арабіна
ўмалёўваецца ў краявід.

*
Згалеў:
далікатна
імгла атуляе гай.

*
Весніцы ў выйсце —
на павуцінцы
матляецца жоўты ліст.

*
Выткаліся?!. —
Іду
з прыцемкамі спаткацца.

*
Бачыць не бачыцца —
глыбачыню
утойвае аблачына.

*
Лес суцяшае
цішу —
люляе.

*
Змакрэла:
ў наўколле
ўмалёўваюся —
у акварэль.

*
Сюды ці туды —
завея
з'ядае мае сляды.

*
Вежа лунае:
бязмежжа
увёў у Вільню туман.

*
Цярплівы агонь:
цяпер
гарыць і сырое.

*
Сам?!. —
Па гарэлым
клыпае грак:
асмалак.

*
Праводжу паглядам —
вецер
з долу ўздымае
дубовы ліст.

*
З вярбіны ў ваду —
кругі
вышукваюць
кроплю.

*
Што мелі, падзелі —
куды?!.
Гудзіць
чмель над пухматымі
дзьмухаўцамі.

*
Вымкнуў з імгнення —
па-над палеткам
матляецца матылёк.

*
Пільнае вока —
палонка
ўглядаецца ў глыб стаўка.

*
Сліва паспела
і пераспела:
аса — хваласпеў.

*
Чакаю:
сарокі
чачэкаюць у двары.

*
Цалуецца з небам —
цвіце
яблыня: у любові.

*
Гракае —
адмыкае
ў прасторы каморы грак.

*
Ускаламуцілася:
нацякло
ў рэчку наўколля.

*
Вясною задыхала:
хто куды
хаваюцца халады —
худыя.

*
Закалыхалася —
закахалася
ў вецер сасна.

*
Ноч невідушчая:
у душу
ўзіраецца бліскавіца.

*
Ужо не шкілеты?!. —
Да лета
каштану і клёну
рукой падаць.

*
Уверсе і ўнізе:
сябе
у возеры бачыць неба.

*
Позна:
не пазнаю
ў сустрэчных знаёмцаў.

*
Махае галінай зялёнаю
вішня:
не надзівіцца!..

*
Далоні — малюнкі:
сабрала і прадае
дзяўчына чарніцы.

*
Спявае —
певень вітае
знутры цемрыні
світанне.

*
І сам застаюся
у іх: дахаты
вяду сляды.

*
Гайдаецца лодка —
гадае:
здаволіцца ці плысці?

*
Парожняя:
ў пожню
ўсяляецца дождж.

*
Пакінутая —
за кім
у пустку імкнешся, сцежка?!.

*
Туды і сюды —
вядро
са студняй вядзе гаворку.

*
Сцягвае ўвагу:
бярэзіна рэз
зыначыла ў чагу.

*
Сшарэў снег, счарнеў —
з набыткаў
вылузваецца ручай.

*
Куды ты?!. —
За дым
ламачча чапляецца
плачма.

*
Залева:
на дне
горад — у даўніне.

*
Махае рукамі —
віхуру
перамагае вятрак.

*
І дождж баслаўляе,
і сонца —
вясёлка
ўсяляецца ў небаспад.

*
Азіміна зазелянела —
азы
асвойваю ўвосень.

*
Пара раставаць?!.
Стаптаўся —
набраўся пытанняў снег.

*
Хочаш даткнуцца?!. —
У асакі
зялёныя лёзы.

*
Скідае вярбіна лісты —
складае
свой клінапіс.

*
Скавалася —
ўглыб
схавалася рэчка.

*
Адліга:
ігліцай
намацвае хвілі сасна.

*
Становіцца ўсёю ракою!.. —
Крыга
захоплена навіной.

*
Ніхто не зачэпіць?!. —
Спадсподу
шчупак падплывае —
да лёду.

*
Заснежылася —
разнасцежылася
ў бязлюддзе далечыня.

*
Дзядоўнік цвіце:
не гладжу,
гляджу — прыгожы!..

*
Падае снег —
той свет
яднаецца з гэтым.

# Васіль Быкаў: «Трэба жыць

« Працяг.
Пачатак на стар. 11 (5)

Хіба ў таталітарным грамадстве пры аўтарытарнай дыктатуры, якая таропка сфармавалася напярэдадні выбараў, магчымае нейкае палітычнае спаборніцтва, справядлівыя дэмакратычныя выбары? Іх не было 70 гадоў, адкуль жа ім узяцца цяпер? Найперш для народа гэта нязвыкла і нават пакутна — выбіраць на ўласны розум, калі заўсёды гэта рабілі іншыя, нібыта разумнейшыя. Зноў жа: хіба выбарчыя рэжысёры, «высокія спецыялісты сваёй справы», забыліся на нядаўнюю навуку арганізацыі мас дзеля «адзінадушнага адабрэння і падтрымкі»? Сам прэзідэнт напярэдадні выбараў прагаварыўся ў прамым тэлеэфіры, што «все равно обманут». Не ўдакладніўшы, аднак, на чыю карысць «обманут». Але цяпер усё стала зразумела — хто ашукаў, каго і дзеля чаго.

Так, цяпер можна пачуць разважанні пра недастатковасць, непапулярнасць нацыянальнай ідэі беларускага Адраджэння. Але, здаецца, з-пад увагі выпускаецца той факт, што адбывалася не толькі Адраджэнне — ішла жорсткая барацьба з камуністычным таталітарызмам, і нацыяналізм, як пісаў знакаміты філосаф Фрэнсіс Фукуяма, быў «неабходнай умовай узнікнення дэмакратыі». Там, дзе нацыянальная ідэя не сфармавалася, не адбылося і дэмакратызацыі. І наадварот, дзе яна перамагла — перамаглі і рэформы, тыя грамадствы не без цяжкасцяў, але ўсё ж рушылі ў кірунку сусветнай эканомікі. Урэшце рушым туды і мы, і таксама абапіраючыся на ўласны нацыяналізм і дэмакратызацыю: законы сусветнага эканамічнага развіцця змусяць нас да таго. Толькі наш гістарычны час стане змарнаваны. І мы зноў апынемся ззаду за ўсімі. І бяднейшыя за ўсіх…



У працоўным кабінеце, Мінск

## Народ і палітыка

***— Вы як пісьменнік даволі хутка набылі папулярнасць і мелі магчымасць бачыць, як ставяцца да пісьменнікаў за мяжой і ў нас. Ці не было ў Вас шкадавання, што Вы — пісьменнік вось гэтага народа?***

— Юрась, я скажу, што для мяне даўно ўжо з’яўляецца праблемай само існаванне «народа»… Асабліва цяпер я пачынаю думаць, што пакуль мы шчыравалі «дзеля народа», кляліся імем народа — у нас яго ўкралі. Засталася нейкая нацыянальная эліта, а нацыянальнай, народнай асновы — не стала. Не стала народа. Я гэта гавару баючыся, як нейкае святатацтва, як у ранейшыя часы гаварылі пра д’ябла і Бога. Але сапраўды, калі мы гаворым «народ, беларускі народ», — то гэта ўвогуле абстракцыя, гэта — па інерцыі. Калі ж канкрэтней паспрабаваць сабе ўявіць: а дзе ён, гэты народ, дзе яго часткі ці хоць бы нейкая значная частка? Раней гэта было проста: існавала сялянства, яно было моўнай, культурнай, генетычнай, этнаграфічнай і г.д. асновай нацыі. Цяпер сялянства няма. Дзе цяпер сялянства? Дажываючыя пенсіянеры-калгаснікі ў вёсках ці элітныя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы (аграномы, заатэхнікі і інш.) — хіба яны могуць уважацца за аснову нацыі? Я вельмі ў гэтым сумняваюся… Дык вось калі культурная эліта развівала культуру — для «беларускага народа», — знік сам народ. Горад, урбанізаванае насельніцтва гарадоў, — баюся, гэта ўжо не беларускі народ; яно з Беларуссю нічога агульнага не мае, апроч, хіба што, тэрыторыі пражывання. Менск — горад «беларускі» толькі таму, што ён знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, а ў астатнім — якая яго адрознасць, скажам, ад Смаленска, Цвяры, Масквы? Чым ён ад іх адрозніваецца?..

***— Бадай аб’явамі ў метро…***

— Вот іменна — аб’явамі ў метро… І раптам з’явіліся бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня», якія тут жа былі скасаваны — «па волі народа»…

Ідэя Адраджэння — ідэя, канечне, правільная, высакародная, ва ўсіх адносінах цудоўная, — трапіла не на тую глебу. Вот у чым справа. Можа быць, яна трапіла зарана…

У гэткіх абставінах, асабліва ў палітычных абставінах апошняга часу, — адзінае, што, можа быць, застаецца для дзеячоў культуры, — гэта кансерваваць тое, што ёсць — у галіне культуры, нацыянальнай ідэалогіі. Таму што калі і надалей справа пойдзе гэтак жа, то будуць зроблены захады дзеля таго, каб матэрыяльна панішчыць тое, што напрацавана за гэты час: забяруць з бібліятэк, пахаваюць у «спецхраны» выданні Ластоўскага, нацыянал-дэмакратаў, незалежную гістарыяграфію, пэўныя творы мастацкай літаратуры. А ў дадатак будзе разгорнута шалёная кампанія па дыскрэдытацыі — спярша ідэй, затым канкрэтных твораў, а пасля — іх аўтараў. Калі жывых яшчэ можна пасадзіць, то ў нябожчыкаў будуць знаходзіць нейкі кампрамат і таксама бэсціць, для таго, каб скасаваць іх прыцягальны імідж. Гэта будзе зроблена, таму што камуна-фашызм абавязкова пакарыстаецца такімі метадамі. Інакш чым жа ён будзе карыстацца? Праўда — не іх рэлігія. Іх рэлігія — бязмежная хлусня. Чым яна бязмежней, тым лепш. Для нашых кіраўнікоў гэта вельмі здатны і плённы прыём…

***— За апошнія дзесяць гадоў «галоснасці» столькі напісана пра рэпрэсіі, ГУЛАГ, што дзіву даешся, як грамадства — «самае чытэльнае» — не баіцца паўтору таго, што было пры савецкай уладзе, — вынікі апошніх выбараў сведчаць пра тое… Чаму ж людзі нічога не баяцца?***

— Яны нічога не баяцца, таму што грамадства па-ранейшаму застаецца неінфармаваным. Як вядома, на пачатку перабудовы гучала шмат патрабаванняў (з боку расейскіх дэмакратаў), каб кампартыя пакаялася ў злачынствах, адмовілася ад свайго злачыннага мінулага. Гэтага не было зроблена. Усе хрушчоўскія выкрыванні сталінізму былі частковымі, бо пералічваліся толькі імёны рэпрэсаваных маршалаў і кіраўнікоў, а пра народ — маўчалі. Таму ў масавай свядомасці рэпрэсіі так і засталіся рэпрэсіямі кіраўніцтва супраць кіраўніцтва, а не ўлады супраць народа…

Колькі Алесь Адамовіч заклікаў «дадумваць да канца»! А ў нас гэта ніяк не дадумана. Канцы і пачаткі нашай бяды дзесьці ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а можа, і яшчэ раней… І прычына нашай галоты не ў «разбурэнні сувязей паміж прадпрыемствамі», а ў тым, што ў 1917 годзе адбылася жахлівая рэвалюцыя, і Расея, разам з нацыянальнымі ўскрайкамі, улучна з Беларуссю, пайшла не ў тым кірунку. Мы пайшлі абсалютна ў тупіковую галіну і ўперліся ўрэшце ў тупік. І цяпер як вярнуцца назад? Гістарычны час гэта выключае. Як зноў збочыць у агульнае русла зямной цывілізацыі — не ведае ніхто… Вот таму гэта ўсё мы і перажываем. І павінны перажыць. У гэтым сэнсе самае жахлівае — разбурэнне найбольш агульнага, боскага прынцыпу прыватнай уласнасці. З яго ўсё пачынаецца. Калі прыватную ўласнасць панішчылі, панішчылася ўсё… Бо чалавек ад жывёлы адрозніваецца тым, што здольны нечым валодаць і распараджацца. Нават леў, сабака «мецяць» сваю тэрыторыю, свае ўладанні… Прырода толькі тады дасць нейкі плён, калі яна будзе камусьці належыць. А ў нас праца людзей і ўласнасць не толькі абяздушаны, але і незаконным чынам прысвоены, можна сказаць, антылюдзьмі, нечалавекамі. Пры сацыялізме ўласнасцю народа распараджалася Палітбюро, купка людзей. З гэтага пачаліся ўсе няшчасці…

…Правільна гаворыць ужо згаданы Фрэнсіс Фукуяма, гэты апошні «адвакат нацыяналізму», як яго называюць на Захадзе: само паняцце нацыяналізму заключае ў сабе вельмі шмат, ад самага высакароднага да самага ганебнага. І трэба канкрэтна меркаваць пра кожны канкрэтны нацыяналізм. Фукуяма кажа пра нацыяналізм рэспублік былога СССР як абавязковую перадумову крушэння таталітарызму. Гэта значыць, што толькі нацыяналізм можа эфектыўна змагацца з расейскім камуністычным рэжымам. Далей ён піша, што нацыяналізм і заходні лібералізм могуць выдатна ўжывацца, дапаўняючы і ажыўляючы адзін аднаго. А ў нашай масавай свядомасці нацыяналізм — гэта страшна, ім палохаюць. Прычым не толькі камуністы, але і некаторыя дэмакраты, ім мроіцца Югаславія, Каўказ, Сярэдняя Азія, і яны гэта адпрэчваюць. У тым ліку і расейскія дэмакраты. Вот чаму рускія не могуць зразумець украінцаў…

***— А Украіна тым часам будуе сваю дзяржаўнасць і нават Амерыка ёй у тым дапамагае…***

— Вот іменна. І Беларусь жа магла б здабыць такую падтрымку, тым больш што стратэгічна Беларусь, можа быць, важней за Украіну, і насельніцтва ў нас меней, таму падтрымаць нас было б лягчэй… Аднак Беларусь робіць такі вось выбар — рукамі яе палітычнага кіраўніцтва. Шчаслівейшыя прыбалты, яны выйшлі з-пад ног Расеі, засталіся збоку, пры моры. А мы — на парозе Расеі, і пагэтаму шчасця нам тут не будзе, як не стала яго калісь Вялікаму Княству Літоўскаму: усё па той жа прычыне — што апынулася «паміж». Натуральна, у тых умовах, каб ўратавацца, «Літва» і адціснулася ўбок, да Балтыйскага мора, і там захавалася…

***— …Што такое Лукашэнка? Мясцовы, так бы мовіць, феномен, ці — з’ява больш маштабная, сістэмная?***

— Гэта не мясцовы феномен. Можна нават сказаць, што ў гэтым сэнсе Лукашэнка мудры як змей. Ён прадбачыў і прадбачыць тое, пра што дэмакраты яшчэ толькі пачынаюць здагадвацца. Найперш, натуральна, ён думае пра ўладу. А ўладу ён можа захаваць толькі ў тым выпадку, калі тут не адбудзецца сацыяльны выбух. Таму што змесці яго ўладу зможа толькі сацыяльны выбух вялізнай сілы. Гэта можа адбыцца ва ўмовах, калі народ будзе даведзены да крайняй мяжы выжывання, калі ўжо не будзе чаго есці. Таму, каб гэтага не здарылася, яму як мага хутчэй трэба інтэгравацца ў вялікую імперыю і тым забяспечыць гарантыю, алібі на будучае. Бо што б тады ні здарылася, Лукашэнка не будзе вінаваты. Калі нават і здарыцца самае горшае, то ўвесь гнеў будзе скіраваны на Маскву, Масква будзе вінавата, бо яна будзе кіраваць. Заўсёды ж можна сказаць, што яна не дала нам нафты, грошай і да т.п. Ён, такім чынам, будзе ні пры чым. Але, апроч усяго, ён яшчэ выдатна разумее, чым скончыцца цяперашняе эканамічнае развіццё Расеі. Ён ведае, што яна рана ці позна вернецца ў свой ранейшы стан імперскай эканомікі — крайне змілітарызаванай, і ў такім выпадку беларуская эканоміка выдатна зойме сваё ранейшае месца. Ён будзе дзяліць поспехі ці няўдачы гэтай імперскай эканомікі, але ён не будзе віноўнікам няўдач. А ў выпадку ўдач — наадварот, усё возьме на сябе…

**Ён думае пра ўладу. А ўладу ён можа захаваць толькі ў тым выпадку, калі тут не адбудзецца сацыяльны выбух. Таму што змесці яго ўладу зможа толькі сацыяльны выбух вялізнай сілы. Гэта можа адбыцца ва ўмовах, калі народ будзе даведзены да крайняй мяжы выжывання**

***— …І пры такім стане рэчаў непазбежнымі будуць рэпрэсіі супраць тых, хто думае інакш, хто нязгодны з такой палітыкай?***

— А гэта само сабой. Гэта найперш. На гэта ёсць вельмі разумныя памагатыя з ліку інтэлігенцыі, якія давядуць, што Народны фронт звязаны з ЦРУ, а ўсе нязгодныя з новай палітыкай — шпіёны-шкоднікі, гестапаўцы, здраднікі, калабаранты перыяду мінулай вайны і да т.п., — вопыт багаты. На гэта ёсць вялізная армія навукоўцаў у Акадэміі навук, у гуманітарных інстытутах, якія затаіліся і толькі чакаюць адпаведнага моманту. Яны ўжо даўно з фальсіфікацыяй не працавалі. Усё іх жыццё звязана з гістарычным фальсіфікатам, інкрымінаваннем. А тут раптам такі перапынак вялікі, іншыя людзі прыйшлі. Будуць фальсіфікаваць гісторыю і ўсё іншае з вялікім імпэтам. Будуць здымаць фільмы накшталт Азаронкавага (Маецца на ўвазе антыфронтаўскі і антыбеларускі дакументальны фільм Юрыя Азаронка, бацькі цяперашняга тэлепрапагандыста Грыгорыя Азаронка, «Ненависть: дети лжи», які некалькі разоў трансляваўся па тэлебачанні напярэдадні рэферэндума і выбараў у парламент 14 траўня 1995 г. – Рэд.), — з даволі вольным мантажом, але з вельмі пэўнай ідэяй. І гэтак далей…

***— …І шэрагі спадароў азаронкаў, савіцкіх і КО будуць актыўна папаўняцца… Дарэчы, што, на Ваш погляд, прымушае некаторых мастакоў, пэўных апазіцыянераў у савецкія часы, так апантана***

# і змагацца»




***змагацца з усім беларускім, з беларушчынай як з'явай?***

— Адкажу безадносна да гэтых людзей і да каго-небудзь яшчэ. Каб зразумець нашае грамадства, трэба заўсёды мець на ўвазе адну рэч, якую звычайна выпускаюць з-пад увагі. Як быццам згаварыліся ўсе і ніхто пра яе нічога нідзе не кажа і не піша. І, відаць, не будуць гаварыць і пісаць. Уся справа ў заангажаванасці не толькі камуністычнай ідэалогіяй, але яшчэ і КДБ. КДБ пранік ва ўсе слаі нашага грамадства, і трэба мець на ўвазе, што людзі, заангажаваныя ім, у лепшым выпадку выключаны з грамадскага жыцця; яны, так бы мовіць, палітычна назаўсёды кастрыраваны, а ў горшым выпадку — заангажаваныя так, што хады назад няма, бо ўсялякая дэмакратыя для іх — пагібель, таму што дэмакратыя на сваіх сцягах заўсёды нясе люстрацыю. Раней яны нібыта дазвалялі сабе некаторую фронду, апазіцыйнасць, а цяпер, калі падступілі перамены і паўстала вельмі моцная пагроза, яны канчаткова скінулі з сябе ўсе маскі і пачалі змагацца за сваю скуру. У гэтым уся прычына. І тое датычыць не толькі інтэлектуалаў, тое — паўсюдная з'ява, бо спецслужбы пранiклі паўсюль. І таму яны кіруюць цяпер.

Прыналежнасць да спецслужбаў не проста нейкі занятак, хобі — гэта ў рэшце рэшт накладвае на чалавека пэўны адбітак і выпрацоўвае яго жыццёвую псіхалогію. Цяпер прынята лічыць, што тыя людзі, завербаваныя КДБ, — стукачы, якія некага выдавалі. Ды зусім не. Так, калі трэба было, яны тое рабілі, але яны рабілі гэта як члены якога-небудзь масонскага ордэну, выключаныя з грамадскага жыцця і далучаныя да іншай, таемнай супольнасці. Пры гэтым такімі людзьмі спецслужбы могуць кіраваць як заўгодна, у якім хочаш напрамку: на выбарах, у палітычнай барацьбе і інш. А калі хто-небудзь заўпарціцца, дык ёсць метады, як іх уціхамірыць, — абвесціць, напрыклад, «блакітнымі» і да т.п.

Пераважаюць, асабліва сярод інтэлігенцыі, такія вось людзі. Яны вызначаюць. І чаму з Савіцкім такое здарылася? Я, канечне, нічога не сцвярджаю, але інакш нельга растлумачыць метамарфозы некаторых людзей. Дапусцім, я таксама маю пэўныя густы ў мастацтве. І, папраўдзе сказаць, авангард, абстракцыянізм мне таксама не падабаюцца. Але гэта не значыць, што я буду змагацца з імі, я ж не пракурор... Можа, іншым такое падабаецца, а творы гэтыя значныя і нават вялікія і маюць права на існаванне. Але калі пачынаецца жахлівая барацьба ў нацыянальных межах, то тут, канечне, ужо не эстэтычныя схільнасці дыктуюць, тут дыктуе тайная паліцыя.

Прычым такое магчыма толькі ў таталітарнай дзяржаве, якая была раней і якая цяпер так інтэнсіўна аднаўляецца. У дэмакратычным грамадстве такое немагчыма. Мы ж ведаем сілу гэтых органаў: яны маглі забяспечыць не толькі кватэру, працу, прапіску, але і правесці па ўсёй кар'ернай лініі, пачынаючы ад студэнта і заканчваючы акадэмікам. І калі знакаміты фізік поруч з Савіцкім выступае па тэлебачанні з абаронай «прынцыпаў», то гэта дыктуецца не фізікай, а інтарэсамі той жа тайнай паліцыі...

***— Вашая парада ў такіх неспрыяльных варунках маладым патрыётам, хто не жадае прымаць «новай» палітыкі і, расчараваны лёсам, не ведае, што рабіць далей?***

— Суняць сваё расчараванне і працаваць. Працаваць дзеля падвышэння нацыянальнай самасвядомасці. Толькі гэта.

У нас жа гіне культура. Як заўсёды ў такіх умовах, узрастае роля дыяспары... Культурныя пласты напрацоўваюцца на працягу доўгага часу, высілкамі многіх пакаленняў, а руйнуюцца — імгненна, нашмат хутчэй. Патрыёты мовы, дзеячы ТБМ выступалі за тое, каб адраджаць мову павольна, каб — «не перагнуць палку», каб — «да канца стагодзя». І гэта ўвогуле правільна. Але вынішчацца яна будзе за лічаныя гады, калі не месяцы. Таму што адразу абвальна пярройдуць кіраўніцтва, эліта, горад ужо перайшоў, засталося яшчэ аваладаць расейскай мовай вёсцы, дзе яшчэ нейкія рудыменты беларускасці захаваліся... І ўсё...

Таму не трэба роспачы. Трэба закансерваваць тое, што ў нас ёсць, што напрацавала нацыя ў галіне культуры і літаратуры, мастацтве, і ў элітных слаях будзе адбывацца, прынамсі, я так думаю, марудная рэанімацыя, падтрымка нацыянальнага жыцця. Як гэта было ў мінулым. Хоць у мінулым усё-такі лепшыя былі ўмовы, таму што тады ашчаднікам мовы і нацыянальнай культуры — не свядомасці, а культуры — было сялянства, якое іх выпрацоўвала і кансервавала. Яно па сацыяльных прычынах не магло далучыцца да чагосьці іншага, да іншай мовы і культуры. А цяпер тэлебачанне далучыць каго хочаш, хоць самога д'ябла. І таму будзе даволі складана. Але, тым не менш, я ўсё-такі думаю, што нацыянальная культура і жыццё будуць прадаўжацца, хоць у некалькі аслабленым стане.

Я, канечне, песіміст. Але я песіміст у адносінах да пакалення майго веку, у адносінах да сябе асабіста; я ведаю, што мне нацыянальнага росквіту не дачакацца, я не пабачу, гэта будзе недзе пасля, але гэта будзе. Будзе шчасце, і будзе дзяржаўнасць, і будзе ўсё, таму што ў той форме, у якой мы існавалі як народ і якая нам наканавана цяперашнім кіраўніцтвам, — у такой форме шчасця не будзе. Будзе зноў няшчасце.

І людзі зноў будуць шукаць, зноў будуць кідацца ў пэўным накірунку. А пэўны накірунак для нас — мы не першапраходцы ў гэтым сэнсе — паказваюць нашыя суседзі, паказвае Еўропа, і мы ў рэшце рэшт пойдзем туды. Канечне, пры ўмове, што ядзерны Апакаліпсіс не спыніць усё гэта. А сёння гэта зноў становіцца вельмі магчыма...

## Попел расчаравання, дыямент надзеі: «Рарытэт будзе вельмі каштоўны»

***— На палітыку спадзяванні традыцыйныя. Але мы забываемся, што жывем напрыканцы юдэяхрысціянскай эры, у г.зв. «цывілізацыі смерці» (вызначэнне Яна Паўла II), і што нашае маленькае Адраджэнне, можа быць, асуджана на марнасць якраз з прычыны марнасці самога свету. Цытуючы Вашыя словы 1989 г. — «у жыцці заўжды важнае значэнне мае вернасць абранай мэце, але, як гэта нярэдка здараецца ў гісторыі, ісцінныя мэты можна і не дасягнуць нават пры жыцці некалькіх пакаленняў, хада гісторыі зусім не адэкватная меры чалавечага жыцця». Можа быць, увесь гэты адраджэнскі імпэт — у палітычнай, маральнай ды містычнай сферах — апрыёрна быў асуджаны на марнасць і няўдачу?***

— У гістарычным аспекце воля да Адраджэння можа стацца важнейшай за само Адраджэнне, за яго непасрэдныя наступствы. Прынамсі, для беларусаў. Як вядома, нашае грамадства хворае, занядбанае, скутае апатыяй, даўно гатовае паставіць на сабе крыж. Але калі напрыканцы ХХ стагодзя яно ўсё ж знаходзіць у сабе пэўныя сілы і ўласных прарокаў, што адважваюцца заявіць пра свой нацыянальны гонар, пра новае (у каторы раз) памкненне да Бога і справядлівасці, якія іншыя нацыі здабылі даўно, дык тое сведчыць, што нацыя жыве, яшчэ «не згінэла», бо не згінула яе нацыянальная воля.

Няхай не ўдалося на гэты раз. У іншых нацыяў, як вядома, таксама не ўсё ўдавалася з першага ці нават з пятага разу, лілося нямала крыві, выдаткоўваліся вулканы людской энергіі. Але ўрэшце яны дамагліся самага галоўнага — дзяржаўнай суверэннасці, чым далі нам прыклад. Усё ж мы маем для таго ўсё неабходнае: мову, тэрыторыю, гісторыю. Іншыя, як курды, напрыклад, не маюць нават сваёй тэрыторыі, і то не цураюцца запаветнае мары аб уласнай дзяржаўнасці. Яны змагаюцца. І калі нам цяпер чагосьці не хапае, дык найперш — нацыянальнай волі, дасканалай нацыянальнай свядомасці. Але тое не даецца прэзідэнцкім указам, тое выхоўваецца праз стагоддзі. Або памірае — мабыць, у той дзень, як памірае мова. І гэта выдатна разумеюць ворагі беларушчыны, беручыся перш за ўсё вынішчаць беларускую мову.

Наш гістарычны час на зыходзе, хаця ён можа і расцягнуцца. На колькі — хто возьмецца вызначыць?

***— Васіль Уладзіміравіч, Вам не шкада гадоў, патрачаных на палітыку?***

— Мне? Ну, Божа мой, у палітыцы я ніколі ні на што не разлічваў, дый ніколі не быў палітыкам. У рэшце рэшт, я ўсё-такі свабодны чалавек, хоць гэта мне доўгі час не ўдавалася, — пры таталітарным рэжыме якая ж свабода? — але ўрэшце я прыдбаў нейкую свабоду, мог пісаць, мог не пісаць, мог пісаць артыкулы, а мог апавяданне ці аповесць. Гэта вельмі важна, калі ёсць свабода выбару, хоць усё гэта досыць адносна...

Для мяне пэўна, што ў ХХ стагоддзі Беларусь шчасця не знойдзе, а ў наступным — не ведаю. Можа, трэба будзе і пазмагацца. Але ўрэшце — «загляне сонца і ў нашаваконца». Таму што інакш немагчыма, калі толькі не спыніцца жыццё на зямлі. Бо калі яно будзе існаваць, то будзе развівацца па нейкім Боскім накірунку, інакш тады трэба адмаўляць усялякі прагрэс. Прагрэс ёсць, пэўныя гістарычныя віткі, хоць яны і паўтараюцца, але вядуць угору...

***— Як бы Вы ацанілі гістарычную вартасць таго, што напрацавана нацыянальнымі сіламі за найноўшы час: гэта ўсё часовае ці мае па-надчасовую каштоўнасць?***

— Тое, што напрацавалі за гэты час і нацыянальныя сілы, і нацыянальныя палітыкі, — гэтае «апярэджанне», гэта вялізны капітал, маральны, палітычны капітал для нацыі. Можа, у гэтай галіне за 70 гадоў столькі не зроблена, колькі зроблена за апошнія пяць гадоў. Памятаеце тое кароценькае еўрапейскае Адраджэнне, драматычнае, трагічнае — абвяшчэнне БНР у 1918 годзе? Якія наступствы з яго? Амаль ніякіх у соцыуме. Тым не менш, вунь як яно важнае цяпер. І чым далей аддаляецца Беларусь ад таго моманту, ад той падзеі 25 сакавіка, тым гэта, быццам дыямент, блішчыць усё ярчэй, усё больш кошту мае, як усялякі рарытэт.

Так і сучаснае. Рарытэт будзе вельмі каштоўны. Сімволіка ў тым ліку. Ужо ніхто не скажа: «Гэты сцяг прыдуманы». Ужо гісторыя, міфалогія ствараюцца вакол бел-чырвона-белага сцяга. І ён будзе яшчэ даражэйшы...

Сённяшнія пакаленні, канечне, перажываюць расчараванне, але не трэба было і надта зачароўвацца. Што рабіць? Шчасце так проста не прыходзіць з Белавежскай пушчы ці хоць бы адкуль там ні было. За яго трэба змагацца. Трэба выспець нацыі да некаторых элементарных высноў. А яна ў нас яшчэ не выспела, калі спрэс выбіраюць старшыняў і прэзідэнцкіх паслугачоў. Або, калі гэтыя выбары несвабодныя, сфальсіфікаваныя, — чаму дазваляе фальсіфікаваць? У іншых краінах, цывілізаваных нацыях — дэмакратычных, сучасных — такое немагчыма. А ў нас магчыма. Значыць, нам яшчэ трэба жыць і змагацца. Але галоўнае — трэба змагацца...

**Запісаў Юрась ЗАЛОСКА**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (177) | 28 траўня 2021 | № 20 (728) Новы час

# Каця



Яўген СКІБСКІ

**1**

*Мы прайшлі праз зіму,*
*а восень*
*мы забылі ўжо даўно.*
*Мы чакалі,*
*чакалі —*
*і вось*
*настае, што клічуць вясной.*

*Піць не варта цяпер бясконца,*
*хоць і люты, як люты кат.*
*Пільна сочыць за намі сонца,*
*быццам просячы пачакаць.*

*Сонца бачыць,*
*заўсёды бачыць,*
*што хаваецца ў туманы.*
*Пажадай мне, сонца, удачы,*
*пажадай мне, сонца, вясны.*

*А навошта табе ўдача,*
*а навошта табе вясна?*
*Проста Каця ў засценку плача…*
*Я хачу,*
*каб выйшла яна.*

*Не,*
*не плача,*
*куды ні падзень яе,*
*за якія не схавай яе плот, —*
*выспяваюць яе надзеі*
*у салодкай свабоды плод.*

*Ён пакуль толькі кволая кветка,*
*ліся, песня —*
*струмень вады.*
*Хто цяпер толькі ціхі сведка?*
*Хто цяпер?*
*А тады*

**2**

*я, ганімы інстынктам спрадвечным,*
*бестурботна блукаў уначы*
*і любой мімаходнай сустрэчнай*
*адзіноту сваю лячыў.*

*І стаміўся.*
*Стаміўся, браце.*
*Шмат было і наташ, і каць…*
*Як знайсці мне*
*такую Кацю,*
*каб далей ужо не шукаць?*

*На выставе*
*ў лютым дваццатага*
*іншых мэтаў і не было —*
*і раптоўна нешта надрапала*
*лёсу жудаснае стыло.*

*Гэта здарылася выпадкова.*
*У віры выставы,*
*не ў сне,*
*адшукалася,*
*як падкова*
*на дарозе.*
*На шчасце?*

*Не?*
*Можа, шчасце знайшоў надалей?*
*Больш самотнаму не блукаць?*
*Мо таму і шчокі палалі?*
*Мо таму?*
*Адкажы мне, Каць…*

*Ад мінулага будзе рэштай,*
*як заплюшчу дзверы вачэй,*
*толькі погляд твой,*
*ды — усмешка,*
*ды вікторы знак яшчэ.*

**3**

*…Хто надзеў камізэльку «Прэса» —*
*ператвораны ў мішэнь…*
*Мама зараз,*
*як калісь у лесе*
*мне малому,*
*кажа: цішэй.*

*Дзень на дзень напаўзае*
*няўлоўна,*
*горад сокі апошнія п'е.*
*Я стаю амаль абясслоўлены.*
*Бы памерлі словы мае.*

**4**

*Ноч —*
*не спіцца табе ўначы.*
*Думкі не выпхнуцца з галавы.*
*Вось яны*
*змрочныя, як сычы,*
*ноч настане — хочацца выць.*

*Пойдзеш на кухню,*
*запаліш святло.*
*Трэба неяк пазбыцца адчаю.*
*Трэба неяк развеяць зло —*
*выпі кавы*
*ці чаю.*

*Пра яе пракрычаць навіны*
*і прашэпча струмень вады*
*пра адно:*
*яна не павінна*
*адсядзець яшчэ два гады!..*

*Бруд сцякае па кроплі ў трубу.*
*І зіма растане аднойчы.*
*Не сядзі —*
*разганяй журбу,*
*разганяй гэты холад воўчы.*

*А пасля*
*ізноў яе стрымы*
*будуць блытаць*
*усе мае сны…*
*Дачакайся,*
*сэрца нястрыманае,*
*мы амаль дайшлі да вясны.*

*Паглядзі ў вакно на сонца,*
*хай і слепіць —*
*усё адно,*
*хай і дрэвы паўсюль пакоцалі,*
*а не ўсе —*
*паглядзі ў вакно!*

*Сонца бачыць,*
*заўсёды бачыць,*
*што развейвацца тума́нам.*
*Пажадай нам, сонца, удачы,*
*пажадай жа*
*ўдачы нам.*

*А пакуль надыходзячы дзень*
*ад кашмараў начных адмяжуе —*
*камізэльку «Прэса» надзене*
*сёння іншая прыгажуня.*

# Фарбы й гукі



Таццяна БАРЫСЮК

***

*У кожным дні —*
*бяссмерця зерне.*
*На гэтым дне*
*мой поспех дрэмле.*

*І з кожным мігам*
*бліжэй мой любы.*
*Ды за адлігай —*
*нязменна люты.*

*А год — як дзень —*
*memento mori.*
*Самотны цень —*
*нібыта норма.*

*Мой любы, — сцюжа?*
*Прыйдзі, застанься!*
*Каханым, мужам*
*ці вершам, танцам!*

**Яблычны Спас**

*Яблык спакусы табе не падам,*
*я пачакаю.*
*Помніш мяне ты, мой любы Адам?*
*Моўчкі кахаю.*

*Як я хачу быць у раі з табой,*
*смелым, наіўным.*
*Толькі з табой ма́ю светлы настрой,*
*лёгкія крылы.*

***

*Няма. Не будзе. Не было*
*цябе ў жыцці маім самотным.*
*І толькі ўпартае сціло*
*кранае літары, як ноты.*

*Быў сонца пробліск залаты,*
*і ён свяціў усмешкай мілай.*
*Мне сонцам гэтым здаўся ты.*
*Ты быў не явай. Я сасніла…*

***

*Апошні дзень зімы.*
*Расстанне мне — як згуба.*
*Сустрэнемся ці мы,*
*Любы?*

*Апошняе жаданне —*
*мець толькі Вас у сэрцы.*
*Самота існавання —*
*без сэнсу.*

**Пошукі і знаходкі**

*Шукаю каханне —*
*знаходзіцца вопыт.*
*Шукаю стасункаў —*
*ды пазніцца водзыў.*
*Далёка ты. Чую*
*прысутнасць праз сэрца.*
*Што помніш і любіш —*
*мне хочацца верыць.*
*Мне мроіцца: ты мне*
*пазвоніш, запросіш*
*на доўгі шпацыр*
*ці то ўлетку, ці ўвосень,*
*узімку, вясною,*
*заўжды, назаўсёды…*
*Мой мілы, каханы,*
*ты мара, ты одум…*

**Наша Італія**

*Ты быў у Венецыі, я — у Бергáма.*
*Італіі нашай чароўная аўра.*
*І мора, і горы, дубы, кіпарысы.*
*Аблічча твайго незабыўныя рысы.*
*Слоў, намі нясказаных, белыя маскі.*
*І нашых нядотыкаў вабныя ласкі.*

**Ваўчыца**

*Таямніца прыцягнення*
*між мужчынам і жанчынай.*



Фота Аляксандра Гваздзя

*Наймагутнага натхнення*
*для паэзіі прычына.*

*Не магу адолець скруху*
*ад таго, што Вы маўчыце.*
*Абярнуся ў завіруху*
*я самотнаю ваўчыцай.*

*Дабягу да Вас палямі,*
*снегам, сцюжай, бездарожжам.*
*Ў Вашай цішы развітальнай*
*для мяне ёсць вырак Божы.*

***

*Яшчэ крыху — і льдом растане люты.*
*Цяплей надвор'е — гэта добры знак.*
*У промнях сонца заспявае лютня,*
*і ў нашых снах паселіцца вясна.*

*Зноў лета. Восень. Злая зімавея.*
*Дні праляцаюць — вецер за акном.*
*Хай будуць моц, і радасць, і надзея*
*і добрай аўрай поўніцца Ваш дом.*

***

*Радзіма. Радасць. Рай. Рашучы*
*мужчына, пра якога мару.*
*Хоць я яму не трэба. (Жудасць!)*
*Таму ў слязах і паміраю.*

*Золь адбаліць. Настане ранне*
*і шанцу новаму ўсміхнуся.*
*Мае ўскрашэнні-паміранні*
*як рух спазнаць свой лёс і сутнасць.*

***

*Вочы твае з зелянінаю караю.*
*Чар — васільковая глыбіня.*
*Без усялякага каментарыя*
*ведаю, што закаханая я.*

*Мне не хапае пагляду твайго,*
*вуснаў і постаці любай.*
*Бо без цябе кожны мройлівы ўздых*
*поўны смяротнае згубы.*

*Зможам пражыць паасобку, павер,*
*стрэцца сам-насам са смерцю.*
*Толькі з табой чую музыку сфер,*
*толькі табе кон даверыцца.*

***

*Фарбы й гукі жыцця —*
*наймілейшаму ў свеце!*
*Ты свавольны няўлоўны мой*
*восеньскі вецер.*
*Аддала б шмат даброт*
*за тваю я пяшчоту.*
*Не кахаеш? Што зробіш…*
*Пакіну турботы*
*папрасіць цябе стаць маім*
*хоць на імгненне.*
*Адлятаеш прэч самым*
*святым летуценнем.*

# Сахем



Генрык СЯНКЕВІЧ
(1846—1916)



Фота www.drive2.ru

У горадзе Антылопа над ракой, што мае такую ж назву, у штаце Тэхас, усе ад малога да вялікага спяшаліся на цыркавое прадстаўленне. Захопленасць жыхароў узмацнялася тым, што з часоў заснавання горада сюды ўпершыню заехаў цырк з танцоркамі, менестрэль-шоў і канатаходцамі. Горад узнік нядаўна. Пятнаццаць гадоў таму тут не толькі не стаяла ніводнага дома, але і ў найбліжэйшых ваколіцах не было ніводнага белага. Затое ў міжрэччы, на тым самым месцы, дзе цяпер месціцца горад Антылопа, ляжала індзейскае паселішча пад назвай Чыявата. Гэта была сталіца Чорных Змей, якія ў свой час так назалялі памежным нямецкім калоніям — Берліну, Грудэнаў і Гармоніі, — што пасяленцы больш не маглі трываць. Праўда, індзейцы толькі баранілі сваю «тэрыторыю», якую ўрад штату Тэхас прысудзіў ім на вечныя часы самымі ўрачыстымі трактатамі, але хіба гэта магло хваляваць каланістаў з Берліна, Грудэнаў і Гармоніі? Дакладна вядома адно: яны адбіралі ў Чорных Змей зямлю, ваду і паветра і наўзамен неслі цывілізацыю, а чырванаскурыя дзякавалі на свой манер — здзіралі ў іх з галоў скальпы. Доўга так цягнуцца не магло. Аднае ночы пасяленцы з Берліна, Грудэнаў і Гармоніі сабралі атрад з чатырохсот чалавек і, паклікаўшы на дапамогу мексіканцаў з Ла Ора, напалі на сонную Чыявату. Трыумф дабрадзеяў быў поўны. Чыявату спалілі, а яе жыхароў незалежна ад узросту і пола высеклі пад корань. Уратаваліся толькі невялікія групы воінаў, якія былі ў той час на паляванні. У самім паселішчы не выжыў ніхто, галоўным чынам таму, што яно ляжала ў міжрэччы і, як звычайна ў час вясновай паводкі, было атачанае непераадольным прасцягам вадаў. Але менавіта такое размяшчэнне паселішча, якое загубіла індзейцаў, падабалася немцам. Уцякаць з міжрэчча цяжка, але бараніцца там зручна. А таму людзі з Берліна, Грудэнаў і Гармоніі адразу ж пачалі туды перабірацца, і на месцы дзікай Чыяваты імгненна паўстала цывілізаваная Антылопа. Праз пяць гадоў там ужо налічвалася дзве тысячы жыхароў.

На шосты год на іншым баку міжрэчча знайшлі паклады ртуці, і іх распрацоўка падвоіла колькасць жыхароў. На сёмы год на гарадской плошчы лінчавалі дзевятнаццаць апошніх воінаў з племені Чорных Змей, якіх злавілі ў суседнім лесе Памерлых, і з таго часу ўжо нічога не перашкаджала развіццю горада Антылопа. Чыгунка злучала горад з Рыа-дэль-Нортэ і Сан-Антоніа, на Апунцыя-гасэ з'явіліся тры школы, з іх адна — вышэйшая. На плошчы, дзе павесілі апошніх Чорных Змей, адкрылі дабрачынную ўстанову, кожную нядзелю пастары ў цэрквах прапаведавалі любоў да бліжняга, павагу да чужой уласнасці ды іншыя неабходныя цывілізаванаму грамадству дабрадзействы, а адзін праездджы прамоўца нават нейк прачытаў на Капітоліі даклад «Пра правы народаў».

Найбагацейшыя гараджане пагаворвалі пра неабходнасць заснаваць універсітэт — гэтаму мусіў паспрыяць і ўрад штата. Справы горада ішлі ўверх. Гандаль ртуццю, апельсінамі, ячменем і віном прыносіў выдатны даход. Гараджане былі сумленнымі, гаспадарлівымі, працавітымі, педантычнымі і тоўстымі. Хто наведаў бы апошнім часам Антылопу, насельніцтва якой ужо складала больш за дзесяць тысяч, той не пазнаў бы ў багатых мясцовых купцах тых бязлітасных ваяроў, што пятнаццаць гадоў таму спалілі Чыявату. І вось у той вечар людзі спяшаліся ў цырк: па-першае, таму, што пасля цяжкай працы адпачываць не толькі прыемна, але і прыстойна, па-другое, таму, што жыхары ганарыліся яго прыездам. Усім вядома: цыркі абы-куды не прыязджаюць, так што прыбыццё трупы высокашаноўнага містара Дына ў нейкай ступені пацвярджала вагу і значэнне Антылопы. Была, аднак, і трэцяя, магчыма, найважнейшая прычына ўсеагульнай цікавасці.

Другі нумар праграмы абяцаў: «Шпацыр па дроце на вышыні пятнаццаці футаў ад зямлі (у музычным суправаджэнні) здзейсніць знакаміты гімнаст Чырвоны Ястраб, сахем (правадыр) Чорных Змей, апошні нашчадак каралёў і апошні прадстаўнік племені: 1) Шпацыр. 2) Скачкі Антылопы. 3) Танец і песня смерці». Дзе-дзе, а ў Антылопе гэты «сахем» мусіў выклікаць найвялікшую зацікаўленасць. У карчме «Пад залатым сонцам» высокашаноўны містар Дын расказваў, што пятнаццаць гадоў таму знайшоў па дарозе ў Санта-Фэ старога індзейца пры смерці, а з ім — дзесяцігадовага хлопчыка. Стары, праўда, памёр — ад ран і знясілення, — аднак расказаў, што гэты хлопец — сын забітага «сахема» Чорных Змей і спадчыннік яго тытула.

Трупа прытуліла сірату, які з часам зрабіўся яе першым акрабатам. Зрэшты, высокашаноўны містар Дын толькі ў карчме «Пад залатым сонцам» даведаўся, што Антылопа калісьці была Чыяватай і што знакаміты канатаходзец будзе красавацца на трунах сваіх бацькоў. Гэтая навіна прывяла дырэктара ў выдатны настрой: цяпер напэўна можна разлічваць на great attraction — варта толькі дамагчыся большага эфекту. Вядома, жыхары Антылопы тоўпіліся ля цырка, каб паказаць прывезеным з Нямеччыны жонкам і сынам, якія ні разу ў жыцці не бачылі індзейца, апошняга з Чорных Змей і сказаць: «Глядзіце, вось такіх мы выразалі пад корань пятнаццаць гадоў таму». «Ах, Herr-Jeh!» — як прыемна пачуць такі здзіўлены выгук з вуснаў Амальхен і маленькага Фрыца. Ва ўсім горадзе толькі і лунала: «Сахем, сахем!»

Дзеці з самай раніцы зазіралі ў шчыліны паміж дошкамі, і на іх тварах чыталіся аднначасова цікаўнасць і жах, а старэйшыя хлопцы, захопленыя ўжо больш ваяўнічым духам, па дарозе са школы грозна маршыравалі, самі не ведаючы, навошта.

Восьмая гадзіна вечара. Цудоўная, пагодная, зорная ноч. Ветрык прыносіць з-за горада пах апельсінавых садоў, які ў горадзе перамешваецца з пахам соладу. У цырку — зарыва святла. Вялізныя смалістыя паходні, узнятыя перад галоўным уваходам, гараць і чадзяць. Ветрык гайдае султаны дыму і яркага полымя, якія асвятляюць цёмныя абрысы драўлянай пабудовы. Гэта толькі што ўзведзены акруглы балаган са спічастым дахам і зорыстым амерыканскім сцягам на макаўцы. Ля ўвахода — натоўпы, якія не змаглі прабіцца ў сярэдзіну ці не мелі грошай на білеты. Цяпер яны разглядаюць цыркавыя павозкі і асабліва вялікую палатняную заслону, якая замяняе дзверы і на якой выяўленая бітва белых з чырванаскурымі. У тыя моманты, калі заслона прыадчыняецца, бачнае асветленае нутро буфета з сотнямі шкляных куфляў на стале. Але вось заслону зусім сцягваюць, і натоўп уваходзіць. Пустыя праходы паміж лаўкамі пачынаюць дрыжаць ад крокаў людзей, і неўзабаве цёмная жвавая маса зверху данізу запаўняе ўсе праходы. У цырку светла як днём, бо хоць туды і не ўдалося правесці газавыя трубы, вялізная жырандоль на пяцьдзясят газавых лямп залівае арэну і гледачоў патокамі святла...

Першы нумар хутка заканчваецца. Пачынаецца другі. З вуснаў у вусны ў зале перадаецца шэпт: «Сахем! Сахем!». На клоўнаў, якія ўсё яшчэ б'юцца, ніхто ўжо не звяртае ўвагі. У кулаюмесе іх малпіных рухаў конюхі ўносяць драўняныя козлы вышынёй з дзесяць з нечым футаў і ставяць па абодва бакі арэны. Музыкі перастаюць граць Yankee Doodle і пачынаюць змрочную арыю Камандора з «Дон Жуана». Паміж козламі нацягваюць дрот. Раптам з боку выхаду ўзлятае сноп бенгальскіх агнёў і залівае арэну крывавым святлом...

На арэне з'яўляецца трывожна чаканы сахем. У тлуме чуецца кароткі выгук: «Гэта ён! Гэта ён!» — і ўсталёўваецца цішыня. Усе погляды прыкоўваюцца да постаці правадыра, які зараз павінен выступіць у цырку на трунах сваіх бацькоў. Індзеец сапраўды заслугоўвае, каб на яго глядзелі. Ён выглядае велічна, як кароль. Фігуру сахема, ганарлівага і такога дзікага, што ён нагадвае кепска прыручанага ягуара, пакрывае плашч з белых гарнастаяў — адзнака правадыра. Яго твар нібыта выкаваны з медзі, галава падобная на арліную, а направўду індзейскія вочы свецяць халодным бляскам — спакойныя, быццам абыякавыя, але ўсё адно злавесныя. Ён абводзіць імі натоўп, нібы вышукваючы ахвяру, — бо, дарэчы, узброены ад галавы да ног. У яго на галаве пагойдваюцца пёры, на поясе сякера і нож для скальпавання, толькі ў руцэ замест лука ён трымае доўгі шост для раўнавагі. Спыніўшыся на сярэдзіне сцэны, індзеец раптам выдае ваенны кліч. Гэта кліч Чорных Змей! Тыя, што выразалі Чыявату, добра памятаюць гэтае страшнае выццё, і, — якое дзіва! — тыя, што пятнаццаць гадоў таму не спалохаліся тысячы такіх воінаў, цяпер пакрыліся потам, убачыўшы аднаго. Але вось дырэктар падыходзіць да правадыра і звяртаецца да яго, быццам хочучы ўлагодзіць і заспакоіць. Дзікі звер адчуў цуглі — угаворы спрацоўваюць, бо праз хвілю сахем ужо хістаецца на дроце. Углядаючыся ў газавую жырандоль, ён рухаецца наперад. Дрот моцна прагінаецца; часам яго ўвогуле не бачна, і тады здаецца, што індзеец вісіць у паветры. Ён быццам ідзе ўгару; робіць крок наперад, адступае і зноў ідзе, захоўваючы раўнавагу. Яго пакрытыя плашчом і выцягнутыя ў бакі рукі нагадваюць вялізныя крылы. Ён хістаецца... падае... не! Кароткія адрывістыя воплескі віхурай праносяцца па зале і сціхаюць. У цырку неспакойна, але цішу ніхто не парушае. Сахем тым часам набліжаецца да другога канца дрота, спыняецца — і нечакана з яго грудзей вырываецца ваенная песня.

Вось дык дзіва! Правадыр спявае па-нямецку! Ён напэўна забыў мову Чорных Змей. Зрэшты, ніхто на гэта не звяртае ўвагі. Усе слухаюць песню, якая робіцца ўсё мацнейшай і гучнейшай. Гэта напалову спеў, напалову нейкі бязмерна роспачны крык, дзікі і хрыплы, поўны драпежных акцэнтаў.

Там былі такія словы:

«Чыявата была шчаслівай! Жанчыны працавалі ў вігвамах, дзеці выраслі ў прыгожых дзяўчат і мужных воінаў. Воіны паміралі на полі славы і ішлі з духамі бацькоў паляваць у срэбныя горы. Іх сякеры ніколі не пляміліся крывёй жанчын і дзяцей, бо воіны Чыяваты былі высакароднымі мужамі. Чыявата была магутнай. Але з-за далёкіх мораў прыйшлі бледнатварыя і кінулі на Чыявату агонь. Бледнатварыя воіны не перамаглі Чорных Змей у бітве, а пракраліся ноччу, як шакалы, і заплямілі нажы крывёй з грудзей заснулых мужчын, жанчын і дзяцей.

І вось няма Чыяваты, бо на яе месцы белыя ўзвялі свае каменныя вігвамы. Забытае племя і знішчаная Чыявата патрабуюць помсты».

Голас правадыра рабіўся ўсё больш хрыплым. Цяпер, хістаючыся на дроце, індзеец здаваўся нейкім чырвоным анёлам помсты, што ўзнёсся над чалавечым тлумам. Нават дырэктар відавочна занепакоіўся. У цырку запанавала магільнае маўчанне. Правадыр выў далей:

«З усяго племені засталося адно дзіця. Яно было малое і слабае, але прысягнула духу зямлі, што адпомсціць. Што ўбачыць трупы белых мужчын, жанчын, дзяцей — пажары, кроў!». Апошнія словы ператварыліся ў ашалелы рык. Па цырку пранёсся пошум, падобны на рэзкі парыў ветру. У галовах мільгалі тысячы пытанняў без адказу. Што зробіць гэты раз'юшаны тыгр? Што ён прарочыць? Як адпомсціць? Ён? Адзін? Застацца ці бегчы? Ці абараняцца? Як?

Раптам з грудзей правадыра вырвалася нечалавечае выццё. Ён загайдаўся мацней, ускочыў на драўляныя козлы, што стаялі пад газавымі лямпамі, і ўзняў шост. У галовах бліскавіцай пранеслася жудасная думка: зараз ён разаб'е жырандоль і зальe цырк патокамі вогненнай газы. Але што гэта? З арэны крычаць: «Стой! Стой!». Праўдыра няма! Ён саскочыў з козлаў і знік. Ён не спаліць цырк? Куды ён падзеўся? І вось ён выходзіць, выходзіць зноў, задыханы, змучаны, страшны. У руцэ ён трымае бляшаную міску, працягвае яе гледачам, умольна просіць: «Was gefällig für den letzten der Schwarzen Schlangen !...»*

У гледачоў — гара з плячэй. Дык гэта ўсё было ў праграме, дык гэта ўсё — прыдумка дырэктара? Гэта ён проста дамагаўся большага эфекту?

Сыплюцца пяцідзесяціцэнтавікі і долары. Бо як адмовіць апошняму з Чорных Змей — у Антылопе, на папялішчы Чыяваты? У людзей ёсць сэрца.

Пасля прадстаўлення сахем піў піва і еў клёцкі ў карчме «Пад залатым сонцам». Атачэнне на яго відавочна паўплывала.

У Антылопе ён зрабіўся вельмі папулярным, асабліва сярод жанчын. Пляткарылі нават...

* Будзьце ласкавыя, апошняму з Чорных Змей (ням.)

**Пераклала з польскай мовы**
**Ганна Янкута**

# «Памяні мяне, пакуль жыву»



Наталля ГАРБАНЕЎСКАЯ

## Ад перакладчыцы

Наталля Гарбанеўская прыязджала ў Беларусь прынамсі аднойчы — на 100-годдзе Чэслава Мілаша ў верасні 2011-га.

Пасля сустрэчы мы запрасілі госцю ў рэстарацыю, збіраючыся, канешне, карміць дранікамі. Абралі «Камяніцу». З Залатой Горкі на Пуліхава трэба было пад'ехаць колькі прыпынкаў трамваем-«адзінкай».

Наталля Яўгенаўна была глухаватая і размаўляла голасна, бо сябе не чула. У «адзінцы» яна працягнула размову, што вялася раней, расказваючы нам нешта пра свае творы і пераклады, сваіх паплечнікаў, свой досвед… Гэта было гучна і выглядала з боку як прамова на мітынгу. Гарбанеўская прамаўляла гучней, чым бразгатаў вагон трамвая па разбаўтаных рэйках. Гэта не магло не прайсці незаўважаным.

Да нас падышоў маладзён з доўгімі валасамі. Па старой мінскай завядзёнцы дзевяностых і нулявых, у абед ад яго звабліва патыхала півам.

— А кто такая эта ваша старуха, каб так пафосно говорить о себе в публичном месте? — зласліва спытаўся хлопец.

— Гэта Наталля Гарбанеўская, расійская праваабаронца і паэтка, — адказала я.

— Ну и что? Кому это интересно?

— Але гэта сапраўды знакавая асоба. Яна выйшла на Красную плошчу ў Маскве ў 1968-м… Адна з васьмі…

— Кого это вообще волнует? Это не даёт ей право сейчас орать на весь трамвай. Тем более в Минске! У нас так не принято. Немедленно попросите ее заткнуться.

Я, канешне, не папрасіла. Але сцэну тую запомніла назаўсёды. Азірнулася — рэшта пасажыраў заставалася абыякавай да сцэны. Сітуацыя ўстурбавала толькі майго суразмоўцу. У той час Мінск быў разасобленым, нядружным горадам.

У 2011-м мінчукі ўжо выходзілі на вуліцы з маўклівымі воплескамі, але імёны сусветна вядомых дысідэнтаў былі для іх яшчэ пустым гукам. Ці саступілі б у тым годзе ў мінскай «сотцы» месца Вацлаву Гавэлу, які хадзіў з ляскай? Ці змог бы Нэльсан Мандэла праехацца па «Аўтазаводскай» лініі метро, унікнуўшы дачэпак да колеру скуры? Дзесяць гадоў таму абодва палітыкі і праваабаронцы былі яшчэ жывыя…

А вось ужо ў 2018 годзе легендарны польскі паплечнік Гавэла і Гарбанеўскай Адам Міхнік пры перапоўненай зале выступаў у Мінску, на фестывалі WATCH DOCS. Арганізатарка той сустрэчы Таццяна Гацура-Яворска зазнала сёлета пераслед рэжыму. Яна была прызнаная палітзняволенай, як і сотні іншых беларусаў. І я ведаю, што Наталля Яўгенаўна, калі б была з намі, сёння гучна гаварыла пра гэта на ўсіх маршрутах мінскага трамвая.

Наталля Гарбанеўская нарадзілася ў Маскве 26 траўня 1936 года, была філолагам з адукацыі. Да 1968 года была аўтаркай, рэдактаркай і машыністкай самвыдаву. 25 жніўня 1968 года выйшла на Красную плошчу Масквы ў знак пратэсту супраць уварвання СССР у Чэхаславакію. У вазку пры ёй быў малодшы сын. Была арыштаваная ў 1969 годзе, прызнаная вар'яткай, прайшла прымусовае лекаванне ў Казанскай псіхіятрычнай лякарні. Вызваленая ў 1972-ім. У 1975 годзе разам з двума сынамі эмігравала з СССР, неўзабаве пасялілася ў Парыжы, з'яўлялася ў Францыі асобай без грамадзянства. Працавала рэдактаркай і публіцысткай (часопіс «Континент», газета «Русская мысль», радыё «Свобода»). Перакладала літаратуру з польскай і чэшскай моваў. У 2005 годзе атрымала польскае грамадзянства. У красавіку 2013 года зноў выйшла на Красную плошчу з лозунгам «За нашу и вашу свободу». Памерла ў Парыжы 29 лістапада 2013 года.

Гэтая публікацыя прысвечаная 85-годдзю Наталлі Гарбанеўскай.

## По прачытанні кнігі Рэя Брэдбэры «Fahrenheit 451»

*Вельмі разумныя людзі*
*Вельмі разумныя людзі*
*Вельмі Вельмі Вельмі*
*Вельмі разумныя людзі*
*Хто ж ганьбаваць іх будзе?*
*Хто ж ганьбаваць іх будзе?*
*Такія разумныя людзі.*
*Ну проста амаль мудрацы.*

*Абсмаленыя старонкі*
*мной не чытаных кніг.*
*Абсмаленыя старонкі.*
*Кнігапал непісьменны пры іх.*

*Вельмі разумныя людзі*
*сказалі яму: — Спалі.*
*Сказалі, што гэтыя кнігі —*
*яго непрыяцелі.*

*Цяпер падпускаюць да попелу:*
*— Грабіце дабро ад зла.*
*Цяпер падпускаюць да попелу:*
*— Ану, з цэмры да святла!*

*Я разграбаю попел —*
*рукі па локаць у прыску.*
*Я разграбаю попел —*
*ні літаркі, ані рыскі.*

*Вельмі разумныя людзі.*
*Усё вельмі добра прадумалі.*
*Каб усе іншыя людзі*
*ужо ні пра што не думалі.*

**1956**

***

*Усё роўна потым*
*ні за што не згадаюць*
*ці быў Дантэ гвельф,*
*а ці гібелін,*
*і якога колеру*
*сцяг*
*і ці быў падняты,*
*і ў якім агні*
*шукаў ён гібелі.*

*Ох, магіла брацкая,*
*вольніца арбацкая*
*у Ф'ярэнцу сігануці,*
*памаліціся,*
*Аліг'еры памянуці,*
*Пакланіціся.*

**1963**

***

*Раўчук не родзіць кветак,*
*і стронга не пяе,*
*а хто не лічыць гэтак,*
*той вісне на слупе.*

*А той, хто лічыць зоркі*
*ў гірляндзе раўчука,*
*той ці дзіцёнак горкі,*
*ці форменны зэка.*

*Навошта ён іх лічыць?*
*Пятля яму, пятля.*
*Вароны смерць наклічуць,*
*Прымі яго, зямля.*

*Ды ён і нас загубіць —*
*ату яго, ату!*
*..........................*
*Але не змаўкае сонечны Шуберт*
*і стронга пяе ў раўчуку.*

**Верасень 1970, Бутырская турма, бальнічка**

***

***«Лёс дзяцей яе не турбуе».***

*Гэту фразу з акту экспертызы,*
*срабрыстым прапяяную кларнетам,*
*час пазбавіў фарбаў пагрозы,*
*але дабяла не вымыў пры гэтым.*

*Добра, калі дыхаюць за сцяною*
*два сыны, а не сукамерніцы поплеч,*
*добра, калі вусны раніцай не сцінае*
*ядавітай явы горкая горыч.*

*Добра жыць без абмацвання глузду,*
*ці не з'ехаў куды, ведаць, хто ты,*
*удыхаючы не аселы з-пад друзу*
*прах таго, што, дай Бог, беззваротна.*

**1973**

***

*Госпадзе Ісусе, Маці Божая,*
*што за народзічак неданароджаны?*
*Як ускудлачанае буслінае пёрка,*
*ветрыкам гнанае цераз пагоркі,*
*цераз канавы, цераз сівыя*
*пусткі, дзе толькі сабакі выюць.*

*Што за народзічак, што за людцы,*
*што за айчыначка з нас намалюецца?*
*Як перастаялая, з таго яшчэ году,*
*вярба віленская, любая Богу,*
*вярба фарбаваная, вярба сухая,*
*пясок пялёсткаў на мяне абсыпае…*

**1975**

***

*Памяні мяне, пакуль я жыву*
*пакуль не абмякла ў сырую траву*
*пакуль паміж ровам і ротай*
*рукі звязаныя дротам*
*але ўсё яшчэ над ровам а не ў*
*не плач на труне не пугач на багне*
*не вал па-над ровам і каранёў*
*вярба скрозь мяне не цягне*
*Яшчэ варушу пясок*
*удыхаю пясок нагбом*
*Памяні ж мяне напрамілы Бог*
*Пакуль не позна напрамілы Бог*
*пакуль на захадзе не чырванее Ўсход*

**1977**

***

*Я не паэта й не грамадзянін —*
*без грамадзянства, ды з якім акцэнтам,*
*з якой супраціўляльнасцю ацэнкам,*
*што мне даюць тутэйшыя чужын,*

*з якою вернасцю — не ім — рацэ,*
*што коціцца пад мост-не-на-разводзе,*
*што залівае брук, калі разводдзе,*
*мае ўсе слёзы там — не на шчацэ,*

*мае ўсе слёзы выпалі вясной,*
*вясной, якая больш чым адбуяўшы…*
*Адкуль жа ёлкі пах прасянай кашы,*
*на Сэн-Жэрмене, на рагу Сянной?*

**1982**

***

*Здараецца,*
*здараецца, я разумею,*
*што яны мелі рацыю —*
*лекары з Крапоткінскага завулка.*
*І праўда: быць трэба вар'ятам,*
*каб з норавамі змагацца,*
*дый шчэ не дзеля славы гэткая праца*
*і не дзеля месцейка лагернага паўдурка.*

*А здараецца,*
*здараецца, я зноў не разумею,*
*як яны маглі думаць,*
*што будуць павек мець рацыю —*
*лекары ў халатах, накінутых на пагоны,*
*што норавам не памяняцца,*
*што не надыдзе час —*
*але не помсты, на плацы,*
*а праўды, якая цемру шаленства разгоніць.*

**Канец 1980-х**

**Пераклала з рускай мовы**
**Марыя Мартысевіч**

# Будзьма з «Дзеясловам»!

Сябры!

Заклікаем у бязмежны і вольны свет сучаснай нацыянальнай літаратуры!

Яго ўжо амаль два дзесяцігоддзі прэзентуе «Дзеяслоў» — адзіны ў краіне перыядычны часопіс, які аб'ектыўна асвятляе літаратурна-мастацкі працэс, друкуе творы беларускіх аўтараў (і пераклады замежных) — не зважаючы на іх грамадска-палітычныя і эстэтычна-мастацкія прыхільнасці.

Дзейнасць «Дзеяслова» накіраваная ў першую чаргу на выжыванне ў краіне свабоднага слова, беларускай літаратуры, абарону права пісьменнікаў і журналістаў на публікацыю сваіх тэкстаў, данясенне да чытачоў праўдзівай і аб'ектыўнай інфармацыі пра стан літаратуры і культуры.

Сярод аўтараў «Дзеяслова» былі найлепшыя беларускія творцы: Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін. Свае новыя творы прапануюць выданню Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Анатоль Вярцінскі, Генрых Далідовіч, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Жук, Сяргей Законнікаў, Васіль Зуёнак, Віктар Казько, Віктар Карамазаў, Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Андрэй Федарэнка, Адам Глобус ды іншыя літаратары.

Шмат увагі часопіс надае публікацыям спадчыны вядомых беларускіх пісьменнікаў.

На старонках «Дзеяслова» дэбютавалі такія вядомыя цяпер аўтары, як Вольга Базылёва, Крысціна Бандурына, Анатоль Івашчанка, Наста Кудасава, Сяргей Прылуцкі, Віталь Рыжкоў, Усевалад Сцебурака, Наталка Харытанюк.




Паводле водгукаў чытачоў, заўсёды цікавыя ў «Дзеяслове» і публіцыстыка, эсэістыка, артыкулы на гістарычную тэматыку, літаратуная і мастацкая крытыка.

Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі ды атрымліваць яго шэсць разоў на год.

Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813, для ведамаснай падпіскі — 748132.

Часопіс «Дзеяслоў» можна набыць і ў менскіх кнігарнях: «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72), «Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9, уваход са двара), а таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і prastora.by.

Сайт часопіса — dziejaslou.by.

Будзьма разам!

# Дзядзька Міхал

Беларускі паэт, драматург, публіцыст і выдавец Тодар Лебяда (Пятро Шырокаў, 1914—1970) быў двойчы рэпрэсаваны: у 1936-м — на 5 гадоў — і ў 1947 годзе — на 25.

Тодар Лебяда ўпершыню ў беларускай літаратуры смела і адкрыта паказаў жахі сталінскага тэрору, знішчэнне беларускай нацыі.

Нядаўна ў Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці выявіў некалькі рэдкіх празаічных твораў Тодара Лебяды. Адно апавяданне «Дзядзька Міхал» прапаную чытачам «Літаратурнай Беларусі». Гэта вельмі чуллівы і праўдзівы твор пра лёс беларусаў у далёкіх алтайскіх лясах, скуль тысячы не вярнуліся на Бацькаўшчыну...

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Тодар ЛЕБЯДА

**Ой, як шмат беларускага гора і слёз захавалі ў сабе гэтыя алтайскія лясы ды як шмат шчырых беларусаў знайшлі сабе магілы ў гэтай здзічэлай тайзе толькі таму, што яны былі беларусамі...**

Вясна. Сонца ва ўсёй сваёй прыгажосці высока ўзнімалася над аголенымі верхавінамі. Прыгледзецца ўважліва — і можна было заўважыць, як таялі апошнія льдзіны сярод скамянелых узгор'яў. Здавалася, што сонца ўсе свае прамені і ўсю сваю моц на гэты раз накіравала туды, дзе адчай і голад.

Працавалі ў тайзе. Буйныя кроплі салёнага поту скатваліся з твараў, траплялі раз-пораз у рот праз раскрытыя вусны; гэтыя кроплі салёныя, нясмачныя, іх на хаду сплёўвалі з моцнай лаянкай. Кроплі поту скатваліся на вочы, і тады па мокрым твары праводзілі рукавом заскарузлае кашулі, пакідаючы на твары брудныя сляды. Спыніць хаця б на момант работу і адпачыць было немагчыма. Адразу ва ўсё горла грымеў покліч «папугая»: «Давай!..». Гэтае «давай» быццам бізуном выцінала па сэрцы.

Я з маім «напарнікам» — прафесарам Пецярбургскага інстытута мікрабіялогіі — дапілоўвалі тоўстую, у некалькі абхватаў, піхту. Нейкім чынам гэтая піхта пахілілася ў супрацьлеглы бок, куды мы ніяк не разлічвалі, і з шумам «разыграла» вакол пня, адпіхнуўшы майго старэнькага прафесара далёка ўбок. Я некаторы час стаяў, як аслупянелы, потым падбег хуценька да прафесара, якога лічыў ужо мёртвым. На шчасце, з ім нічога не сталася.

— Э-э, браце, гэта табе не ўніверсітэт, тут, браце, трэба мазгамі варушыць... — пачуў я ззаду нейкі незнаёмы голас.

Я толькі лёгка здрыгануўся, бо гэта была мова беларуса. Азірнуўся — і заўважыў, як да нас набліжаўся яшчэ зусім незнаёмы мне чалавек. На яго потным і брудным твары расплывалася прыемная ўхмылка з пачуццём нейкага асаблівага, прыемнага мне гонару. У яго голасе я не пачуў ні пагарды, ні злосці. «Слоў няма, — казаў ён далей, — справа не лёгкая». «Папугай» паведаміў, што мы маем права абедаць. Абеду для нас ніякага не гатавалі. Дарагім быў і паўгадзінны адпачынак.

— Адкуль вы, дзядзька, ведаеце мяне?

— Яшчэ б не ведаць. Як гэта — каб земляка ды не ведаць. Я цябе адразу пазнаў. А табе, браце, вось дык і сорам, што земляка цураешся. Студэнцкая гордасць сказваецца...

Гэтыя словы яго прывялі мяне ў замяшанне. Я не ведаў, што мне адказаць.

— Мяне Міхалам завуць, са Случчыны я... Трэці год, як служу «гражданину начальнику».

Дзядзька Міхал, прыжмурыўшы вока, паглядзеў на сонца.

— Прыпякае, бач... Так, так... А ў нас там ужо павінны сады расцвітаць...

У голасе дзядзькі Міхала адчуваўся нейкі далёкі сум. У вачах яго ігралі нейкія патаемныя агеньчыкі. Вялікую душу адчуваў я ў гэтым яго поглядзе.

На момант дзядзька Міхал знік паміж кедровымі зараслямі, і праз некалькі хвілін ён звярнуўся зноў да мяне — з засмажаней на вогнішчы вавёркай.

— Мацуйся! — і ён аддаў мне палову вавёркі. Я некаторы час стаяў у нерашучасці з вавёркаю ў руцэ. Здаецца, дзядзька Міхал зразумеў мяне раней, чым я сказаў што-небудзь.

— Што, душа не ляжыць? Ты, браце, не асаблівы!.. — і ён першы з вялікім апетытам пачаў есці сваю порцыю. — Трэці год я тутака... Шмат чаго наглядзеўся, шмат сяброў-землякоў сваіх пахаваў у гэтых гарах. Унь, дзе бярозка бялеецца...

Ён паказаў пальцамі ўбок:

— Там адзін віцьблянін Анучка пахаваны... А унь, дзе скала — лявей гэтых кедраў, там з-пад Воршы беларус адзін ... Сам магілку капаў яму, а зверху бярозку пасадзіў. Хай, думаю, расце на памяць. Там унь, за ручаём, з Бабруйска настаўнік ляжыць, а унь пад гарой — з-пад Слуцку... Тут, браце, цэлая гісторыя Беларусі нашай!.. З табою вось таксама спаткаўся...

Дзядзька Міхал кінуў на кучу муравейніка рэшты абгрызенае вавёркі.

— Пачуў ад цябе роднае слова, і як бы штосьці абарвалася ў сэрцы маім. Меў бы крылы, здаецца, паляцеў бы ў сваю старану!.. Здавалася б, і праца была не працаю, і голад не голадам, калі б толькі хоць адным вокам паглядзець на свае прасторы, хоць бы адну хвіліну падыхаць не паветрам!..

Дзядзька Міхал з сумам прыглядаўся кудысьці ўдалячынь.

— Даруй мне, — схамянуўся дзядзька Міхал, — цябе завуць Тодарам?

— Тодар, — адказаў я.

— Дык вось, як ты думаеш, Тодар? Мне здаецца, што мы ўсё-такі яшчэ будзем на Беларусі!

Я не ведаў, што адказаць на такое ці то сцверджанне, ці то запытанне. Я маўчаў, і ў гэтым маўчанні ён, здавалася, знаходзіў патрэбны яму адказ.

Дзядзька Міхал зноў утаропіўся вачыма ўдалячынь, у той бок, куды паволі ў прамянёных пералівах апускалася вясновае сонца. Наш спакой парушыў абрыдлівы вокліч «давай...». Паўгадзінны «абед» скончыўся. Зноў браліся за працу, зноў загудзелі пілы, застукалі тапары па алтайскай тайзе.

— Мы яшчэ пагаворым, шмат аб чым пагаворым, — сказаў дзядзька Міхал і пайшоў на сваё ранейшае месца. Я таксама ўзяўся за сваю працу.

Дзядзька ўзварушыў мае свежыя раны. Толькі ж я не даведаўся дакладна, хто ж ён такі, гэты Міхал.

— Беражы-ы-ся! — раптам пачулася з усіх бакоў па тайзе. Цяжка стагналі, падаючы на зямлю, дрэвы.

Праз некаторы час пачуўся дзікі крык. Я заўважыў, як некалькі чалавек, спяшаючыся, накіраваліся да таго месца. З дазволу «папугая» пабег і я. З-пад груды піхты, якая толькі што ўпала на зямлю, выцягвалі чалавека. Я адразу пазнаў у ім дзядзьку Міхала.

Яго вочы бегалі па натоўпе ў непрытомнасці. Яны хутка ўтаропваліся ў кожнага чалавека, стараючыся распазнаць каго-сьці. І вось поглядам ён стрэўся са мною.

— Тодар!..

Ён працягнуў сваю дрогкую руку. Потым адчуваў, як ён намагаў усе свае апошнія сілы і хацеў штосьці сказаць. У яго гэта не атрымлівалася.

— Можа... Тодар... на Беларусі будзеш... — але ён зноў не дагаварыў...

— Я, дзядзька Міхал, буду на Беларусі, — казаў я, стараючыся яму дапамагчы, а сам з сумам думаў, што не, можа, і не буду.

Кроў праз рот хлынула ў дзядзькі Міхала. Ружовая, цёмная кроў... Яна цёплым струменьчыкам палілáся на аголены гранітны камень. Ён яшчэ ў сутаргах змагаўся са смерцю, моцна сціскаючы патрэсканыя ад спякоты вусны, імкнучыся хоць на хвіліну затрымаць у сабе жыццё.

— Тодар... Пастарайся ўсё ж быць...Тодар... на радзіме...

Больш ён не сказаў нічога.

Пастаяўшы яшчэ некалькі хвілін, я асцярожна, з болем у сэрцы, скрыжаваў на грудзях яго яшчэ цёплыя рукі. Мне здавалася, што і з майго сэрца таксама палілася кроў і гарачым струменем паплыла па нутры, сціскаючы ў грудзях і стрымліваючы дыханне...

— Давай!.. — пракрычаў у тайзе ад злосці «папугай».

# Дзядзька Павел

Лявон ВАЛАСЮК

У маім невялічкім садзе больш за трыццаць гадоў расце прыгожае дрэва — грэцкі арэх. З цягам часу яно стала высокім, разгалістым. Я люблю пазіраць на любімае дрэва з кухоннага акна.

Грэцкі арэх — двухгадовым саджанцам — прынёс маёй маці яе старэйшы брат Павел, які жыў ад нас праз дзве вуліцы. Дзядзька Павел усё сваё жыццё працаваў на будоўлі: колькі я памятаю — маляром. Было, што і я хадзіў да яго па фарбу для падлогі, калі мы дабудоўвалі новы цагляны дом. Той пах цёмна-чырвонай фарбы памятаю і цяпер, калі стаў мастаком і без фарбаў не ўяўляю свайго жыцця.

Са слоў маці я ведаю, што дзядзька Павел у юнацкія гады любіў маляваць, і яго́ныя лебедзі на азёрнай роўнядзі, рагатыя алені ды зіркатыя кацяняты аднаявяскоўцы ўстаўлялі ў самаробныя рамкі пад шкло, упрыгожваючы такім чынам сваё жытло. У нашым доме, колькі сябе помню, віселі белыя галубы на блакітнай паперы. Напэўна, і мне, думаю іншы раз, перадалася ў спадчыну дзядзькава цікавасць да малявання.

У дзядзькі Паўла склаўся няпросты жыццёвы лёс. За польскім часам ён быў падпольшчыкам, сябраваў з беларускімі камуністамі. А як усталяваліся Саветы, быў прызваны на службу і накіраваны ў Брэст-Літоўск, у рэзервовае падраздзяленне (было гэта на пачатку лета 1941-га). Казармы знаходзіліся непадалёку ад чыгуначнага вакзала ў Граеўскім прадмесці, як называлі гэты раён Брэста.

Ранкам 22 чэрвеня ад нечаканых выбухаў пахіснулася і перакулілася зямля. Дзядзька Павел не памятаў, як апынуўся ў дымнай варонцы побач з чыгуначным палатном. Там жа аказаўся і яшчэ адзін з «рэзервістаў». Чырвонаармейцы як спалі, так і павыскоквалі ў споднім у вокны і праломы сценаў, не разумеючы, што рабіць і куды бегчы. Рэзервіст-навабранец і яго саслужывец не паспелі ачомацца, як зверху на краі варонкі ўбачылі нямецкіх салдат, якія крыкам і жэстамі загадвалі падымацца...

Вялікую калону ваеннапалонных гналі праз горад да Брэсцкай крэпасці. На цяперашняй вуліцы Герояў Абароны салдаты-канваіры дазволілі ім зайсці ў дамы і папрасіць якую адзежыну, бо многія былі ў адным споднім. У той самай калоне дзядзька Павел натрапіў і на свайго земляка Сцяпана Грыгорыка з вёскі Стасюкі, з якім быў разам да канца палона.

А сусед па варонцы аказаўся малодшым камандзірам. Гэта выдавала яго прычоска — у адрозненне ад радавых, якія стрygліся пад нуль, чырвоныя камандзіры насілі на галаве валасы. На хаду, у двары незнаёмага дома, дзядзька Павел са Сцяпанам на хуткую руку пагалілі перапалоханага не менш, чым яны самі, камандзіра. У гаспадара знайшлася для яго цывільная вопратка. Так і ўратавалі чалавека.

Потым палонныя апынуліся пад Бялай Падляскай у Польшчы, дзе іх галоднымі трымалі пасярод поля, абнесенага калючым дротам. Пад нагамі была выедзена ўся трава разам з карэннем. Толькі зрэдку ахоўнікі шпурлялі за калючы дрот салёную рыбу. Тыя з бедалаг, хто апантана накідваўся на такую ежу, доўга не жылі.

Кожную раніцу вывозілі на падводах памерлых: першымі не вытрымалі голаду і здекаў «інтэлігенты», потым тыя, хто няблага карміліся перад вайною. Даўжэй за іншых трымаліся мужчыны, каторыя перажылі галодныя гады. Тых, хто застаўся жыць, павезлі далей, у Германію. Па дарозе ў вагоны кінулі па некалькі боханаў хлеба, справакаваўшы бойкі паміж звар'яцелымі ад голаду людзьмі. Сцяпану ўдалося ўхапіць бохан на ляту, па́даючы, ён прытуліў яго да грудзей, а дзядзька Павел, каб надзейна, лёг зверху. Так і дзяўблі па крошцы, пакуль ехалі.

У Берліне дзядзька Павел быў сведкам не абы-якога дзіва: нямецкія жанчыны падыходзілі да рускіх палонных, сцягвалі з іхніх галоў пілоткі, каб пабачыць там рогі. Варожая прапаганда на поўным сур'ёзе даводзіла, што ўсе рускія ходзяць з рагамі на галаве.

Далей лёс закінуў дзядзьку Паўла ў Францыю: пабачыў ён і Парыж, і французскі Брэст. Апошнім месцам палону, і надоўга, стала Нарвегія. Усё тая ж галадэча, пакутлівыя думкі пра кавалак чэрствага хлеба, які абменьвалі, было і такое, у гэткіх жа, як і самі, бедалаг-курцоў на выпадкова знойдзены недапалак.

Дзядзька Павел заўсёды і ўсім дзяліўся са сваім земляком Сцяпанам, з якім разам прайшлі ўсе лагерныя пакуты. Дапамагло выжыць яшчэ і тое, што палонныя жылі ў згодзе. Па зямляцкім ці іншым прынцыпе яны негалосна дзяліліся на «брыгады», у якіх самі ж усталёўвалі моцную дысцыпліну.

У 1945-м, пасля вызвалення, на перасыльным пункце пад Выбаргам, дзе вырашаліся далейшыя лёсы ваеннапалонных, дзядзька Павел нос у нос сутыкнуўся з былым камандзірам-палітруком, тым самым, для якога стаў цырульнікам, не дапусціў, каб выпіхнулі ў афіцэрскую калону. Той быў ужо капітанам і займаў, відаць было, немалую пасаду. Афіцэр пазнаў свайго выратавальніка і дапамог яму не трапіць у спіс здраднікаў.

«Я хацеў цябе задушыць яшчэ ў лагеры пад Бялай Падляскай, — немаведама для чаго адкрыўся афіцэр. — Баяўся, што выдасі мяне за кавалак хлеба. Добра, што не знайшоў».

Сябрамі яны так і не сталі. Павел Паўлавіч Крэчык, родны дзядзька па маці, хоць і не меў ваенных медалёў, быў і застаўся ў маёй памяці чалавекам з пачуццём высокай уласнай годнасці.

# Сабіна БРЫЛО: «Калі будзеш баяцца, згубіш сілы на жыццё»

**Паэтка Сабіна Брыло ўспрымае свет праз тэкст. Праз тэкст знаёміцца з яго аўтарамі. У тэкст яна ўвасабляе ўласнае жыццё. З дапамогай тэксту лечыць і сябе, і іншых. А вершы — гэта толькі адна з частак яе свету, дзе валадарыць тэкст.**

***— Сабіна, хто вы: паэтка, журналістка ці рэдактарка?***

— Хоць ужо досыць шмат часу я не працую ў палявой журналістыцы, але дасюль, калі пытаюць, як прадставіць мяне, я кажу, што журналістка. Напэўна,



гэта нешта такое, што з чалавека не выветрываецца.

***— Лад жыцця?***

— Так. Нягледзячы на тое, што з кожным годам я ўсё больш фіксую ў сабе інтраверсію, я ўсё адно не перастаю цікавіцца людзьмі. Гэта своеасаблівая опцыя: калі яе ўключылі, выключыць цяжка.

***— Як вы прыйшлі ў журналістыку?***

— У журналістку я прыйшла ў дваццаць гадоў, прытым вучылася ёй у рэдакцыі. Пачала працаваць у палітыка-прававым штотыднёвіку «Феміда». Гэта быў 1994 год. Пасля я зарабляла грошы ў газеце «Криминальное обозрение», была намеснікам галоўнага рэдактара і, па сутнасці, рабіла газету «па сваім уяўленні», нават прасоўвала там праваабарончую тэматыку. Адтуль і пайшла ў дэкрэт. Пасля працавала рэдактарам аддзела ў «Медыцынскім весніку». Мне падабалася медыцынская тэматыка, падабалася працаваць са спецыялістамі, капаць углыб, дапамагаць людзям... Праўда, хоць тады быў і пачатак 2000-ых, але працаваць у дзяржаўным выданні ўжо было невыносна. Галоўны рэдактар штотыдзень хадзіў на планёркі ў міністэрства, дзе наўпрост казалі, пра што трэба пісаць. Пакуль я магла распрацоўваць сур'ёзныя тэмы, ставіць нязручныя пытанні, шукаць на іх адказы і публікаваць гэтыя матэрыялы — мне было цікава, але чым далей, тым для мяне было менш паветра, і праз некалькі гадоў я сышла. Паклікалі ў глянцавы часопіс, займалася там пераважна рэдактурай, час ад часу нешта пісала. Калі пачаў працаваць «Белсат», мы разам з маім мужам сталі рабіць для яго праграму «Маю права», і гэта было цалкам маё. Прававая тэматыка заўсёды для мяне была цікавай. Думаю, гэта выклікана той сітуацыяй, у якой мы жылі і жывём, калі рэчаіснасць не адпавядае тым нормам, якія мусяць панаваць у грамадстве.

***— Як пазнаёміліся са сваім мужам Андрэем Бастунцом, які ўзначальвае Беларускую асацыяцыю журналістаў?***

— Мне было дзевятнаццаць гадоў, калі я кінула пэўны лад свайго жыцця і перспектывы, якія разгортваліся перада мной. Я пісала вершы, якія лічыла добрымі, таму прынесла іх у «Знамя юности». Тады пры газеце было літаратурнае аб'яднанне «Светацень», куды ўваходзіў і Андрэй. Некалькі гадоў мы разам друкаваліся, «адточвалі» сваё майстэрства вершаскладання... І я паступова пачала «закохвацца» ў яго вершы. Думаю, гэта быў першы жывы паэт, якога я палюбіла. Андрэю тады было 28 гадоў, яго вершы былі пераважна пра каханне і чалавечую тугу. Мяне гэта моцна падкупіла. Мы пачалі сустракацца, а праз некалькі гадоў у нас нарадзіўся сын Арсеній.

***— Ведаю, што пасля нараджэння сына вы перасталі пісаць, прытым не рабілі гэта доўгі час. Чаму?***

— Калі сын нарадзіўся, у мяне засталося мала часу на сябе. Жыццё перафарматавалася, бо ты робішся дадаткам да дзіцяці




і не маеш уласных жаданняў. Па-другое, мне падавалася, што калі я буду займацца творчасцю і атрымліваць ад гэтага асалоду, давядзецца за гэта плаціць. А самая дарагая валюта, якую я маю, — гэта мой сын. Мне падавалася, што жыццё з малым мусіць быць напружаным і накіраваным на яго патрэбы... Але калі сыну было каля года, я выйшла на працу. Амаль усе заробленыя грошы я аддавала на заробак няні. Вершы пісаць я не магла, а праца была патрэбна мне, каб не з'ехаць з глузду.

***— А ці не прыходзілася сябе стрымліваць, бо пісаць усё ж такі хацелася?***

— Было такое. Цяжка таму чалавеку, які душэўнае напружанне прызвычаіўся выліваць на паперу. Першыя часы гвалтоўна прымушала сябе не пісаць. Але ў тыя гады ў мяне было шмат працы... Трэба было жыць і зарабляць грошы, каб набыць нармальную кватэру. Да таго ж, я вучылася ў ЕГУ. Напэўна тады ў мяне не асабліва было часу на рэфлексіі.

***— Калі ўрэшце вярнуліся да напісання вершаў?***

— Да вершаскладання я вярнулася, калі зарэгістравалася ў фэйсбуку. Гэта было ў 2012 годзе. Я падлічыла, што не пісала вершы чатырнаццаць гадоў. А калі завяла старонку ў фэйсбуку, то такім вось чынам пачала арганізоўваць уласнае выказванне. Праз фэйсбук я пазнаёмілася і з Юліяй Чарняўскай. Яна прапанавала мне ўвайсці ў рэдкалегію літаратурнага клуба «Графо». Гэта была сапраўды класная і цалкам валанцёрская ініцыятыва, дзякуючы якой шмат творчых людзей паміж сабой пазнаёміліся, сталі выходзіць на публіку, друкавацца.

***— Як гэтыя вершы здолелі пасля ўвайсці ў кнігі?***

— У фэйсбуку мяне чыталі сябры і знаёмыя, якія былі звязаны з Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Тады ад Саюза і прыйшла прапанова выдаць зборнік: вершаў на яго хапіла, нават засталося з лішкам. Я сама ўзяла адказнасць за вокладку і вёрстку. Выдаць другую кнігу прапанаваў Раман Цымбераў. Яе набывалі тыя людзі, якія набылі першую кнігу. Выйшаў зборнік маіх вершаў і па-літоўску. Мой сябра, паэт, перакладчык і драматург Гінтарас Граяўскас, які і раней перакладаў мае вершы на літоўскую мову, папрасіў грошы ў міністэрства культуры Літвы на выданне кнігі маіх вершаў. Аднак яму адмовілі. Тады ён напісаў у фэйсбуку пост, у якім прапанаваў сябрам сабраць грошы на кнігу. Неабходную суму літоўцы сабралі за 36 хвілін. Кніга хутка выйшла і хутка разышлася.

***— Ці змянялася стаўленне да сябе, калі пачалі выходзіць кнігі?***

— Каб я лічыла сябе нявартай аўтаркай, я б ніколі не выдала кнігу. Я радая, калі знаходжу чытачоў, якім мае тэксты прыносяць задавальненне. Адабрэнне ад некага мне не тое каб патрэбна... Навошта табе чуць, што ты жанчына, калі ты і так ведаеш, што ты жанчына? Я ведаю, што я добра пішу тэксты. Дваццаць гадоў таму, напэўна, адчувала б сябе інакш. Тады, магчыма, гэтае прызнанне і спатрэбілася б. Калі табе сорак — гэта цябе ўжо не так акрыляе. Ты можаш або нешта даваць гэтаму свету, або не даваць. Калі мне кажуць: «Віншуем вас з кніжкай!», мне хочацца сказаць, што гэта я вас віншую, бо вы можаце яе пачытаць. Я не з тых, хто прыходзіць некуды і пачынае пералічваць свае заслугі. Але я радая, што кнігі выйшлі. Дай Бог, каб я і надалей адчувала гэты свет, каб магла нешта выказаць.

***— Як праходзяць вашыя цяперашнія дні?***

— Збольшага займаюся рэдактарскай працай. Нядаўна пра мяне ўзгадалі як пра паэтку: запрасілі пачытаць вершы студэнтам філфака БДУ. Улетку, калі ўсё будзе добра, паеду ў Літву на вялікі міжнародны паэтычны фестываль.

***— Вам падабаецца выступаць з вершамі перад чытачамі?***

— Мне няпроста выступаць, я выдаткоўваю шмат унутраных сіл. Лягчэй — перад тымі, хто ўжо чытаў мае тэксты.

***— Маеце больш давер да гэтых людзей?***

—Так. Чамусьці адчуваю сябе перад імі жаданай, не баюся, што ім надакучу. Перад незнаёмай аўдыторыяй мне цяжка чытаць, але час ад часу гэта раблю. Праўда, бывае, што я вельмі кепска сябе адчуваю пасля такіх выступаў. Магчыма, гэта праз маю інтраверсію, а магчыма, я проста занадта адказна стаўлюся да такіх мерапрыемстваў. Не люблю і калектыўныя выступы. Мне падаецца, што людзі прыйшлі паслухаць іншых аўтараў, а я ім замінаю (смяецца).

***— Ці цяжка творчым сужэнцам быць у шлюбе?***

— Цяжка. І ў сям'і, і ў побыце. Былі размовы, калі мы з мужам выказвалі, што перакрылі кісларод адно аднаму... У нас ніколі не было ні лёгкага сямейнага жыцця, ні мядовых месяцаў ці гадоў... Андрэй таксама перастаў пісаць у свой час. Але ў 2016 годзе ў яго выйшла кніга з тымі вершамі, у якія я некалі закахалася... Гэта вельмі якасныя вершы. У Андрэя напісаны і раман, які, праўда, пакуль не выдадзены. Ён піша, але вельмі рэдка. Мне часам бывае шкада, што Андрэй абраў грамадскую дзейнасць, а не літаратурную, бо ён вельмі добры літаратар. Ён арганізаваны так тонка, як і мусіць быць арганізаваны той чалавек, які піша. Мы абодва ўспрымаем жыццё хваравіта. Калі два чалавекі жывуць разам, ім нялёгка. Але на пэўным этапе ты разумееш, што мусіш дапамагаць іншаму справіцца з яго болем, а не выліваць у дадатак яшчэ і свой. Наогул, два чалавекі мусяць быць побач толькі тады, калі могуць дапамагаць адно аднаму.

***— Як ваша сям'я перажывала часы, калі ўзімку сілавыя структуры аказвалі ціск на БАЖ і, адпаведна, на вашага мужа?***

— Мы ж ведалі, што было пасля выбраў у 2006 і 2010 гадах. Маім знаёмым, маладзейшым за мяне, я казала ў жніўні, што мы мусім быць гатовымі да трох рэчаў. Нас могуць пакалечыць, пасадзіць і забіць. Асабіста я да ўсяго гэтага была гатовая, таму выклікі на допыты — рэч хоць і непрыемная, але не такая страшная, калі ты ўжо падрыхтаваўся да горшага. Мы стаім тварам да непрыкрытага зла, ад якога можна чакаць усяго, што заўгодна. Але гэтага не трэба баяцца. Калі будзеш пастаянна баяцца, то згубіш усе сілы на жыццё, а жыць трэба працягваць.

***— Ці атрымліваецца цяпер пісаць?***

— Пішу па крысе, але цяжка сёння знайсці форму. Вершы патрабуюць дысцыплінаванага падыходу. Нельга пісаць, калі табе няма чаго сказаць. Я лічу, што вершы мусяць мець філасофскую і музычную каштоўнасць. Добры верш — гэта калі ты яго чытаеш услых і ў цябе ні за што не чапляецца язык. Мне блізкія тыя аўтары, у якіх я не бачу эга. Выкараніць сваё эга, перахварэць на яго — вельмі важная рэч для пісьменніка. Важна прыйсці да таго стану, калі ты можаш стаць інструментам.

Прызнаюся: у жніўні я пачала пісаць п'есу «Ребята, я тут». Гэта п'еса пра Хрыста і пра тое, як вынікае з назвы, што Ён сёння — пасярод нас. Я вельмі хачу яе дапісаць, але пакуль усё яшчэ знаходжуся нібыта ў дрыгве: гатовыя толькі асобныя часткі. Я хачу надаць п'есе той сэнс, які быў важны б для мяне і для іншых людзей. Ведаеце, зараз так цяжка... Не ведаю, ці можа з такога становішча нарадзіцца нешта правільнае і добрае. Зараз шмат рэчаў хочацца не чуць і не бачыць. Праз гэта ты нібыта апранаеш на сябе навушнікі. Але яны перашкаджаюць чуць. А губляць слых ты не можаш, бо ты той чалавек, які трансфармуе жыццёвую сітуацыю ў тэкст.

***— Але як можна працягваць заставацца чулым да таго, што адбываецца навокал, і ў той жа час не стаць паралізаваным ад болю?***

— Часам верш з'яўляецца тады, калі на душы вельмі цяжка. Гэта такі псіхалагічны прыём: калі табе блага, зрабі тое, што ў цябе добра атрымліваецца. Напрыклад, ты можаш спячы кекс: ён смачна запахне — і ў цябе падымецца настрой. Калі ў цябе атрымліваецца пісаць вершы, то ў такіх выпадках ты пішаш. Але калі табе надта балюча і цяжка, то сілы на гэта знайсці немагчыма. Думаю, тады трэба перажыць гэтыя хвіліны, ператрываць. Я наогул аматар цярпенняў. Цярпенні — гэта тая рэч, якая нам мусіць моцна дапамагаць жыць, лавіць тую хвіліну, калі ў нас ёсць сілы. Так склалася, што мой лёс — гэта частка агульнага лёсу. Да мінулага жніўня ў нас былі як бы толькі ўласныя лёсы, усе паміж сабой канкуравалі... Такі свет мне не падабаецца. Цяпер па-ранейшаму ў нас ёсць сем'і, свае праблемы, змаганні з хваробамі... Але наш лёс апынуўся ўнутры агульнага лёсу. Вось так і жывеш: чакаеш спаўнення свайго лёсу. А разам з тым разумееш: таму, хто побач з табой, нясоладка, таму намагаешся яму дапамагчы. Але калі не можаш дапамагчы, то хаця б не трэба ныць. Думаю, што кожны чалавек, які апынуўся ў такой цяжкай сітуацыі, мусіць перасэнсаваць сваё жыццё. Заробкі, кватэры, крэдыты... У чым сэнс жыцця? Наўрад ці ў гэтым...

**Вікторыя ЧАПЛЕВА**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Мы ведаем, чаго вартая свабода і які цяжкі шлях да яе. Але вы яго пройдзеце»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Падзеі апошняга тыдня можна было ўявіць хіба ў вострасюжэтным блокбастары, але ніяк не ў Беларусі. За нейкія пару дзён беларускія ўлады сталі пагрозай для міжнароднай бяспекі і пераўтварылі краіну ў дзяржаву-ізгой для цывілізаванага свету. У той жа час гэта стала штуршком для моцнай хвалі салідарнасці з беларусамі, якія прагнуць перамен, у свеце. Асабліва цёплую падтрымку дэмакратычнай супольнасці Беларусі выказала Латвія, што, у сваю чаргу, выклікала ўзаемную высылку паслоў і ледзь не замарозку дыпламатычных адносін паміж дзвюма краінамі.**



Mārtiņš Staķis (Twitter)

Хоць дыпламатычнага спынення адносін пакуль няма, бо ў абедзвюх краін ёсць консульствы, можа стацца, што нармалізацыі стасункаў паміж дзяржавамі давядзецца чакаць даволі доўга.

У тое, што адбываецца ў суседняй краіне ў цэнтры Еўропы, латышам паверыць цяжка. Сапраўды выбухны эфект у Латвіі, дый ва ўсім свеце, стварыла прымусовая, з выкарыстаннем знішчальніка, пасадка самалёта Ryanair, які ляцеў з Афінаў у Вільню, і захоп беларускага журналіста Рамана Пратасевіча ды яго дзяўчыны Соф'і Сапегі.

У адказ на дзеянні беларускіх уладаў латвійскі ўрад устанавіў абмежаванні на авіязносіны з Беларуссю. А 24 траўня ў Рызе каля гасцініцы Radisson Blu Hotel Latvija, дзе пражываюць дэлегацыі краін-удзельніц Чэмпіянату свету па хакеі, афіцыйны сцяг Беларусі быў заменены на бел-чырвона-белы. Замену беларускага сцяга каля гасцініцы асабіста правялі міністр замежных спраў Латвіі Эдгар Рынкевічс і старшыня Рыжскай думы Марціньш Стакіс. Пазней у інтэрв'ю «Белсату» мэр Рыгі заявіў, што «ў гэтай сітуацыі няма пратакола, кожны павінен выбраць свой бок — народ, які прагне свабоды, ці крывавы і некантраляваны дыктатар. Я свой выбар зрабіў».

Па яго словах, маўчаць і атрымліваць задавальненне ад чэмпіянату свету па хакеі, які ў гэтыя дні праходзіў у Рызе, у гэтай сітуацыі было непрымальна. Мяняючы сцяг, Мартыньш Стакіс разумеў, што гэта пацягне за сабой скандал і негатыўныя ацэнкі (што ў выніку і адбылося: у адказ Беларусь выслала з краіны латвійскіх дыпламатаў, а Латвія — беларускіх). Больш за тое, з прапанаваных кіраўніком Міжнароднай хакейнай федэрацыі Рэнэ Фазелем варыянтаў зняць альбо бел-чырвона-белы сцяг, альбо сцягі Федэрацыі, Стакіс выбраў другі варыянт. Ён гэта патлумачыў тым, што палітыкі павінны найперш абараняць людзей і свабоду.



Эліта Вейдэмане

У сваю чаргу прэзідэнт Латвіі Эгліс Левітс назваў замену сцяга Беларусі на чэмпіянаце свету ў Рызе адэкватнай палітычнай рэакцыяй і сігналам аб тым, што Латвія не прызнае рэжым, які пануе ў Беларусі.

Як выглядае сітуацыя ў Беларусі з боку Латвіі і чаго чакаць ад беларуска-латвійскіх адносін у будучыні, у каментары «Новаму Часу» разважае **Эліта Вейдэмане** — намесніца галоўнага рэдактара штодзённай газеты «Neatkarīgā Rīta Avīze», журналістка, пісьменніца. Напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х узначальвала газету Латвійскага Народнага Фронту «Atmoda».

— Мяне гэта (замена сцяга. — НЧ) уразіла, паколькі Рынкевічс — дыпламат. Гэта мужны крок, хаця не ўсе нават у Латвіі яго ўхваляюць, маўляў, гэта недыпламатычна. Хтосьці казаў, што гэта дзяржаўны сцяг, і беларусы самі павінны былі яго зняць. Але мы падтрымліваем беларусаў з іх гістарычным сцягам. І я нават не магу ўявіць, што нехта можа яго не падтрымліваць. Хоць я не люблю цяперашняга мэра Рыгі, як не любіла і мінулага, — але гэта ўжо іншае пытанне, — у гэтым выпадку ён зрабіў добрую справу.

У змаганні за перамены беларусаў падтрымліваюць многія латышы, але Эліта Вейдэмане зазначае, што дагэтуль яны атрымліваюць няшмат інфармацыі пра падзеі ў Беларусі. Шмат хто чуў пра нашыя паслявыбарчыя пратэсты, якія паказвалі ў навінах, але калі яны сціхлі, большая частка латышоў вырашыла, што ўсё скончылася, і Беларусь па-ранейшаму жыве сваім ціхім жыццём законсерваванай у савецкім часе рэспублікі. Але выпадак з самалётам дапамог расплюшчыць вочы на сітуацыю ў Беларусі не толькі латышскім грамадзянам і чыноўнікам, але і еўрапейскім.

Па словах суразмоўцы, дзейнасць беларускай апазіцыі ў асобе Святланы Ціханоўскай, Паўла Латушкі і іншых прадстаўнікоў, у Латвіі ацэньваюць па-рознаму. З аднаго боку, тыя, хто хоча бачыць больш вострых рухаў у адносінах да беларускіх уладаў, чакаюць ад Ціханоўскай і Латушкі нейкіх больш канкрэтных і радыкальных дзеянняў. Але, з іншага боку, людзі разумеюць, што гэтая барацьба толькі пачынаецца, і іх абодвух трэба падтрымліваць, таму іх захады збольшага вітаюць.

— Здарэнне з самалётам — гэта было нешта такое, што немагчыма ўявіць. Людзі вельмі перажывалі і думалі, што гэта такое? Бо гэта — паветранае пірацтва, так дзейнічаюць толькі бандыты, — гаворыць журналістка.

Аднак якой бы ні была рэакцыя на скандальны інцыдэнт міжнароднай супольнасці, па яе словах, дапамагчы беларусам найперш могуць толькі самі беларусы. Для гэтага, на думку Эліты Вейдэмане, нам трэба больш распавядаць пра сябе, шукаць магчымасці размаўляць з журналістамі, рабіць рэпартажы, распаўсюджваць іх у медыя. Іншага спосабу распавесці пра нашы праблемы свету няма.

— Я думаю, нешта зменіцца толькі тады, калі Лукашэнка сыдзе ў адстаўку, — мяркуе суразмоўца. Ён вельмі непакорны і будзе стаяць на сваім, таму я думаю, што няхутка гэтыя адносіны палепшацца. Калі не адбудзецца нейкая дыпламатычная сустрэча, якая ўсё вырашыць, гэта можа зацягнуцца надоўга. Але пакуль што гэта досыць складана, бо ніхто з бакоў не пойдзе назад.

Пакуль што латвійскія палітыкі не гавораць пра канкрэтныя крокі, якія маглі б паслужыць для нармалізацыі беларуска-латвійскіх адносін — надта свежы яшчэ канфлікт паміж міністэрствамі замежных спраў дзвюх краін.

— На мой погляд, людзі самі знойдуць дарогу адно да аднаго: гэта бізнесоўцы, якія захочуць супрацоўнічаць, гэта людзі мастацтва, літаратуры, навукі, якія вельмі добра ведаюць мову сяброўства і ўзаемаразумення. Мы ж суседзі! — мяркуе Эліта Вейдэмане.

Суразмоўца зазначае, што пераўтварэнне Беларусі ў краіну-ізгоя для заходняга свету выгадна для Расіі, але цяжка ўявіць, што ў нашы дні адна дзяржава, якая адчувае сябе моцнай, можа паглынуць іншую.

У сваю чаргу, Беата Ліўданска, даследчыца Цэнтра даследаванняў усходнееўрапейскай палітыкі, заявіла ў эфіры Латвійскага радыё, што замена сцягоў сведчыць пра салідарнасць з народам Беларусі. Каментуючы санкцыі Еўрасаюза, даследчыца адзначыла, што санкцыі супраць Лукашэнкі могуць не спрацаваць. У той жа час Лукашэнка дае зразумець, што не гатовы да дыялогу. А рэакцыя і падтрымка Расіяй Беларусі паказвае, што дзве краіны знаходзяцца ў цесным кантакце, і што Беларусь вярнулася ў сферу ўплыву Расіі, якой выгадны разрыў сувязяў Беларусі з Еўропай.

— Сітуацыя вельмі хісткая, і цяжка сказаць, што паўплывае на Лукашэнку. Калі разважаць лагічна, санкцыі могуць змяніць сітуацыю, але ён плюе на ўсё. Але мы спадзяемся, што вы будзеце змагацца з гэтым усім, — дадае суразмоўца НЧ Эліта Вейдэмане.

Журналістка зазначае, што цяпер неабходна абмяркоўваць тэму дапамогі беларусам з дэпутатамі ў латвійскім Сейме.

— Наш народ некалі прайшоў свой шлях да незалежнасці, і мы ведаем, чаго гэта каштавала. І — так: мы суседзі, блізкія суседзі, у нас нават падобныя святы: Купальская ноч і наша Jāņu nakts. Вы — беларусы, мы — балты. У нас чырвона-бела-чырвоны сцяг, у вас — бела-чырвона-белы. Памятайце, што Латвія вас падтрымлівае. Мы ведаем, чаго вартая свабода і які цяжкі шлях да яе. Але вы яго пройдзеце. Я ведаю. Вы пераможаце ўсё роўна.



Janis Laizans (Reuters)

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Вярнуць «ворагаў народа»!

Дыскусія аб замежных агентах у Расіі перайшла на новы ўзровень. Пецярбургскі прадпрымальнік Яўген Прыгожын прапанаваў не тлуміць людзям галаву незразумелым азначэннем. На яго думку, грамадзян і СМІ, якія атрымліваюць фінансаванне з-за мяжы, трэба называць «ворагамі народа». Пры гэтым аўтар ідэі заклікае ставіцца да гэтай катэгорыі таксама, як да іх ставіліся ў 1937-м.

Цяжка сказаць, жартуе бізнесмен або кажа ўсур'ёз. Некаторыя лічаць, што гэта сапраўды быў жарт. Аднак каментатарам у патрыятычных інтэрнэт-форумах ідэя прыйшлася даспадобы. Пры гэтым яны прапануюць не абмяжоўвацца калектыўнай высылкай новых ворагаў народа на Калыму. Агучваюцца ідэі выколваць прадстаўнікам гэтай групы на ілбе татуіроўку «Вораг расійскага народа».

Застаецца дадаць, што ідэя вярнуць статус — не новая. Яна з'явілася ў расійскіх грамадскіх дэбатах у 2014-м. Таксама цікава адзначыць, што, па іроніі лёсу, апошнім знішчаным у СССР «ворагам народа» стаў аўтар ідэі Лаўрэнцій Берыя. 23 снежня 1953 года яго расстралялі з фармулёўкай «вораг камуністычнай партыі і савецкага народа».

**Паводле расійскіх СМІ**

### ЗША. Клоун Рональд на ахове дэмакратыі

Шмат хто за акіянам баіцца, што праз чатыры гады кансерватар-папуліст Дональд Трамп возьме рэванш на выбарах прэзідэнта. Прынамсі, сам ён увесь час абяцае пайсці на выбары, якія, на думку шмат каго, сапраўды можа выйграць.

Але цяпер у лібералаў з'явіліся добрыя навіны на гэты конт. Як кажуць сябры з атачэння Трампа, той не зможа ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі праз сваю любоў да фаст-фуду. Захапленне познага кшталту гамбургерамі і чызбургерамі адмоўна ўплывае на здароўе палітыка. Прынамсі цяпер ён важыць больш за 110 кілаграмаў. Такая вага, як лічаць эксперты, не дазволіць вытрымаць тэмп выбарчай гонкі, і Трамп будзе вымушаны адмовіцца ад ідэі рэваншу.

Зрэшты, як заявіў на канале HBO адзін з прыхільнікаў Трампа, ёсць шанец, што кумір кансерватараў возьме сябе ў рукі і да старту выбарчай кампаніі ў 2023-м сядзе на жорсткую дыету.

**Паводле амерыканскі СМІ**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Межы трэба перагледзіць

Улонданскай прэсе ўпершыню з'явіліся заклікі да рэвізіі цяперашніх межаў паміж Шатландыяй і Англіяй. Безумоўна, асноўным чыннік іх з'яўлення — перамога нацыяналістаў на травеньскіх шатландскіх парламенцкіх выбарах. Па іх выніках пераможцы паабяцалі новы рэферэндум аб незалежнасці рэгіёну. Брытанскі ўрад пад кіраўніцтвам Барыса Джонсана выступае супраць плебісцыту, аднак пакуль не зразумела, якім чынам яго збіраюцца заблакаваць.

Магчыма, для таго, каб утрымаць Эдынбург ад арганізацыі рэферэндуму, і друкуюцца тэксты аматараў новых межаў. Іх аўтары лічаць, што ў выпадку абвяшчэння незалежнасці Шатландыя павінна адмовіцца ад сваіх паўднёвых графстваў. Тут, праз моцныя эканамічныя сувязі з Англіяй, з часу паўстання ідэі заснавання шатландскага парламента ў 1979-м стала галасуюць супраць нацыяналістаў. Гэта, на думку, англійскіх вялікадзяржаўнікаў, дае легальную падставу для выхаду тых графстваў са складу Шатландыі.

Зрэшты, Англія — не Расія. Пакуль англійская грамадскасць успрымае ідэю «шатландскай Навarosіі» як кур'ёз.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Іншапланетнікі выратуюць чалавецтва?

Амерыканскія вайскоўцы прызналі існаванне іншапланетнікаў. Дакладней, тое, што яны фіксавалі лятальныя аб'екты, прынцып руху якіх не могуць зразумець. Як вынікае з апублікаваных відэа, гэтыя аб'екты (яны мелі форму перавернутай піраміды ці «жолуда») насіліся па небе на неверагоднай хуткасці, а потым яшчэ і ныралі ў акіян.

Хоць інфармацыі няшмат, амерыканская прэса ўжо робіць глабальныя высновы. На думку прэсы, так ці інакш можна казаць, што мы не адны ў сусвеце. Гэты факт можа цалкам перавярнуць прынцыпы існавання чалавецтва і аб'яднаць усіх людзей, змушаючы ўрады адмовіцца ад нашых старых трывіяльных забабонаў, уключаючы ідэю гегемоніі адной нацыі. Некаторыя каментатары прапануюць неадкладна сабраць саміт лідараў дзяржаў, які складзе дарожную карту пошуку кантактаў з «зялёнымі чалавечкамі».

Аднак некаторыя лічаць, што апублікаваныя выявы НЛА з'яўляюцца візуальнай ілюзіяй і, як мінімум, прапануюць пачакаць да чэрвеня. У наступным месяцы спецслужбы ЗША выпусцяць справаздачу з падрабязным апісаннем выпадкаў назірання за «іншапланетнымі караблямі».

**Паводле амерыканскіх СМІ**




Фота www.aif.ru

# «Генацыд за трыбунамі»

Алег НОВІКАЎ

**Беспрэцэдэнтна шырокая кааліцыя праваабарончых арганізацый заклікала да поўнага байкоту зімовых алімпійскіх гульняў у лютым наступнага года ў Кітаі праз парушэнні правоў чалавека. Не выключаны нават паўтор сітуацыі 1980 года, калі адначасова адбыліся дзве летнія Алімпіяды.**

«Арганізацыі, якія заяўляюць пра парушэнні правоў меншасцяў у Кітаі, заклікаюць да поўнамаштабнага байкоту зімовых Алімпійскіх гульняў 2022 года ў Пекіне», — такую заяву зрабілі днямі лідары 180 (!) арганізацый, якія, згодна з іх статусам, прадстаўляюць інтарэсы ўйгураў, тыбетцаў, жыхароў Ганконга і кітайскіх грамадзян.

Пекінскія гульні, нагадаем, павінны адкрыцца 4 лютага 2022 года — усяго праз шэсць месяцаў пасля заканчэння адкладзеных летніх Алімпійскіх гульняў у Токіа. Ад самага пачатку выбар на карысць Пекіна ў 2015-м не выклікаў захаплення ў некаторых каментатараў. Касцынг кітайская сталіца выйграла збольшага таму, што ў шэраг гарадоў-фаварытаў, уключаючы Стакгольм і Осла, нечакана зняліся з конкурсу.

Да 2020-га ідэя алімпіяды ў Пекіне стала яшчэ менш прывабнай з-за паведамленняў пра пераслед уйгурскай меншасці ў правінцыі Сіньцзян. Калі верыць заходнім СМІ, каля мільёна мясцовых жыхароў прайшлі там «спецкурс» у выхаваўчых лагерах. Прычым многія з іх, мяркуючы па матэрыялах усё тых жа СМІ, сталі ахвярамі гвалту, прымусовай культурнай асіміляцыі і нават стэрылізацыі.

Цікава, што ўйгурскія праваабаронцы, здаецца, спрабавалі выкарыстоўваць тэму Алімпіяды для таго, каб знізіць градус палітычных рэпрэсій. Мяркуючы па словах лідара адной з тыбецкіх арганізацый, праз Міжнародны Алімпійскі камітэт Пекіну прапаноўвалі здзелку: адмова ад байкоту Алімпіяды ў абмен на лібералізацыю. На сустрэчах з МАК актывісты заявілі, што прасілі паказаць дакументы, у якіх Кітай дае «запэўніванні» наконт захавання правоў чалавека. Аднак у выніку МАК такія дакументы не прадставіў.

Таму крытыкі Пекіна перайшлі да больш рашучых дзеянняў. «Час перамоваў з МАК мінуў», — было заяўлена на прэс-канферэнцыі аргкамітэта байкоту Алімпіяды. Пры гэтым яго чальцы гатовыя дзейнічаць вельмі радыкальна, зыходзячы з наступнай устаноўкі: калі чарговыя Гульні пройдуць як звычайнае спартовае мерапрыемства, Пекін атрымае міжнародную індульгенцыю для ўзмацнення палітычных пераследаў. «Мы атрымаем Алімпіяду, дзе генацыд будзе праходзіць за трыбунамі стадыёнаў», — метафарычна кажа адзін з актывістаў.

Наколькі рэальна тэхнічна арганізаваць поўны байкот Алімпійскіх гульняў? Найперш, трэба пераканаць спартсменаў і спартыўныя федэрацыі, каб прыцягнуць іх да байкоту.

Адразу трэба сказаць, што задача гэта будзе нялёгкая. Заклік да байкоту прагучаў усяго праз некалькі дзён пасля таго, як Алімпійскі і Паралімпійскі камітэты ЗША заявілі, што байкоты неэфектыўныя і наносяць шкоду спартсменам.

Гэтую пазіцыю падтрымлівае і частка заходняй палітычнай эліты. Сенатар Міт Ромні, старшыня аргкамітэта Алімпійскіх гульняў у Солт-Лэйк-Сіці ў 2002 годзе, лічыць, што байкот — «лёгкі, але няправільны адказ». Ромні кажа: «Нашы спартсмены рыхтаваліся да гэтага спаборніцтва ўсё сваё жыццё, і яны не павінны браць на сябе цяжар нашага неўхвалення».

Зрэшты, ёсць у Ромні і апаненты. Гэта, напрыклад, адзін з прафесараў Ціхаакіянскага ўніверсітэта ў Арэгоне, які вывучае гісторыю Алімпійскіх гульняў. На старонках The Times ён сцвярджае, што спартыўныя байкоты могуць мець буйны палітычны эфект. Так было, напрыклад, у Паўднёвай Афрыцы эпохі апартэіду, дзе байкот мясцовых спартыўных мерапрыемстваў з боку замежных спартсменаў вымусіў рэжым ісці на рэформы.

Другі напрамак працы арганізатараў байкоту — гэта буйны спартыўны бізнес. Чальцы кааліцыі на дадзеным этапе павінны прымусіць адмовіцца ад падтрымкі Алімпіяды пятнаццаць іе найбуйнейшых фундатараў. І, калі ім верыць, ужо атрымалася прыцягнуць увагу аднаго такога фундатара. Гаворка ідзе пра кампанію Airbnb.

У гэтай сітуацыі ў аматараў байкоту надзеі звязваюць з палітычным фактарам. Паведамляецца, што ЗША вялі перамовы з саюзнікамі, уключаючы Вялікабрытанію, пра як мінімум дыпламатычны байкот Гульняў у Пекіне. Гэтую ініцыятыву ўжо агучыла спікер ніжняй палаты Кангрэса ЗША.

Некаторыя палітыкі заклікаюць ісці яшчэ далей — і спасылаюцца на сацыялогію. Арганізаванае ў сакавіку чыкагскай мэрыяй апытанне паказала, што 49 працэнтаў амерыканцаў падтрымліваюць байкот. Супраць выступаюць 46%. Ёсць паведамленні, што кампанію за байкот можа падтрымаць уплывовая антырасісцкая арганізацыя Black Lives Matter, што мае моцнае палітычнае лобі ў заакіянскіх органах улады.

Цікава, што некаторыя СМІ ўспомнілі, як у 1980 годзе, байкатуючы Алімпіяду ў Маскве, Злучаныя Штаты арганізавалі альтэрнатыўную Алімпіяду ў Філадэльфіі. «У заходніх дэмакратый ёсць шанец адмовіць Пекіну ў піяр-перамозе над грамадскасцю і замест гэтага пераватарыць жахлівыя парушэнні правоў чалавека ў Кітаі ў нацыянальную ганьбу на сусветнай арэне. Час пачаць планаваць варыянт альтэрнатыўных алімпійскіх гульняў», — піша газета The Diplomat.

Што тычыцца Кітая, то там, мяркуючы па ўсім, пакуль не вераць у перспектыву маштабнага байкоту. Рэагуючы на «чорную метку» ад праваабаронцаў, міністэрства замежных спраў КНР раскрытыкавала «палітызацыю спорту». Кітай таксама дзяжурна адхіліў абвінавачанні ў генацыдзе ўйгурскага народа. Паглядзім, ці будзе мяняцца рэакцыя Пекіна па ходу дзейнасці арганізатараў байкоту.

# Не падзялілі правапіс

Алег НОВІКАЎ

**Пакуль мы традыцыйна пішам тэксты кірыліцай, на Балканах ідзе нежартоўная вайна за манапольнае права на кірылічны правапіс і нацыянальную прыналежнасць яго вынаходнікаў.**



Фота www.pravlife.org

У савецкія часы ўвесь сацыялістычны лагер смяяўся з анекдотаў з Габрава. Між тым, сама Балгарыя была дастаткова шэрай краінай. Аднак былі і выключэнні. Напрыклад, 24 траўня, калі ў краіне на дзяржаўным узроўні святкаваўся Дзень славянскага пісьменства. Гэта дата звязаная з імёнамі Кірылы і Мяфодзія — хрысціянскіх місіянераў, якія ў IX стагоддзі стварылі азбуку для славян.

Так здарылася, што 24 траўня ў календары чырвоных дат сацыялістычнай Балгарыі быў ледзьве не адзіным непалітызаваным выходным днём, які дазвалялі святкаваць без чырвоных сцягоў і партрэтаў Леніна і Дзімітрава (Геогій Дзімітраў — гістарычны лідар балгарскіх камуністаў). Таму балгарскі народ вельмі любіў гэта свята, і дасюль захаваў тыя сантыменты на гэты конт.

Магчыма таму, калі ў мінулым годзе ўрад нечакана вырашыў падкарэктаваць фармат і назву свята, грамадства трошкі напружылася. Новы варыянт назвы гучыць так: Дзень балгарскага алфавіту, адукацыі, культуры і славянскай літаратуры. Адзначаць яго вырашылі з рознага кшталту рытуаламі з удзелам урадавых чыноўнікаў.

Адпаведна, была падкарэктаваная і ідэалагічная матрыца свята. Ад пастулату пра тое, што Кірыла і Мяфодзій прыдумалі славянскі правапіс, вырашылі адмовіцца. Цяпер у Сафіі карэктна казаць, што яны стварылі алфавіт на базе старабалгарскай мовы, а дакладней — на аснове саланікійскага дыялекту. Адначасова «кірыліцу» вырашылі называць «балгарскай азбукай». Лічыцца, што рускія, сербы і іншыя славянскія народы пазней яе проста запазычылі.

Крытыка на адрас рэфарматараў 24 траўня пачала гучаць ледзь не адразу. Некаторым не спадабалася ідэя «балгарызацыі» кірыліцы, якая па-сутнасці ёсць адаптаваным алфавітам грэкаў. «Гэта тое ж самае, як заявіць, што выключна ў Балгарыі ёсць ёгурт», — іранізавала адно з мясцовых выданняў.

Новыя нацыяналістычныя павевы выклікалі незадаволенасць у лагеры праваабаронцаў. Яны звярталі ўвагу на тое, што Балгарыя даўно ўжо не гамагенна этнічная краіна. Прыкладна 10% балгарскіх грамадзян — этнічныя туркі і ромы, якім ідэйны фармат новага свята выяўляецца чужым і незразумелым.

Што тычыцца гісторыкаў і філолагаў, новая трактоўка нацыянальнай прыналежнасці вынаходнікаў кірыліцы іх трошкі здзівіла. Дакладна вядома, што Кірыла і Мяфодзій нарадзіліся на тэрыторыі Візантыйскай імперыі, у грэчаскім горадзе Фесалонікі (Салунь), і, хутчэй за ўсё, былі грэкамі. Праўда, ёсць версія, што яны належалі да асіміляваных у рамейскім асяроддзі паўднёваславянскіх родаў. Пры гэтым дзейнасць асветнікаў галоўным чынам была сканцэнтравана на тэрыторыі Візантыі, а таксама ў Вялікай Маравіі (тэрыторыя цяперашняй Чэхіі). Балгарыя стала праваслаўным цэнтрам трошкі пазней.

А вось у Паўночнай Македоніі рэформу 24 траўня крытыкавалі з іншых пазіцый. Тут у мэйнстрыме думка пра тое, што балгары не маюць ніякага права прэтэндаваць на спадчыну аўтараў славянскай азбукі, паколькі маюць цюркскае паходжанне. Сапраўды, цюркамоўныя булгары прыйшлі на Балканы ў VII стагоддзі з прычарнаморскіх стэпаў.

Хаця ў этнагенезе сучасных балгараў бралі ўдзел і славяне, у Скоп'е гэты момант упарта ігнаруюць. «Балгары — мангола-татарскія плямёны цюркскай групы народаў. У той жа час жыхары цяперашняй Рэспублікі Паўночная Македонія былі нашчадкамі старажытных македонцаў», — гаворыцца ў мясцовых падручніках гісторыі. Адпаведна, Кірылу і Мяфодзія адносяць да асобаў паўночна-македонскай нацыянальнасці.

Менавіта абвастрэннем спрэчак паўночнамакедонскіх і балгарскіх гісторыкаў можна растлумачыць незвычайныя эмоцыі вакол свята 24 траўня. Шмат людзей у балгарскім палітыкуме лічаць Паўночную Македонію вынікам эксперыменту югаслаўскіх камуністаў над мясцовымі балгарамі. З іншага боку, у Скоп'е разглядаюць частку балгарскай гісторыі ў якасці фрагмента македонскай. Акрамя таго, відавочна, што баталіі за гісторыю дазваляюць абодвум урадам адцягнуць увагу ад эканамічных праблем.

Пры гэтым у Сафіі лічаць, што на супярэчнасцях у гістарыяграфіі актыўна грае Крэмль. 24 траўня расійскае пасольства павіншавала македонцаў са святам, працытаваўшы словы прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, які неяк заявіў, што пісьменнасць у Расію прыйшла з тэрыторыі Македоніі. А вось віншаванні ў адрас балгараў ад расійскіх дыпламатаў гучаць больш нейтральна.

Некаторыя балгарскія палітыкі пабачылі ў гэтым спробу сарваць планы еўрапейскай інтэграцыі балканскіх краінаў. Як вядома, для ўступлення ў Еўрасаюз той жа Паўночнай Македоніі трэба фармальная згода з боку ўсіх дзяржаў — чальцоў аб'яднання, уключаючы Балгарыю. Між тым, нацыяналістычны энтузіязм у Скоп'е, які, мяркуюць, праводзіць Масква, абурае шматлікіх балгар і фарміруе запыт на тое, каб накласці вета на еўрапейскія аспірацыі македонцаў.

Каментуючы віншаванне з нагоды 24 траўня, балгарскае выданне «Факты» піша: «Тое, што адбылося 24 траўня 2021 года, — гэта не проста чарговая расійская правакацыя. Гэта сістэматычная гібрыдная аперацыя. Сёння Крэмль у чарговы раз на справе і словамі даказвае, што менавіта ён распальвае агонь у катле непаразумення паміж нашымі народамі».

Такім чынам, вайна за Кірылу і Мяфодзія працягваецца. І яе галоўнай ахвярай можа быць адно з улюбёных святаў балгар. «Чым больш яно (24 траўня) будзе набываць адзнакі палітычнай інстытуалізацыі, тым больш будзе губляцца ўласцівы яму характар народнага і чагосьці ненапружанага», — мяркуе балгарская газета «Дневнік».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Крыстаф Плос

У Германіі фактычна пачалася парламенцкая кампанія, і кожная мясцовая партыя думае, як прыцягнуць сімпатыі электарату. Старшыня Гамбургскага аддзялення правацэнтрысцкага Хрысціянска-дэмакратычнага саюза (ХДС) Крыстаф Плос таксама зрабіў свой унёсак у праект канцэпцыі партыйнай рэкламы. Ён лічыць, што партыйная праграма Саюза павінна ўключаць пункт, які абяцае забараніць так званую гендарна-нейтральную версію нямецкай мовы.

Гендарна-нейтральная мова — гэта мова, якая пазбягае гендарнай прадузятасці, пазбягаючы альбо замяняючы словы, якія могуць успрымацца як праява дыскрымінацыі, нармалізацыі пэўных гендарных паводзін. Плос, аргументуючы тэзіс наконт забароны гендарнай мовы, кажа, што ён з'яўляецца прыхільнікам мовы, якая аб'яднала 6 людзей. Таму ён выступае супраць выкарыстання граматычна няправільнай, штучнай і ідэалагічна матываванай гендарнай мовы ў дзяржаўных установах, у тым ліку міністэрствах і ўніверсітэтах.

Ці сапраўды палітык так лічыць, ніхто не можа сказаць. Але сацыёлагі пацвярджаюць, што такая пазіцыя можа прынесці кансерватарам галасы на выбарах. Паводле апытання, праведзенага выданнем Welt am Sonntag у сярэдзіне траўня, 65 адсоткаў насельніцтва Германіі адхіляе ідэю мовы, якая будуецца з улікам гендарнай роўнасці.



### Варлам Галецыяні

Лідар грузінскага руху «Абаронцы цясніны Рыёні» з аднадумцамі нечакана для ўсіх зрабіў актуальнай у Грузіі экалагічную павестку. Многіх грузін пачала турбаваць тэма будаўніцтва ГЭС у рэгіёне Імерэці, дзе цячэ рака Рыёні. Гэта засведчыла колькасць удзельнікаў нядзельнага мітынгу пратэсту ў сталіцы, на які сабралася каля 5 тысяч чалавек.

Мітынг скончыўся нечаканай заявай Варлама Галецыяні аб пачатку кампаніі «мірнага непадпарадкавання» ўладам у форме пікетаў каля дзяржустаноў. Блакады не атрымалася, хоць дзе-нідзе стыхійна ўспыхвалі маршы пратэсту, а ў цэнтры горада з'явілася невялікае намётавае мястэчка. Так ці інакш, рэзананс ад мітынгу быў вельмі моцны. Прэм'ер-міністр Іраклій Гарыбашвілі папярэдзіў пратэстоўцаў, што не дазволіць «гаварыць з дзяржавай мовай ультыматумаў», і выказаў падазрэнне, што эколагаў фінансуюць з-за мяжы — у прыватнасці, з Расіі. Менавіта Расіі, па словах чыноўнікаў, не выгадная ГЭС на Рыёні, што скароціць закупкі Грузіяй расійскай электраэнергіі.

Між тым, гучыць здагадка, што сваім поспехам акцыя эколагаў абавязаная не вонкаваму фінансаванню і ростам экалагічнай свядомасці, а антытурэцкаму падтэксту. Справа ў тым, што рэалізацыяй праекта ГЭС займаецца турэцкая фірма. Турэцкі бізнес даўно і ў вялікай колькасці заходзіць у Грузію, што выклікае нараканні многіх мясцовых жыхароў. Мае антытурэцкі пратэст і рэлігійны адценне. Гэта прыкмеціла пасол Турцыі, якая пакрыўдзілася, што ўдзельнікі руху супраць ГЭС усталявалі на месцы яго будаўніцтва вялікі крыж. «Гэта відавочная дыскрымінацыя па рэлігійнай прыкмеце», — абурылася дыпламатка.



### Мухамед VI

Калі верыць заходняй прэсе, кароль Марока зрабіў нелегальную міграцыю сваёй знешнепалітычнай зброяй. З дапамогай мігрантаў Рабат (сталіца Марока) вырашыў адпомсціць Мадрыду за дапамогу, якую той нядаўна аказаў фронту «Палісарыё» (арганізацыя, мэтай дзейнасці якой з'яўляецца незалежнасць Заходняй Сахары ад Марока).

Каб адпомсціць іспанцам, Мухамед даў загад сваім памежнікам заплюшчваць вочы на натоўпы мігрантаў, якія прарываюцца ў Сеута (горад на афрыканскім узбярэжжы, які знаходзіцца пад іспанскай адміністрацыяй). Наплыў мігрантаў у Сеута зноў прыцягнуў увагу да гэтай праблемы. Зыходзячы са статыстыкі (за першыя тры тыдні траўня італьянскіх берагоў дасягнулі 4290 мігрантаў), можна смела выказаць здагадку, што міграцыйны крызіс вернецца ў еўрапейскую павестку ў агляднай будучыні.

У 2020-м многія жыхары Азіі і Афрыкі адмовіліся ад намераў ехаць у ахопленую пандэміяй Еўропу. Адпаведна, рэзка ўпаў паток нелегалаў, што дазволіла часова пагасіць напал вакол гэтай тэмы. Тэндэнцыі ж першых месяцаў года дэманструюць, што пагроза кавіду ўжо не стрымлівае ўцекачоў, якія імкнуцца ў Еўропу. Ці будзе цяперашняе лета складаным выпрабаваннем для міграцыйнай палітыкі Еўрасаюза і ці возьмуць на ўзбраенне метады караля Мухамеда іншыя палітыкі? Хутка даведаемся.

# Як знішчалася беларуская інтэлігенцыя

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**Кожны савецкі грамадзянін, асабліва калі ён меў справу з кнігай, лічыў сябе кандыдатам на арышт. Кожны інтэлігент старанна сачыў, каб своечасова знішчыць кнігі, газеты, фотаздымкі, карціны тых, хто быў арыштаваны.**



**Курапаты, архіўнае фота.**
Аўтар Дзіяна Серадзюк

У траўні 1931 года АДПУ сфальсіфікавала справу Працоўнай сялянскай партыі, па якой асуджаныя на розныя тэрміны зняволення і высылкі 59 чалавек, па беларускаму філіялу Прампартыі пастановай калегіі АДПУ Беларусі ад 12 верасня 1931 года рэпрэсаваныя 30 чалавек.

Спусташальныя войны і бальшавіцкі тэрор падарвалі нацыянальныя сілы Беларусі. Значная частка актыўных палітычных дзеячаў, што бралі ўдзел ва Усебеларускім Кангрэсе і ў стварэнні незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, вымушана была эміграваць. У Беларусі засталіся адзінкі, да якіх далучыліся тыя, хто вярнуўся з фронту і з царскай высылкі.

У гэтай сітуацыі лідары беларускага адраджэнскага руху абралі шлях доўгай, карпатлівай працы падняцця нацыянальнай свядомасці народных мас, якая і знайшла сваё ўвасабленне ў 1920-я гады ў палітыцы беларусізацыі.

Нацыянальнае адраджэнне стала неаспрэчным фактам. Былі выхаваны нацыянальныя кадры, якія займалі пасады ў дзяржаўных і партыйных структурах. Беларусізацыя знаходзіла бясспрэчную падтрымку з боку большасці насельніцтва. Узнікалі думкі пра заваёву новых пазіцыяў. Але Сталін ужо разгортваў шырокі наступ на «ворагаў народа».

## Справа СВБ

Ужо ў 1929 годзе значную частку беларускай інтэлігенцыі абвінавацілі ў прыхільнасці да нацыянал-дэмакратызму і звольнілі са сваіх пасадаў. Газеты, часопісы разгарнулі сапраўднае цкаванне тых, каго АДПУ ў 1930 годзе арыштавала па так званай справе «Саюза вызвалення Беларусі».

Нягледзячы на маральны ціск (а да некаторых ужываліся і фізічныя меры ўздзеяння), на папярэднім следстве поўнасцю вінаватымі прызналі сябе толькі 25 чалавек, больш за 40 адпрэчылі сваю віну і каля 25 прызналіся часткова. У працэсе следства 18 чалавек былі прызнаны невінаватымі і вызвалены з турмы.

Па сфальсіфікаванай справе СВБ 90 прадстаўнікоў інтэлігенцыі (з іх 89 беларусаў і 1 рускі) атрымалі розныя тэрміны зняволення. На расстрэльныя прысуды сістэма яшчэ не рашылася. Як сведчаць архіўныя дакументы, улада яшчэ баялася актыўных пратэстаў. І трэба аддаць належнае: мінская інтэлігенцыя, што таксама зафіксавана ў дакументах, выказвала пратэст.

## Нацыянальная эліта

Са справай СВБ звязана трагічная смерць лідара беларускіх нацыянальных дзеячаў, акадэміка, прафесара Усевалада Ігнатоўскага, якога чэкісты спрабавалі зрабіць кіраўніком СВБ. Пасля аднаго з выклікаў на допыт у ДПУ Ігнатоўскі застрэліўся на сваёй кватэры. На гэтую ж ролю кіраўніка СВБ меркавалі і Янку Купалу. Свой пратэст супраць кампаніі расправы з нацыянальнымі кадрамі паэт выявіў спробай самагубства.

Яшчэ адным знакавым ударам, які АДПУ нанёс па нацыянальных кадрах, быў арышт наркамзема БССР Дзмітрыя Прышчэпава. Ён быў абвешчаны абаронцам кулакоў, арганізатарам варожай сацыялістычнаму землекарыстанню палітыкі насаджэння хутароў. У афіцыйных дакументах і прапагандзе дзейнасць Прышчэпава зняважліва называлася «прышчэпаўшчынай». Аднак сярод беларускага сялянства яго дзейнасць пакінула глыбокі след і добрую памяць.

У першай палове 1930 года ў Мінску былі арыштаваныя вядомыя культурныя беларускія дзеячы Акадэміі навук, універсітэта, Наркамасветы і часткова Наркамзема. Сярод іх — папулярны мовазнаўца, акадэмік Язэп Лёсік, вядомы беларускі географ, акадэмік Аркадзь Смоліч, сакратар Беларускай Акадэміі навук, акадэмік Вацлаў Ластоўскі, рэктар універсітэта прафесар Уладзімір Пічэта, намеснік наркамзема Прышчэпава Алесь Адамовіч, прафесар гісторыі Мітрафан Доўнар-Запольскі, прафесар Максім Гарэцкі…

Характэрнай рысай арыштаў 1930 і 1931 гадоў было тое, што нязначнай частцы арыштаваных у якасці пакарання была прызначана вольная высылка. На той час яшчэ не збудавалі дастатковай колькасці канцэнтрацыйных лагераў, таму і высылалі на вольнае пасяленне. Аднак гэта не была высылка з мяккім рэжымам.

Для зручнасці назірання за высланымі ДПУ звычайна канцэнтравала іх у маланаселеных паселішчах паўночных губерняў, дзе яны не маглі знайсці працу, каб зарабіць на харчаванне. Таму значная частка высланых была асуджана на галоднае выміранне.

## Масавы тэрор

Справа СВБ з'яўлялася першай масавай хваляй тэрору супраць беларускай інтэлігенцыі. У траўні 1931 года АДПУ сфальсіфікавала справу Працоўнай сялянскай партыі, па якой асуджана на розныя тэрміны зняволення і высылкі 59 чалавек, па беларускаму філіялу Прампартыі пастановай калегіі АДПУ Беларусі ад 12 верасня 1931 года рэпрэсавана 30 чалавек.

У 1931–1932 гадах пракацілася хваля арыштаў сярод працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Былі сфальсіфікаваны справы «Беларускага філіяла Працоўнай сялянскай партыі», «Белтрактарацэнтра», «Ветэрынарных урачоў». Толькі па іх было арыштавана і асуджана звыш 800 чалавек.

Але самыя масавыя арышты былі праведзены па так званай «справе Белтрактарацэнтра» — 546 чалавек. Па сутнасці былі амаль цалкам знішчаны кваліфікаваныя кадры, якія працавалі ў цэнтральных кіруючых органах сельскай гаспадаркі і на месцах, бо адначасова ішло выкрыццё «ворагаў народа» па раёнах.

У верасні 1932 года АДПУ БССР ліквідавала ў Мазырскім раёне так званую контррэвалюцыйную арганізацыю «Сялянскіх саюзаў», у кіруючы цэнтр якой чэкісты запісалі спецыялістаў з ліку дарэвалюцыйнай інтэлігенцыі. Па гэтай справе толькі ў адным раёне праходзілі звыш 70 чалавек.

У жніўні 1933 года Паўнамоцнае Прадстаўніцтва АДПУ па БССР адрапартавала аб «выкрыцці» «шырока разгалінаванай контррэвалюцыйнай паўстанцкай і шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі "Беларускі нацыянальны цэнтр" і яе філіялаў у Горках і Беразіне». Гэтая 55-томная справа сфальсіфікавана з вялікім размахам і шырокай геаграфіяй ахопу, якая распаўсюджвалася на «значную частку тэрыторыі Беларускай ССР з філіяламі ў гарадах Маскве і Ленінградзе».

***З абвінаваўчага заключэння:***

*«…Основными кадрами организации являлись перебежчики из Польши. Социальной же базой контрреволюционной организации БНЦ являлось кулачество, антисоветски настроенная интеллигенция, бывшие офицеры, служащие в государственных учреждениях, выходцы из социально-чуждых прослоек».*

Па справе БНЦ у якасці абвінавачаных прыцягнуты да адказнасці 97 чалавек. 26 з іх па рашэнні судовай Калегіі АДПУ ад 9 студзеня 1934 года былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, 16 — да вышэйшай меры пакарання з заменай на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў (усе паўтора асуджаныя і расстраляныя ў 1937 годзе), 17 — да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў (ППЛ), 5 — да 8 гадоў ППЛ, а астатнія — да розных мер пакарання.

## «Абняславіць і скампраметаваць»

Звычайна ДПУ ў сваёй друкарні выдавала тэндэнцыйна падабраныя вытрымкі з «паказанняў» арыштаваных, здабытыя гвалтоўным шляхам. У выглядзе спецыяльнай брашуры, пад грыфам «сакрэтна», гэты матэрыял перадаваўся для азнаямлення адказным камуністам.

Партыйныя газеты, часопісы і спецыяльныя выкрывальныя «працы» спасылаліся на вытрымкі з паказанняў, не называючы крыніцы. Сакратарам і членам бюро ЦК дазвалялася карыстацца гэтымі вытрымкамі ў сваіх выступленнях дзе-небудзь на сходах партыйнага актыву.

Задачай прапаганды было паказаць нацыянальны рух у Беларусі як контррэвалюцыйную, шкодніцкую, шпіёнскую працу беларускіх нацыяналістаў, скіраваную на адлучэнне БССР ад Савецкага Саюза, на стварэнне буржуазнай нацыянальна-дэмакратычнай рэспублікі. Абняславіць арыштаваных, скампраметаваць нацыянальных лідараў, выставіць іх у самым агідным выглядзе, прычым не толькі ў грамадскай працы, але і ў прыватным жыцці. Нацыянальны рух зняважальна ахрысцілі «нацдэмаўшчынай», а яго ўдзельнікаў — «нацдэмамі».

Па заданні сакратара ЦК камуністычнай партыі Гея ў Акадэміі навук былі створаныя «брыгады», якія старанна вышуквалі ў друкаваных працах, у стэнаграмах дакладаў і выступленняў элементы нацдэмаўшчыны. Рэвізавалася паэзія, проза, публіцыстыка западозраных у «нацдэмаўшчыне» пісьменнікаў.

Большасць падручнікаў былі зняты з ужытку, асабліва хрэстаматыі для чытання, граматыкі, зборнікі дыктовак. Адны — з прычыны арышту іх аўтараў, незалежна ад зместу, іншыя — з-за неадпаведнасці «лініі партыі».

У хрэстаматыях для чытання не дазвалялася ўзгадваць аднаасобныя гаспадаркі, у задачніках — выкарыстоўваць прыклады з іх жыцця. Настаўнікі павінны былі самі выдумляць арыфметычныя практыкаванні з жыцця калгасаў, гандлю кааператыўных крамаў.

З бібліятэк і чытальняў выманіся ўсе працы арыштаваных — па гісторыі, этнаграфіі, геаграфіі, літаратуры, мастацтве, краязнаўстве, творы паэтаў і празаікаў, навуковыя даследаванні спецыялістаў — «шкодны нацдэмаўскі хлам».

Кожны савецкі грамадзянін, асабліва калі ён меў справу з кнігай, лічыў сябе кандыдатам на арышт. Кожны інтэлігент старанна сачыў, каб своечасова знішчыць кнігі, газеты, фотаздымкі, карціны тых, хто быў арыштаваны.

Усе арышты абавязкова суправаджаліся вобшукамі, падчас якіх забіраліся фотаздымкі нават даўно памерлых, прыватнае ліставанне, дакументы і кнігі раней арыштаваных аўтараў. Потым у ДПУ ўсё гэта сартавалася, фарміравалася ў матэрыял для абвінавачання.

У кнігарнях перасталі выстаўляць кнігі нават тых беларускіх пісьменнікаў, што яшчэ заставаліся на свабодзе, з-за асцярогі не паспець ад іх пазбавіцца, калі аўтараў арыштуюць. Зніклі плакаты з беларускім арнаментам, што віселі ў клубах, чытальнях, фае тэатраў і кіно. Кіраўнікі розных рангаў паспешліва перафарбавалі свае службовыя кабінеты, якія ў свой час таксама без патрэбы былі распісаныя беларускім арнаментам і эмблемамі.

У Мінску ў Акадэміі навук былі створаны спецыяльныя брыгады па выяўленні нацыянальна-дэмакратычных ухілаў у друкаваных працах перыяду НЭПа. Выяўленыя «ўхілы» старанна вывучаліся, сістэматызаваліся, аздабляліся «правільнымі» навуковымі высновамі, а затым друкаваліся ў якасці прац абноўленай сацыялістычнай Акадэміі навук.

# Што агульнага паміж Пратасевічам і футболам

Сяргей КАЙКО

**Напрыканцы вясны ў беларускім футбольным календары прыгожа сышліся лічбы і факты. У вышэйшай лізе згуляна роўненька дзесяць тураў — акурат трэцяя частка чэмпіянату. А Кубак краіны ўвогуле фінішаваў фінальным матчам у Гомелі. Усё гэта неяк цешыла б заўзятараў, бо сімвалічная ж рыса — можна рабіць прамежкавыя высновы, упарадкоўваць уражанні і прадказваць далейшае развіццё падзей.**



Але ж куды там: грамадска-палітычная сітуацыя ў нашым цэнтры Еўропы па-ранейшаму не дае разняволіцца ды знайсці хоць часовы супакой у пераглядзе вячэрняй спартыўнай трансляцыі.

Мінулая нядзеля, напрыклад, падавалася марай беларускага эскапіста — спачатку хакейны матч ЧС са шведамі, потым футбольны кубкавы фінал. Кава-гарбата (ці нешта больш пеннае), тэлевізійны пульт — і гайда ў паралельны сусвет хаця б на некалькі гадзін. Экалагічны рэлакс дзеля збережэння нерваў пасярод навакольнага вар'яцтва. Уцёкі ад д'ябальскай рэчаіснасці па паважлівай прычыне.

Але не. Калі хто і меў такія свядомыя разлікі, то яны не спрацавалі.

## Разам з «Крумкачамі»

У нядзелю да жахаў мінулага тыдня — разгрому найбуйнейшага медыя-парталу TUT.BY і заўчаснай смерці палітвязня Вітольда Ашурка — дадаўся міжнародны скандал з затрыманнем Рамана Пратасевіча.

Падрабязнасці вы, канешне, ужо ведаеце — ці з сеціва, якое жыве гэтай падзеяй каторы дзень, ці з папяровых старонак свежага нумару НЧ, які трымаеце ў руках. Зрэшты, нам і тут ёсць што дадаць, бо палітвязень Пратасевіч — гэта не толькі пра палітыку, блогерства і тэлеграм. Гэта і пра спорт таксама, дзе зусім тады малады Раман жвава мільгануў у нядаўнім мінулым.

Узгадаць — самы час.

Калі б у перадачы «Што? Дзе? Калі?» прагучала пытанне, з якім футбольным клубам быў звязаны арыштаваны журналіст, то нават маладасведчаныя знаўцы пэўна далі б датэрміновы адказ. Вядома, з «Крумкачамі» — тымі самымі «несістэмнымі» энтузіястамі, не звязанымі ідэалагічнымі цуглямі і не напужанымі фурманскай пугай.

Недзе на пачатку развіцця клуб кінуў вокліч у інтэрнэце: шукаем валанцёраў. Адметная назва, патрыятычная філасофія і дэклараваная творчая свабода забяспечылі файны фідбэк, і сярод іншых у каманду добраахвотнікаў-памагатых уліўся і юны Раман Пратасевіч.

Сіл хапала, працы таксама — так сённяшні вязень атрымаў, здаецца, першы вопыт арганічнага існавання ў публічнай і медыяпрасторы. Ён быў і аператарам, які здымаў матчы «Крумкачоў». Быў і каментатарам, што забяспечваў гульням ненавязлівы канферанс у прамым інтэрнэт-эфіры. Быў клубным фотакарэспандэнтам, чые здымкі са стадыёнаў расходзіліся па тэматычных пабліках у сацсетках і траплялі ў медыя.

**Палітвязень Пратасевіч — гэта не толькі пра палітыку, блогерства і тэлеграм. Гэта і пра спорт таксама, дзе зусім тады малады Раман жвава мільгануў у нядаўнім мінулым**

Відавочцы распавядаюць, што ў акрэсленых межах яму было няўтульна, і аднойчы хлопец прыйшоў на клубную нараду з цэлым планам маркетынгавага развіцця праекту. Як заахвоціць людзей да «крумкачовых» гульняў? Якія івенты ладзіць на стадыёнах у «матчдэй»? Як спрытна разганяць сацсеткі і павялічваць колькасць падпісчыкаў? Як знаходзіць спонсараў і з імі супрацоўнічаць? Пытанняў было шмат — як і адказаў-прапаноў, за якімі бачылася ружовая будучыня.

Перабольшваць, зрэшты, не будзем — футбольным менеджарам Раман так і не стаў. Але не гэта галоўнае, а тое, што ён быў і застаўся перш за ўсё заўзятарам любімага клубу. І ў тыя «хайповыя» часы, калі «Крумкачы» толькі паўставалі на футбольных ландшафтах, і ён ездзіў «тапіць» за іх у тым ліку на выязныя гульні. І пасля, калі перакваліфікаваўся і сышоў у палітычную благасферу, дзе хутка займеў аўдыторыю і ўплыў.

У гэтым месяцы напрошваюцца нейкія глыбокія высновы, дык мы сфармулюем коратка. Футбол наш выбудаваны архаічна і стаіць на імшыстых мурах. Бізнесовая повязь між камандай і яе аўдыторыяй — чыста сімвалічная, бо грошы клубам дастаюцца часцей за ўсё з дзяржаўнага бюджэту, нібыта той казачны лёгкі хлеб. Таму функцыянеры-прызначэнцы не надта шчыруюць дзеля папулярызацыі і шчыльнага насычэння трыбун. Адпаведна, гэты фронт застаецца тым самааддaным энтузіястам, якія за невялікія грошы імкнуцца рабіць вялікія справы. Якія любяць сваю працу часта не дзякуючы, а насуперак. І сярод якіх Раман Пратасевіч пачуваўся годна, пакуль жыццё не пагнала яго наперад — і аднойчы не завяло на той самы борт Ryanair, што ўзяў курс з Афін у Вільнюс.

## Гульні ў манаполію

У тым ліку праз падобныя стратэгічныя перакосы гледачоў у беларускім футболе сёння няшмат. На ўсю краіну — лічаныя стадыёны, дзе на матчах рэгулярна збіраецца хаця б двух-трохтысячная аўдыторыя. Буйны Гомель, дзе гульню любілі са спрадвечных часоў. Брэст, дзе яшчэ мае моц інерцыя ўчорашняга чэмпіёнства. Ну ды, мусіць, Барысаў, з якога яшчэ не да канца змылася былая еўрапейская веліч.

Менавіта ў Гомелі ў нядзелю і адбыўся фінал Кубка краіны, які нельга абысці ўвагай. Тым больш так сенсацыйна сталася, што да рашаючага матча дабралася сціплая «Іслач» з Мінскага раёну. Многія жадалі ёй поспеху — і наступнага дэбюту ў еўракубках. І хлопцы рупіліся, клаліся касцьмі дзеля першага значнага дасягнення ў нядоўгай клубнай гісторыі. Аднак для перамогі гэтага не хапіла. Клас, вопыт, уменне ў патрэбны момант зрабіць вырашальнае намаганне — усё гэтае было на баку БАТЭ, які ў выніку і забраў трафей, здабыўшы вікторыю з лікам 2:1.

Што да чэмпіянату, то там працягваецца суцэльны дыктат «Шахцёра». Салігорцы паслядоўна, услед за БАТЭ, адолелі і іншага фаварыта — мінскае «Дынама». Цяпер у іх дзесяць перамог запар — і ўсе шанцы скончыць першы круг са стопрацэнтным вынікам, чаго ў гісторыі вышэйшай лігі, здаецца, ніколі не здаралася.

Як мы ўжо адзначалі, для «Шахцёра» гэта добра, для чэмпіянату — абы-што. Бо менавіта канкурэнцыя — рухавік прагрэсу, а любая манаполія развіццю аніяк не спрыяе. Гэта заўважна ў Беларусі паўсюль — у палітыцы, эканоміцы, сацыяльнай сферы.

Дарэчы, пра палітыку — з яе пачалі, ёй і скончым. Інцыдэнт з самалётам, на якім ляцеў з Грэцыі Раман Пратасевіч з сяброўкай, спарадзіў у Еўропе грандыёзны скандал. Адным з яго наступстваў стала беспрэцэдэнтная — насуперак звыклай «занепакоенасці» — рашучасць Еўрасаюза ў кірунку санкцый супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Спіс іх шырокі — і ёсць там, у прыватнасці, пра забарону беларускіх авіярэйсаў у краіны ЕС.

Як гэта датычыцца таго ж беларускага футбола? Ды вядома, як. Футбол не ведае межаў, і калі яны паўстаюць, гэта вельмі балюча.

Ужо прыкладна праз месяц распачнуцца еўракубкі, дзе беларускія футбалісты згуляюць у двух турнірах: «Шахцёр» — у Лізе чэмпіёнаў, БАТЭ, жодзінскае «Тарпеда» і брэсцкае «Дынама» — у Лізе канферэнцый. Лёсавання яшчэ не было, але і так зразумела: існуе вялікая імавернасць, што сустракацца айчынным камандам прыйдзецца якраз з супернікамі з краін Еўрасаюза. Лагістыка пры гэтым абяцае зрабіцца для беларусаў дадатковай (і нятаннай) цяжкасцю — на звыклыя чартары ад «Белавія», здаецца, надзей цяпер зусім мала. Не іначай, давядзецца даваць кругаля, марнаваць час і грошы, успамінаючы па дарозе тыя санкцыі і іх прычыны.

Ну а пакуль да еўракубкаў не дайшло, першае рэха «аперацыі 23 траўня» раптоўна прыляцела халодным ветрам з Балтыкі. Літоўская зборная — нацыянальная і маладзёжная — катэгарычна адмовілася прыязджаць у Беларусь на запланаваныя таварыскія гульні. Адзін з матчаў мусіў адбыцца ў чэрвені, другі — у лістападзе. Але пасля таго, што адбылося, суседзі перадумалі і вырашылі шукаць іншых супернікаў. Праз палітычную сітуацыю ў нашым астраўку стабільнасці — і з меркаваннем бяспекі.

## Кубак Беларусі. Фінал

БАТЭ (Барысаў) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 2:1.

Гомель. Стадыён «Цэнтральны». 6253 гледачы.

ГАЛЫ: 1:0 — Драгун (31). 1:1 — Камароўскі (59). 2:1 — Рыбак (77).

## Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 10. 19-22.05.** ІСЛАЧ (Мінскі раён) — ВІЦЕБСК — 0:1 (147; Вандэрсан, 55). БАТЭ (Барысаў) — СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — 2:1 (2309; Умараў, 31, з пенальці, Я.Філіпавіч, 37 — Ясінскі, 7). ШАХЦЁР (Салігорск) — ДЫНАМА (Мінск) — 1:0 (3040; Дарба, 81). СЛАВІЯ (Мазыр) — ГОМЕЛЬ — 2:4 (1560; Нар, 6, Тэттэ, 30 — Сайчыч, 12, Гомза, 15, Юдзянкоў, 62, Някрасаў, 89). МІНСК — ДЫНАМА (Брэст) — 1:0 (515, Лопес, 56). ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — СЛУЦК — 1:0 (100; Зулфікараў, 75). СМАРГОНЬ — ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — 1:3 (923; Яцкевіч, 25, з пенальці — Хачатуран, 57, Мікалаевіч, 68, Кляньё, 71). РУХ (Брэст) — НЁМАН (Гродна) — 2:0 (530; Савіцкі, 80, з пенальці, Пятрэнка, 95+).

**ТУР 11. 28.05.** Віцебск — Смаргонь, Дынама Мн. — Рух. 29.05. Тарпеда-БелАЗ — Шахцёр, БАТЭ — Славія, Нёман — Спадарожнік. 30.05. Гомель — Мінск, Слуцк — Іслач, Дынама Бр. — Энергетык-БДУ.

**Фота з сацсетак**

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 10 | 10 | 0 | 0 | 24-5 | 30 |
| 2. | БАТЭ | 10 | 7 | 2 | 1 | 20-10 | 23 |
| 3. | Дынама Мн. | 10 | 6 | 2 | 2 | 16-6 | 20 |
| 4. | Гомель | 10 | 5 | 3 | 2 | 18-10 | 18 |
| 5. | Рух | 10 | 5 | 3 | 2 | 18-11 | 18 |
| 6. | Дынама Бр. | 10 | 4 | 5 | 1 | 11-4 | 17 |
| 7. | Тарпеда-БелАЗ | 10 | 4 | 3 | 3 | 12-14 | 15 |
| 8. | Віцебск | 10 | 3 | 6 | 1 | 9-6 | 15 |
| 9. | Іслач | 10 | 4 | 1 | 5 | 15-18 | 13 |
| 10. | Мінск | 10 | 3 | 4 | 3 | 15-15 | 13 |
| 11. | Энергетык-БДУ | 10 | 2 | 3 | 5 | 10-12 | 9 |
| 12. | Славія | 10 | 2 | 2 | 6 | 11-17 | 8 |
| 13. | Слуцк | 10 | 1 | 4 | 5 | 8-16 | 7 |
| 14. | Нёман | 10 | 1 | 3 | 6 | 6-13 | 6 |
| 15. | Смаргонь | 10 | 1 | 1 | 8 | 4-22 | 4 |
| 16. | Спадарожнік | 10 | 1 | 0 | 9 | 4-22 | 3 |

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Знаёмцеся з тымі, у каго дзень народзінаў — у траўні і пачатку чэрвеня.**

## 30 траўня

43-ці дзень народзінаў сустрэне за кратамі **Дзяніс Леанідавіч Граханаў.** Ён быў затрыманы 10 верасня дома ў Мінску за нанясенне надпісу



«Не забудзем» на тратуары каля ст. м. «Пушкінская».

Утрымліваўся пад вартай да 13 верасня і першапачаткова праходзіў па крымінальнай справе, узбуджанай па арт. 341. Пасля знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе. Аднак 22 кастрычніка Дзяніс быў зноў затрыманы, а абвінавачванне было перакваліфікаванае на ч. 2 арт. 339 КК — «Хуліганства, здзейсненае групай асобаў», і ч. 2 арт. 218 КК — «Наўмысныя знішчэнне альбо пашкоджанне маёмасці, здзейсненыя агульнанебяспечным спосабам альбо якія пацягнулі прычыненне шкоды ў буйным памеры».

На судзе 8 снежня Дзянісу прысудзілі паўтара года абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. 15 красавіка Дзяніс Граханаў пачаў адбываць пакаранне.

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №45. 225073, Брэсцкая вобл., Камянецкі раён, в. Сушкі.

39 гадоў споўніцца **Аляксандр Уладзіміравічу Лапуху** — фіганту справы аб масавых беспарадках, узбуджанай па



падзеях у Пінску ў ноч пасля выбараў 9 жніўня. Вядома, што 24 сакавіка Аляксандра затрымалі ў Пінску і змясцілі пад варту. Да суда ён утрымліваўся ў СІЗА №6 у Баранавічах.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

Сваё 35-годдзе сустрэне за кратамі **Іван Аляксандравіч Андрушойць.** Быў затрыманы 5 лістапада, дома ў яго правялі



вобшук, забралі тэхніку і дакументы.

Яму прад'яўлена абвінавачанне па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу: 342 КК і 349 КК (доступ да кампутарнай інфармацыі, учынены групай асоб па папярэдняй змове). Другі артыкул нібыта за ўзлом кампутарнай сістэмы Мінгарвыканкама. Па гэтай жа справе праходзяць палітвязні Кім Самусенка і Павел Дрозд.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

## 1 чэрвеня

23 гады споўніцца **Марыі Віктараўне Каленік** — студэнтцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Была за-



трымана 12 лістапада ў межах крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК РБ. У кватэры, у якой жыве дзяўчына, прайшоўператрус.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Таксама 23-годдзе адзначыць **Ягор Храменя,** які да заключэння пад варту працаваў на ААТ «Белшына» электрагазазваршчыкам, займаўся адзінаборствамі. Перамагаў на Адкрытым кубку Беларусі па ММА (змяшаныя баявыя майстэрствы).

Ягора абвінавацілі ў тым, што ўвечары 9 жніўня ён «здзейсніў гвалт у дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў у мэтах перашкодзіць яго



законнай дзейнасці». Гаворка ідзе пра ўдары ў галаву і распыленне пярцовага балончыка «Шок», якое прывяло да апёку сятчаткі вока.

13 лістапада Ягора прысудзілі да 2 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму з выплатай маральнай шкоды ў памеры 1 000 рублёў.

Адбываць пакаранне хлопца накіравалі ў Папраўчую калонію №3 («Віцьба»), атрад №2.

30-годдзе адзначыць **Сяргей Сяргеевіч Яфімаў** — жыхар Гомеля, асуджаны на 3 гады калоніі па артыкуле 364 КК.

Згодна з абвінавачаннем, у Гомелі ўвечары 9 жніўня ў раёне сквера Кірылы Тураўскага ён падбег да супрацоўніка АМАПа, распыліў пярцовы газ яму ў твар з газавага балончыка і ўдарыў яго ў галаву. На дапамогу міліцыянту падбеглі двое калег і



спрабавалі затрымаць нападніка, той спрабаваў вырвацца, распыляў газ і нанёс аднаму з супрацоўнікаў «не менш за дзевяць удараў у вобласць галавы і тулава». Доказам у судзе з'явіліся паказанні пацярпелых міліцыянтаў, а таксама відэа, знятае камерамі відэаназірання на плошчы Леніна ў Гомелі.

На судзе Сяргей распавёў, што нападаць на міліцыянтаў у той вечар не збіраўся, але спалохаўся, што пачнуцца затрыманні, расхваляваўся, стаў уцякаць, а калі наткнуўся на амапаўцаў, дастаў балончык і распыліў.

Адрас для лістоў: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.

## 2 чэрвеня

49 гадоў споўніцца **Андрэю Віктаравічу Іванюшыну** — байкеру з Мінска. Яго абвіна-



вацілі ў гвалце ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі — арт. 364 КК.

Інцыдэнт адбыўся 19 верасня каля ТЦ «Еўропа», калі невядомыя сталі затрымліваць аднаго з матацыклістаў, а астатнія пачалі яго абараняць. 1 лютага ў межах узбуджанай па гэтым інцыдэнце крымінальнай справе Андрэй Іванюшын быў узяты пад варту. Раней былі затрыманыя яшчэ два чалавекі — Мікіта Траццякевіч і Мікіта Афанасьеў.

26 лютага ў судзе Савецкага раёна Мінска Андрэй Іванюшын атрымаў два з паловай гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

40-годдзе сустрэне за кратамі **Дзмітрый Мікалаевіч Івашкоў** — сябра ініцыятыўнай групы Святланы Ціханоўскай.




Быў затрыманы 27 верасня ў Гомелі на мірнай акцыі пратэсту. Пасля быў пераведзены ў Мінск: спачатку ў ІЧУ, а потым — у СІЗА.

Знаходзіцца ў статусе падазраванага па ч. 2 арт. 293 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.

## 3 чэрвеня

22-гі дзень народзінаў сустрэне **Мікіта Паўлавіч Літвіненка.** Быў затрыманы 13 ве-



расня 2020 года супрацоўнікамі ГУБАЗіК. Пры затрыманьні быў збіты.

Спачатку яго арыштавалі на 15 сутак за ўдзел у акцыі пратэсту, аднак пасля заканчэння тэрміну арышту яго не выпусцілі, а затрымалі ўжо ў якасці падазраванага па крымінальнай справе аб удзеле ў масавых беспарадках (ч.2 арт. 293 КК). 5 кастрычніка яму было прад'яўлена абвінавачанне.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

24 гады споўніцца **Віктару Шауру.** Ён быў затрыманы ў Наваполацку ўвечары 10 жніўня. 13



жніўня яго маці патэлефанаваў следчы з Віцебска і паведаміў, што яе сына падазраюць па ч. 2 арт. 293 КК. У кватэры Віктара прайшоў ператрус. Утрымліваўся ў СІЗА-1 г. Віцебска. Затым яго адпусцілі пад падпіску.

21 студзеня Віктара Шауру (разам з яшчэ адным падсудным па справе Віталём Шыцікавым) асудзілі на два гады «хіміі» па арт. 342 КК.

Паводле абвінавачання, «Віктар Шаура разам з Віталём Шыцікавым і іншымі неўстаноўленымі асобамі вечарам 10 жніўня прынялі актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушылі грамадскі парадак <…> разам з іншымі рухаліся па праезнай частцы вуліцы Маладзёжнай Наваполацка, ішлі наперадзе групы грамадзян, на забаронены сігнал святлафора, перакрывалі рух транспарту, гучна крычалі «Жыве Беларусь!», «Ганьба», «Позор», «Уходи!», пляскалі ў далоні, нецэнзурна лаяліся ў бок прадстаўнікоў праваахоўных органаў».

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №21. 247760, г. Мазыр, бульвар Юнасці, 24.

## 5 чэрвеня

19 гадоў споўніцца **Віталіі Анатольеўне Бандарэнка** — фігурантцы справы масавых беспарадкаў (ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса), узбуджанай па падзеях у Брэсце 10 жніўня 2020 года.

Яе мусілі пачаць судзіць у сярэдзіне лютага разам з іншымі 9 фігурантамі гэтай справы, аднак да суда дзяўчына з'ехала за мяжу. А пасля вярнулася, калі даведалася, што затрымалі яе хлопца. 1 сакавіка яна была затрымана.

У Ленінскім судзе Брэста 21 траўня Віталія Бандарэнка атрымала 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №886

Падпісана да друку 27.05.2021. 8.00. Наклад 7500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.